КАМІТЭТ ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ ПРЫ САВЕЦЕ
МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ЦЭНТР
ДАКУМЕНТАЗНАЎСТВА І АРХІЎНАЙ СПРАВЫ

# РАССАКРЭЧАНЫЯ АРХІВЫ

## *ДАКУМЕНТЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ АРХІВАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ЯКІЯ ПЕРАВЕДЗЕНЫ НА АДКРЫТАЕ ЗАХОЎВАННЕ*

**ДАВЕДНІК**

ВЫПУСК 1

**Мінск 1993 г.**

ББК 63.3 (2Б)
Р24
Складальнікі В.А. Дабычына
В.І. Пташнікава
Рэдактар А.М. Міхальчанка
Рэс-Р24
Рассакрэчаныя архівы: Дакум. дзярж. арх. Рэспублікі Беларусь, якія пераведзены на адкрытае захоўванне: Давед. Вып. 1 / Камітэт па архівах і справаводству пры СМ РБ;
БелНДЦДАС Склад. В.А. Дабычына, В. І. Пташнікава. — Мн.: БелНДЦДАС, 1993. — 147 с.
ISBN 5-85700-159-5.

У гэты даведнік увайшлі звесткі аб дакументах цэнтральных дзяржаўных архіваў, дзяржаўных архіваў абласцей і іх філіялаў па гісторыі грамадска-палітычнага, эканамічнага і сацыяльна-культурнага развіцця Беларусі ў перыяд уваходжання ў склад Расійскай імперыі (XVIII—XIX стст.), уваходжання Заходняй Беларусі ў склад буржуазнай Польшчы (1919—1939 гг.) і савецкага перыяду (1917 г. — 70-я гады), якія раней знаходзіліся на сакрэтным захоўванні.

Выданне адрасуецца архівістам, навукоўцам-гісторыкам, краязнаўцам і іншым даследчыкам, які займаюцца гісторыяй Беларусі.

0503020903—00
р ------------93 ББК 63.3 (2Б)
М 318 (03) —93

ISBN 5-85700-159-5

# ПРАДМОВА

З мэтай пашырэння інфармацыйнай базы для даследаванняў па гісторыі Беларусі Камітэт па архівах і справаводству пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь падрыхтаваў даведнік аб дакументах дзяржаўных архіваў рэспублікі, якія пераведзены на адкрытае захоўванне. Раней яны знаходзіліся на сакрэтным захоўванні. Дзяржаўная архіўная служба рэспублікі ажыццяўляе навукова-інфармацыйную дзейнасць па забеспячэнню грамадства рэтраспектыўнай дакументнай інфармацыяй. З 1987 г. у архівах рэспублікі праводзіцца мэтанакіраваная праца па ліквідацыі абмежаванняў на выкарыстанне дакументаў, якія знаходзіліся на сакрэтным захоўванні. У выніку на адкрытае захоўванне пераведзена 119337 спраў (58,4% ад агульнай колькасці засакрэчаных дакументаў). Цалкам скончана праца ў гэтым накірунку з дакументамі дарэвалюцыйнага часу і дакументамі ўстаноў Заходняй Беларусі ў перыяд уваходжання ў склад Польшчы (1919–1939 гг.), а таксама з дакументамі беларускіх нацыянальных партый, устаноў і арганізацый.

Актыўна ідзе перавод на адкрытае захоўванне дакументаў савецкага перыяду. На 1 студзеня 1991 г. 56% дакументаў, якія раней знаходзіліся на закрытым захоўванні, сталі даступнымі для даследчыкаў.

Даведнік (выпуск 1) складаецца з чатырох раздзелаў:

1. Дакументы па гісторыі Беларусі дарэвалюцыйнага перыяду.
2. Дакументы ўстаноў, арганізацый і прадпрыемстваў савецкага перыяду.
3. Дакументы ўстаноў Заходняй Беларусі ў перыяд уваходжання ў склад Польшчы (1919–1939 гг.)
4. Калекцыя дакументаў аддзела рукапісаў Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў гор. Вільні (1835–1942 гг.)

У раздзелах фонды размешчаны па значнасці ўстаноў-фондаўтваральнікаў. Назвы фондаў даюцца па апошняй назве фондаўтваральнікаў. У характарыстыку дакументаў уваходзяць назва фонду, яго нумар, колькасць рассакрэчаных спраў, храналагічныя рамкі гэтых спраў, у дужках даецца ўмоўнае абазначэнне назвы дзяржаўнага архіва, у якім захоўваюцца дакументы.

Анатацыі складзены як асобныя на дакументы фондаў, так і агульныя на групы аднародных спраў (фонды выканкамаў, воінскія ўстановы, добраахвотныя ваенізаваныя таварыствы і інш.). Пры наяўнасці дакументаў, характэрных для пэўнага фондаўтваральніка,

назва яго абумоўлена ў агульнай характарыстыцы, якая дадзена на групу фондаў.

Перад кожным раздзелам маецца кароткая даведка аб дакументах, што ўвайшлі ў раздзел.

У першым выпуску даведніка матэрыялы савецкага перыяду прадстаўланы ў асноўным дакументамі, якія захоўваюцца ў абласных дзяржаўных архівах і іх філіялах. Што датычыць цэнтральных архіваў рэспублікі, то рассакрэчванне дакументаў трэба праводзіць у БДА і БДАНТД. У БДА на агульнае захоўванне з закрытага пераведзены толькі адзін фонд Наркамата ўнутраных спраў БССР.

У гэтым архіве праца па рассакрэчванню дакументаў ускладняецца ў сувязі з вялікім аб'ёмам фондаў.

У БДАНТД праведзена комплексна рассакрэчванне фондаў Беларускага дзяржаўнага праектнага інстытута "Белдзяржпраект", праектнага Інстытута "Віцебскграмадзянпраект" і БелНДІ градабудаўніцтва.

Інфармацыя аб далейшым пераводзе дакументаў на адкрытае захоўванне будзе дадзена ў наступных выпусках даведніка. Для зручнага карыстання да даведніка складзены: агульная прадмова, прадмова да кожнай часткі, спіс скарачэнняў і скарочаных слоў, спіс умоўных абазначэнняў назваў дзяржаўных архіваў і змест.

Даведнік складзены на падставе матэрыялаў, якія пададзены дзяржаўнымі архівамі.

## СПІС
## скарачэнняў і скарочаных слоў

*ААФ — Аб'яднаны архіўны фонд*
*АДПУ — Аб'яднанае Дзяржаўнае Палітычнае Упраўленне*
*Белпаліграфвыдат — Упраўленне па справах паліграфічнай прамысловасці, выдавецтваў і кніжнага гандлю*
*ВСНГ БССР — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі БССР*
*г. (гг.) — год (гады)*
*гор. — горад*
*губадмаддзел — адміністрацыйны аддзел губернскага выканкама*
*ДПУ БССР — Дзяржаўнае Палітычнае Упраўленне БССР*
*з.г. — заштатны горад*
*інш. — іншыя*
*КДБ — Камітэт Дзяржаўнай Бяспекі*
*КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі*
*КПЗУ — Камуністычная партыя Заходняй Украіны*
*м. — мястэчка*
*МУС — Міністэрства ўнутраных спраў*
*МДБ — Міністэрства дзяржаўнай бяспекі*
*Мінюст, МЮ БССР — Міністэрства юстыцыі БССР*
*МППА — Мясцовая проціпаветраная абарона*
*Наркамздароўя БССР — Народны камісарыят аховы здароўя*
*Наркамзем — Народны камісарыят земляробства БССР*
*Наркамлес — Народны камісарыят лясной прамысловасці*
*Наркампрацы БССР — Народны камісарыят працы БССР*
*НДА — навукова-даведачны апарат*
*НК РСІ БССР — Народны камісарыят Рабоча-сялянскай інспекцыі БССР*
*НКУС БССР — Народны камісарыят унутраных спраў БССР*
*пас. — пасёлак*
*РАНКУС — раённае аддзяленне народнага камісарыята ўнутраных спраў*
*РСДРП — Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя*
*РКСМ — Расійскі Камуністычны Саюз Моладзі*
*с. — справа (спраў)*
*ст. — станцыя*
*СУ БССР — Статыстычнае ўпраўленне БССР*
*УПВІ МУС БССР — Упраўленне па справах ваеннапалонных і інтэрніраваных МУС БССР*
*ВЧК — Усерасійская Надзвычайная Камісія*
*ф. — фонд*

*ФЗН — фабрычна-заводскае навучанне*
*ЦАУ — Цэнтральнае архіўнае ўпраўленне*
*ЦВК — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт*
*ЦК — Цэнтральны Камітэт*
*ЭКАНА — Эканамічная Нарада*

## СПІС
## умоўных абазначэнняў назваў дзяржаўных архіваў

*БДА — Беларускі дзяржаўны архіў (былы ЦДАКР — Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь)*

*БДАМЛМ — Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь*

*БДГА — Беларускі дзяржаўны гістарычны архіў у г. Гродна*

*НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь*

*БДАНТД — Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі Рэспублікі Беларусь*

*Бр. — Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці*

*Бар. — Філіял Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці ў г. Баранавічы*

*Баб. — Філіял Дзяржаўнага архіва Магілёўскай вобласці ў г. Бабруйску*

*В. — Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці*

*Гл. — Філіял Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці ў г. Глыбокае*

*Гом. — Дзяржаўны архіў Гомельскай вобласці*

*Гр. — Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці*

*Коб. — Філіял Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці ў г. Кобрыне*

*Маг. — Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці*

*Маз. — Філіял Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці ў г. Мазыры*

*Мал. — Філіял Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці ў г. Маладзечна*

*Мн. — Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці*

*О. — Філіял Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці ў г. Оршы*

*Пін. — Філіял Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці ў г. Пінску*

*Пол. — Філіял Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці ў г. Полацку*

# I.
# ДАКУМЕНТЫ ЎСТАНОЎ ДАРЭВАЛЮЦЫЙНАГА ПЕРЫЯДУ (XIX — ПАЧ. XX СТСТ.), ЯКІЯ ПЕРАВЕДЗЕНЫ НА АДКРЫТАЕ ЗАХОЎВАННЕ

## Беларускі дзяржаўны гістарычны архіў
## Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

У I частку даведніка ўвайшлі дакументы дарэвалюцыйнага перыяду, якія захоўваюцца ў гістарычных архівах рэспублікі БДГА і НАРБ.

Гэта дакументы XIX — пач. XX стст. фондаў, якія стварыліся ў працэсе дзейнасці ўстаноў Гродзенскай, Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў, што ўваходзілі ў склад Расійскай Імперыі. У асноўным гэта дакументы з фондаў губернскіх канцылярый і праўленняў, органаў гарадскога і саслоўнага самакіравання, фондаў паліцыі, жандармерыі і сувязі.

Пры пабудове I часткі даведніка скарыстаны схемы даведнікаў гістарычных архіваў. Звесткі аб рассакрэчаных дакументах размешчаны па тэматыка-галіноваму прынцыпу ў 7 раздзелах:

1. Фонды мясцовых органаў дзяржаўнай улады і кіравання.
2. Фонды камісій па справах аб выбарах у Дзяржаўную думу.
3. Фонды органаў гарадскога і саслоўнага самакіравання.
4. Фонды судовых устаноў і пракуратуры.
5. Фонды паліцыі, жандармерыі і ахранкі.
6. Фонды ваенных устаноў.
7. Фонды гаспадарча-эканамічных устаноў.

## 1. ФОНДЫ МЯСЦОВЫХ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ І КІРАВАННЯ

### Губернскія канцылярыі

*Канцылярыя Віцебскага грамадзянскага губернатара, ф. 1430, 584 с., 1802—1917 гг. (НАРБ).*

Маніфест дэпутатаў Дзяржаўнай думы да расійскага сялянства. Дакументы аб дзейнасці РСДРП (пракламацыі, лістоўкі, брашуры, рапарты паліцмайстраў); справы па абвінавачванню за захоўванне і распаўсюджванне нелегальнай літаратуры. Матэрыялы аб арганізацыі гурткоў сацыял-дэмакратаў (адозвы, пракламацыі). Пракламацыі, брашуры партыі эсэраў; звесткі аб арыштах і наглядзе за сацыялістамі-рэвалюцыянерамі; спісы членаў партыі эсэраў, Бунда; справы па абвінавачванню аб прыналежнасці да Бунда, аб арганізацыі тайнага нагляду за студэнтамі.

*Канцылярыі Магілёўскага грамадзянскага губернатара, ф. 2001, 9 с., 1903–1917 гг. (НАРБ).*

Цыркуляры МУС аб пошуку замежных грамадзян. Справы па асабоваму складу.

*Канцылярыя Мінскага губернатара, ф. 295, 566 с., 1900–1917 гг. (НАРБ).*

Цыркуляры губернатара і Дэпартамента паліцыі МУС. Дакументы аб дзейнасці РСДРП (рапарты паліцэйскіх, справы аб наглядзе за палітычна ненадзейнымі); матэрыялы аб з'ездах партыі эсэраў, дзейнасці "Сялянскага саюза партыі эсэраў".

Дакументы аб дзейнасці палітычных і атэістычных гурткоў у гімназіях і рэальных вучылішчах; звесткі аб утрыманні ў турмах членаў РСДРП, Бунда, эсэраў, групы "Аб'яднаны савет". Матэрыялы аб прыналежнасці яўрэяў да Бунда, Паалей-Цыёну, эсэраў, анархістаў.

*Канцылярыя часовага генерал-губернатара г. Беластока, ф. 276, 9 с., 1905–1909 гг. (БДГА).*

Следчыя справы па абвінавачванню асоб у падбухторванні да забастовак, у прыналежнасці да палітычных партый, распаўсюджванні адозваў і інш.

**Губернскія праўленні**

*Мінскае губернскае праўленне, ф. 299, 467 с., 1842–1915 гг. (НАРБ).*

Фармулярныя спісы аб службе ў паліцыі.

*Віцебскае губернскае праўленне, ф. 1416, 762 с., 1890–1916 гг. (НАРБ).*

Паслужныя спісы паліцыі.

*Магілёўскае губернскае праўленне, ф. 2003, 1 с., 1914–1918 гг. (НАРБ).*

Фармулярныя спісы чыноўнікаў праўлення.

## 2. ФОНДЫ КАМІСІЙ ПА СПРАВАХ АБ ВЫБАРАХ У ДЗЯРЖАЎНУЮ ДУМУ

*Віцебская губернская па справах аб выбарах у Дзяржаўную думу камісія, ф. 2558, 2 с., 1905–1912 гг. (НАРБ).*

Спісы выбаршчыкаў.

*Полацкая павятовая па справах аб выбарах у Дзяржаўную думу камісія, ф. 2680, 2 с., 1906 г. (НАРБ).*

Справы аб унясенні ў спісы выбаршчыкаў.

*Янавіцкая 4 акруговая выбарчая камісія па выбарах у павятовыя сходы, ф. 3133, 1 с., 1917 г. (НАРБ).*

Пратаколы пасяджэнняў акруговай камісіі па выбарах гласных

у павятовы земскі сход.

## 3. ФОНДЫ ОРГАНАЎ ГАРАДСКОГА І САСЛОЎНАГА САМАКІРАВАННЯ

*Віцебская губернская па гарадскіх і земскіх справах установа, ф. 2508, 9 с., 1906–1907 гг. (НАРБ).*

Спісы выбаршчыкаў, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах у Дзяржаўную думу. Спіс выбаршчыкаў ад землеўладальнікаў валасцей і горадоў, абраных у склад з'ездаў.

**Гарадскія думы і ўправы.**

*Гомельская гарадская дума, ф. 2912, 2 с., 1917 г. (НАРБ).*

Пратаколы пасяджэнняў Думы; перапіска аб выбарах на гарадскія пасады, у члены Думы.

*Мінская гарадская дума, ф. 24, 4 с., 1917—1918 гг. (НАРБ).*

Цыркуляры Дэпартамента паліцыі. Спісы і заявы ў гласныя ад розных партый; заявы кандыдатаў у гласныя гарадской Думы ад партыі эсэраў. Выступленні яўрэйскага нацыянальнага блока, Бунда, польскага сацыялістычнага аб'яднання, меншавікоў, бальшавікоў на пасяджэннях блока аб выбарах у Думу і сумесных дзеяннях па абароне інтарэсаў пралетарыяту, аб адзінстве перад выбарамі.

Наказ бальшавіцкай фракцыі Думы дэлегатам на Дэмакратычны сход у Петраградзе 12 верасня 1917 г. Заява яўрэйскай фракцыі ў Думе і паведамленне Мінскага камітэта партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, Бунда аб бясчынствах нямецкіх акупантаў, май 1918 г.

*Беластоцкая гарадская ўправа, ф. 127, 1 с., 1870—1918 гг. (БДГА).*

Дакументы аб расквартараванні і рамонце памяшканняў 4-га дывізіёна, спісы членаў Беластоцкай гарадской паліцыі і інш.

*Віцебская гарадская ўправа, ф. 2496, 11 с., 1917 г. (НАРБ).*

Загады па паліцэйскаму ўпраўленню. Справы аб выбарах членаў на Ўстаноўчы сход і выбарах міравых суддзяў.

*Гомельская гарадская ўправа, ф. 2100, 3 с., 1917—1918 гг. (НАРБ).*

Справы аб выбарах міравых суддзяў. Перапіска з нямецкім камандаваннем, камендатурай аб лёсе арыштаваных і затрыманых асоб.

*Мінская гарадская ўправа, ф. 1, 18 с., 1916—1918 гг. (НАРБ).*

Рэзалюцыя Саюза служачых і рабочых аб адносінах да сацыял-дэмакратычнай фракцыі Мінскай гарадской думы.

**Валасныя праўленні**

*Смалянецкае, ф. 2575, 1 с., 1917 гг. (НАРБ).*

*Стрыжэўскае, ф. 2534, 1 с., 1917 гг. (НАРБ).*

Спісы выбаршчыкаў і кандыдатаў у члены Устаноўчага сходу па Віцебскай выбарчай акрузе і Стрыжэўскай воласці.

## 4. ФОНДЫ СУДОВЫХ УСТАНОЎ, ПРАКУРАТУРЫ

*Магілёўскі павятовы суд, ф. 3353, 5 с., 1908—1913 гг. (НАРБ).*

*Віцебскі акруговы суд, ф. 2644, 6 с., 1917 гг. (НАРБ).*

*Магілёўскі акруговы суд, ф. 2131, 58 с., 1883—1917 гг. (НАРБ).*

*Судовы следчы Магілёўскага акруговага суда па важных справах, ф. 3187, 1 с., 1917—1918 гг. (НАРБ).*

Фармулярныя спісы членаў судоў і міравых суддзяў; спісы аб службе чыноўнікаў судоў. Справы па абвінавачванню ў шпіянажы.

*Віцебскі ваенны пракурор злучанага суда карпусоў 5-й арміі, ф. 2525, 4 с., 1915—1917 гг. (НАРБ).*

Справы па абвінавачванню салдатаў 292 палка ў дэзерцірстве, непадпарадкаванні, шпіянажы.

## 5. ФОНДЫ ОРГАНАЎ ПАЛІЦЫІ, ЖАНДАРМЕРЫІ І АХРАНКІ

### Губернскія жандарскія ўпраўленні

*Віцебскае губернскае жандарскае ўпраўленне, ф. 2499, 224 с., 1899—1917 гг. (НАРБ).*

Цыркуляры Дэпартамента паліцыі МУС. Дакументы аб дзейнасці РСДРП (данясенні паліцыі, вопісы нелегальнай літаратуры, пратаколы вобыскаў, справы аб правядзенні дазнанняў); пракламацыі, спісы нелегальных пашпартоў сацыял-дэмакратаў Польшчы і Літвы. Дакументы аб дзейнасці партыі эсэраў; спісы членаў Бунда. Пракламацыі яўрэйскай рабочай партыі Паалей-Цыён; дакументы аб распаўсюджванні газет і пракламацый РСДРП і Бунда сярод насельніцтва.

Справы аб наглядзе, вышуку, праверцы палітычна ненадзейных асоб; звесткі аб выдатках на агентуру, сакрэтных супрацоўнікаў, утрыманне філёраў, наём канспіратыўных кватэр; спісы нелегальных выданняў.

*Мінскае губернскае жандарскае ўпраўленне, ф. 705, 29 с., 1897—1917 гг. (НАРБ).*

Спісы філёраў ахоўнага аддзялення. Дакументы аб дзейнасці РСДРП. Дзённік нагляду за членамі Мінскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі.

*Магілёўскае губернскае жандарскае ўпраўленне, ф. 2498, 14 с., 1910—1917 гг. (НАРБ).*

Цыркуляры Дэпартамента паліцыі МУС, данясенні аб устанаўленні нагляду за дзейнасцю Бунда. Дакументы аб дзейнасці РСДРП (спісы членаў, пратаколы пасяджэнняў, інструкцыі ЦК, данясенні паліцыі, пратаколы вобыскаў і г.д.). Агляд палітычнай дзейнасці грамадскіх арганізацый з сакавіка па красавік 1916 г. Спіс асоб, якія праводзілі рэвалюцыйную работу ў Расіі і Беларусі.

*Памочнік начальніка Гродзенскага губернскага жандарскага ўпраўлення ў Гродзенскім, Слонімскім і Ваўкавыскім паветах, ф. 369, 152 с., 1879, 1882, 1898, 1901—1917 гг. (БДГА).*

Наглядная справа па абвінавачванню рабочых запалкавых прадпрыемстваў пас. Альберцін у спяванні рэвалюцыйных песень. Справаздачы аб забастоўках.

*Памочнік начальніка Гродзенскага губернскага жандарскага ўпраўлення ў Беластоцкім і Сакольскім паветах, г. Беласток, ф. 588, 357 с., 1861, 1882, 1891, 1903—1917 гг. (БДГА).*

Загады па ўпраўленню. Справы аб узмацненні нагляду за дзейнасцю палітычных партый.

*Унтэр-афіцэры дадатковага штату Гродзенскага губернскага жандарскага ўпраўлення ў Беластоцкім і Сакольскім паветах*

*пункт пас. Гарадок, ф. 590, 3 с., 1889—1915 гг. (БДГА).*

*пункт г. Кнышын, ф. 594, 6 с., 1915 г. (БДГА).*

*пункт пас. Соколка, ф. 591, 9 с., 1889, 1913—1915 гг. (БДГА).*

*пункт м. Харошч, ф. 592, 6 с., 1889, 1915 гг. (БДГА).*

Справы аб наглядзе за дзейнасцю рэлігійных арганізацый, аб вышуку асоб, якія падазраюцца ў шпіянажы, дэзерцірстве.

**Паліцэйскія ўпраўленні**

*Мінскае жандарскае паліцэйскае ўпраўленне чыгунак, г. Мінск, ф. 1217, 1 с., 1905 г. (НАРБ).*

Паслужныя спісы.

*Гарадскія паліцэйскія ўпраўленні*

*Беластоцкае, ф. 589, 324 с., 1907—1916 гг. (БДГА).*

*Віцебскае, ф. 2631, 1 с., 1917 г. (НАРБ).*

Цыркуляры аб вышуку асоб, якія знаходзіліся пад наглядам паліцыі. Фармулярныя спісы аб службе.

*Мінскае, ф. 300, 85 с., 1904—1912 гг. (НАРБ).*

Дакументы аб дзейнасці партыі сацыял-рэвалюцыянераў. Цыркуляры Мінскага губернатара, Дэпартамента паліцыі паліцмайстрам і спраўнікам. Загады Мінскага паліцмайстра. Звесткі аб дэзерцірах, шпіёнах, асобах, якія высланы на акопныя работы. Рапарты прыставаў аб палітычным настроі насельніцтва; справаздачы аб рабоце Мінскага вышукнога аддзялення. Ведамасці

грашовых сродкаў на ўтрыманне гарадской паліцыі.

*Беластоцкае ахоўнае аддзяленне Беластоцкага гарадскога паліцэйскага ўпраўлення, ф. 1066, 5 с., 1907—1910 гг. (БДГА).*

Справа аб вышуку асоб, якія падазраваліся ў прыналежнасці да палітычных партый.

**Павятовыя паліцэйскія ўпраўленні**

*Віцебская губерня*

*Аршанскае, ф. 2009, 2 с., 1908 г. (НАРБ).*

*Гарадоцкае, ф. 2495, 5 с., 1906—1912 гг. (НАРБ).*

Справы аб наглядзе паліцыі за палітычна ненадзейнымі, распаўсюджвальнікамі палітычнай літаратуры; стварэнні ўзброеных каравулаў, вышуку замежных падданых, па асабоваму складу.

*Гродзенская губерня*

*Беластоцкае, ф. 301, 187 с., 1886—1918 гг. (БДГА).*

*Бельскае, ф. 692, 14 с., 1913—1914 гг. (БДГА).*

*Сакольскае, ф. 688, 66 с., 1886—1915 гг. (БДГА).*

Фармулярныя спісы аб службе паліцэйскіх наглядчыкаў. Справы аб вышуку асоб, якія скрываліся ад нагляду паліцыі, выдачы замежных пашпартоў.

*Мінская губерня*

*Мінскае, ф. 301, 1 с., 1915 г. (НАРБ).*

*Навагрудскае, ф. 614, 1 с., 1910 г. (НАРБ).*

Кніга для запісаў штату варты Мінскага суда. Спісы аб службе станавых прыставаў, павятовых спраўнікаў.

*Магілёўская губерня*

*Горацкае, ф. 2005, 9 с., 1903—1917 гг. (НАРБ).*

*Чэрыкаўскае, ф. 2011, 3 с., 1917 г. (НАРБ).*

Цыркуляры МУС; копіі загадаў па Горацкай турме; спісы паліцэйскіх, справы па асабоваму складу паліцэйскіх, гарадавых,ураднікаў.

**Прыставы**

*Гродзенская губерня*

*1-га ўчастка гор. Беластока, ф. 720, 2 с., 1903, 1915 гг. (БДГА).*

*2-га ўчастка гор. Беластока, ф. 700, 7 с., 1902—1915 гг. (БДГА).*

*4-га ўчастка гор. Беластока, ф. 706, 1 с., 1914 г. (БДГА).*

Спісы германскіх і аўстрыйскіх падданых, якія жылі ў гор. Беластоку. Цыркуляры Дэпартамента паліцыі аб парадку выдачы пашпартоў замежным падданым; аб вышуку асоб, якія займаліся шпіянажам. Спісы асоб, якія былі пад наглядам паліцыі.

*3-га ўчастка гор. Беластока, ф. 300, 5 с., 1903—1915 гг.*

*(БДГА).*

Цыркуляры Дэпартамента паліцыі аб накладанні арышту на нелегальныя друкаваныя выданні; аб вышуку асоб, устанаўленні нагляду за арганізацыяй "Белая сотня" і інш.

*Беластоцкі павет*

*1-га стану, м. Заблудава, ф. 319, 8 с., 1886—1915 гг. (БДГА).*

*2-га стану, гор. Беластока, ф. 690, 8 с., 1896—1915 гг. (БДГА).*

*3-га стану, з.г. Кнышына, ф. 702, 6 с., 1914 г. (БДГА).*

*4-га стану, з.г. Ганіёдза, ф. 675, 35 с., 1904—1915 гг. (БДГА).*

Цыркуляры Гродзенскага губернатара аб вышуку асоб, якія належалі да палітычных партый, прынящці захадаў да ліквідацыі забастовак; справы аб спагнанні штрафу за ўхіленне ад воінскай павіннасці, аб накладанні арышту на нелегальныя выданні; спісы асоб, якія знаходзіліся пад наглядам паліцыі; загады па асабоваму складу.

*Сакольскі павет*

*1-га стану, з.г. Кузніца, ф. 698, 6 с., 1905—1915 гг. (БДГА).*

*3-га стану, з.г. Васількаў, ф. 699, 3 с., 1910—1914 гг. (БДГА).*

Цыркуляры МУС аб увядзенні паліцэйскай варты ў губерні; справы аб устанаўленні нагляду за замежнымі падданымі; спісы паліцэйскіх дзесяцкіх, тайных агентаў па эміграцыі рускіх у Амерыку.

*Мінская губерня*

*Барысаўскі павет*

*2-га стану, м. Смалявічы, ф. 1056, 2 с., 1907 г. (НАРБ).*

*Бабруйскі павет*

*3-га стану, м. Глуск, ф. 1060, 1 с., 1907 г. (НАРБ).*

Спісы паліцэйскіх, прыставаў, ураднікаў, наглядчыкаў, гарадавых.

*Ігуменскі павет*

*1-га стану, м. Узда, ф. 1063, 3 с., 1915 г. (НАРБ).*

Спісы ўладальнікаў фальваркаў і чыноўнікаў, якія знаходзіліся на ўліку ў паліцыі.

*Мінскае вышукное аддзяленне, ф. 706, 4 с., 1910—1917 гг. (НАРБ).*

Пастановы вышукнога аддзялення. Звесткі аб агентах; спісы паліцмайстраў, гарадавых, прыставаў.

*Губернскія турэмныя інспекцыі*

*Віцебская, ф. 2627, 119 с., 1905—1918 гг. (НАРБ)*

*Гродзенская, ф. 548, 16 с., 1889, 1908—1915 гг. (БДГА)*

*Мінская, ф. 303, 12 с., 1900—1917 гг. (НАРБ)*

Перапіска з Галоўным турэмным упраўленнем аб ссыльных,

узмацненні нагляду за зняволенымі, правядзенні вобыскаў; справы аб пакаранні салдат за братанне з немцамі ў 1917 г., аб прысуджэнні да катаржных работ за ваенны шпіянаж, прыналежнасць да Бунда; рэвізіі турмаў па Віцебскай губерні; справы па асабовому складу.

*Бабруйскі турэмны замак, ф. 305, 4 с., 1900—1918 гг. (НАРБ).*

Ведамасці аб штаце, жалаванні служыцеляў турмы. Справаздача аб харчаванні зняволеных.

*Паліцэйскі наглядчык гор. Саколка Сакольскага павятовага паліцэйскага ўпраўлення, ф. 691, 4 с., 1909—1913 гг. (БДГА).*

Цыркуляр Дэпартамента паліцыі аб накладанні арышту на друкаваныя выданні. Фармулярныя спісы аб службе чыноў паліцыі.

## 6. ФОНДЫ ВАЕННЫХ УСТАНОЎ, МЫТНІ

*Полацкі кадэцкі корпус, ф. 2613, 56 с., 1853—1915 гг. (НАРБ).*

Загады па корпусу, атэстацыйныя сшыткі кадэтаў, справы аб пераводзе выхаванцаў у ваенныя школы; спісы кадэтаў.

*Граеўская мытня Расійскага мытнага ўпраўлення ў Царстве Польскім, ф. 1196, 38 с., 1875—1918 гг. (НАРБ).*

Журналы выходных дакументаў мытні. Справы па асабовому складу.

## 7. ФОНДЫ ГАСПАДАРЧА-ЭКАНАМІЧНЫХ УСТАНОЎ

**Фонды ўстаноў сувязі**

**Упраўленне Гродзенскай паштова-тэлеграфнай акругі**

*паштова-тэлеграфныя канторы*

*Крынская, ф. 1767, 1 с., 1914 г. (БДГА)*

*Малкінская, ф. 1658, 23 с., 1886—1918 гг. (БДГА)*

*паштова-тэлеграфныя аддзяленні*

*Гаўролінскае, ф. 1768, 4 с., 1890—1915 гг. (БДГА)*

*Зарэмбы-Касцельнае, ф. 1141, 3 с., 1914—1917 гг. (БДГА)*

*Лапскае, ф. 1139, 2 с., 1913—1914 гг. (БДГА)*

*Снядоўскае, ф. 1137, 1 с., 1899—1917 гг. (БДГА)*

Цыркуляры начальніка акругі па пытаннях адпраўкі і цэнзуры карэспандэнцыі, яе перасылкі ў прыфрантавыя раёны, перасылкі каштоўнасцей за мяжу; накладанні арышту на часопісы "Современный мир", "Полярная звезда"; аб перлюстрацыі пісьмаў і іншай карэспандэнцыі, якая паступае з-за мяжы.

**Упраўленне Люблінскай паштова-тэлеграфнай акругі**

*Ізбіцкае паштова-тэлеграфнае аддзяленне, ф. 1154, 1 с., 1917 гг. (БДГА).*

Перапіска з паштовымі аддзяленнямі па арганізацыйных

пытаннях.

**Фінансавыя ўстановы**

*Мінская губернская кантрольная палата, ф. 45, 574 с., 1914—1917 гг. (НАРБ).*

Дакументы па асабоваму складу.

## II.
## ДАКУМЕНТЫ ФОНДАЎ УСТАНОЎ, АРГАНІЗАЦЫЙ І ПРАДПРЫЕМСТВАЎ САВЕЦКАГА ПЕРЫЯДУ

### Беларускі дзяржаўны архіў
### Абласныя дзяржаўныя архівы і іх філіялы

У II частку даведніка ўвайшлі дакументы савецкага перыяду, якія захоўваюцца ў БДА, абласных архівах і іх філіялах. Гэта дакументы рэспубліканскіх, губернскіх, акруговых, абласных і раённых устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў, якія характарызуюць найважнейшыя бакі грамадска-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця рэспублікі і на якіх раней стаяў грыф "Сакрэтна". Дакументы, што ўвайшлі ў гэты даведнік, арганічна дапаўняюць дакументы, якія знаходзяцца на адкрытым захоўванні, таму што складаюць адзіны комплекс, які адлюстроўвае дзейнасць той ці іншай установы.

II частка даведніка пабудавана па тэматыка-галіноваму прынцыпу і складаецца з наступных раздзелаў:

1. Мясцовыя органы дзяржаўнай улады і кіравання.
2. Правасуддзе. Нагляд за законнасцю. Ахова грамадскага парадку.
3. Узброеныя сілы.
4. Грамадскія арганізацыі.
5. Друк.
6. Народная гаспадарка. Арганізацыя і кіраванне народнай гаспадаркай. Планаванне. Фінансы. Фінансаванне. Статыстыка. Улік. Прамысловасць.
7. Будаўніцтва. Архітэктура.
8. Кааперацыя.
9. Транспарт.
10. Сувязь.
11. Сельская гаспадарка.
12. Лясная гаспадарка.
13. Камунальная гаспадарка.
14. Гандаль. Забеспячэнне. Нарыхтоўкі. Збыт.
15. Народная адукацыя.

16. Архівы.
17. Культура. Мастацтва.
18. Ахова здароўя.
19. Фізкультура і спорт.
20. Палітыка ў адносінах да рэлігіі і царквы.

## 1. МЯСЦОВЫЯ ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ І КІРАВАННЯ

*Аддзел упраўлення Віцебскага губваенрэўкама, ф. 2262, 1 с., 1919 г. (В)*

Пратаколы павятовых і валасных з'ездаў Саветаў і камітэтаў вясковай беднаты Віцебскай губерні.

*Бабруйскі павятовы рэвалюцыйны камітэт (рэўкам), ф. 281, 6 с., 1918—1919 гг. (Баб)*

Копіі цыркуляраў Мінскай казённай палаты фінансаваму аддзелу і заявы на выдачу прамысловых пасведчанняў; дакладныя аб спагнанні надзвычайнага рэвалюцыйнага падатку; аб руху дзяржаўных падаткаў і ведамасць нацыяналізаваных маёнткаў 1-й катэгорыі з зазначэннем іх уладальнікаў; дакументы аб абкладанні надзвычайным рэвалюцыйным падаткам.

*Слуцкі павятовы ваенна-рэвалюцыйны камітэт, ф. 1786, 1 с., 1919 г. (Мн)*

Распараджэнні камісарыята дзяржаўнага кантролю па пытаннях справаздачнасці і праверак, штатны расклад аддзела, спіс плацельшчыкаў надзвычайнага рэвалюцыйнага падатку па Пукаўскай воласці.

**Валасныя рэвалюцыйныя камітэты**

*Дзернавіцкі, ф. 782, 3 с., 1919—1920 гг. (Пол)*
*Дудзіцкі, ф. 441, 2 с., 1920 г. (Маз)*
*Зябкаўскі, ф. 786, 2 с., 1920 г. (Пол)*
*Кахановіцкі, ф. 785, 6 с., 1919—1920 гг. (Пол)*
*Ляскавіцкі, ф. 79, 1 с., 1920 г. (Маз)*
*Несінскі, ф. 1382, 1 с., 1920 г. (В)*
*Старынскі, ф. 1672, 1 с., 1920 г. (В)*
*Тураўскі, ф. 441, 2 с., 1920 г. (Маз)*
*Ушацкі, ф. 633, 1 с., 1920 г. (Пол)*

Загад камандуючага Заходнім фронтам аб барацьбе са шпіянажам і бандытызмам, дэзерцірствам; загады павятовых ваенкаматаў аб воінскай і працоўнай павіннасці; пастановы СНК за подпісам У.І. Леніна аб ільготах для сем'яў чырвонаармейцаў.

Анкеты на палітычна ненадзейных грамадзян, якія падлягаюць

высяленню, вопісы маёмасці; звесткі аб пацярпеўшых ад контррэвалюцыі грамадзянах воласці; спісы палітычна ненадзейных грамадзян, дэзерціраў працы, ваеннаслужачых, асоб, якія не вярнуліся з палону; спісы ўладальнікаў прыватных прадпрыемстваў, гандляроў, служыцеляў рэлігійнага культу; спісы сельскіх Саветаў Гарадоцкага павета; цыркуляры Лепельскага павятовага рэўкама аб затрыманні былых памешчыкаў і імянныя спісы былых памешчыкаў-арандатараў воласці.

*Ветрынскі мястэчковы ваенна-рэвалюцыйны камітэт, ф. 458, 3 с., 1921 г. (Пол)*

Перапіска па барацьбе з бандытызмам.

*Мазырская часовая павятовая народная дырэкторыя, ф.458, 1 с., 1919 г. (Маз)*

Пратаколы пасяджэнняў, пасведчанні членаў дырэкторыі, перапіска з гарадской управай аб эвакуацыі ваеннапалонных.

*Гомельскі губернскі выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, ф. 24, 32 с., 1920—1925 гг. (Гом).*

Загады ВЧК і пастановы губЧК, цыркуляры НКУС РСФСР, пратаколы пасяджэнняў прэзідыума губвыканкама, гарсавета, агульных сходаў грамадзян, дакладныя запіскі аб барацьбе з бандытызмам, перавыбарах, перапіска з наркаматамі, губернскім Саветам народнай гаспадаркі, аддзеламі выканкама па адміністрацыйна-гаспадарчых, прававых пытаннях; заявы грамадзян; анкеты дэлегатаў, былых членаў дробнабуржуазных партый.

*Аддзел кіравання Гомельскага губернскага выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, ф. 428, 46 с., 1919—1923 гг. (Гом).*

Пастановы СНК РСФСР, цыркуляры і інструкцыі НКУС, загады па аддзелу, пратаколы XI і XII Пачэпскіх павятовых з'ездаў Саветаў, 1-й павятовай нарады прадстаўнікоў валвыканкамаў, пасяджэнняў Бычанскага валрэўкама, Рагачоўскага гарсавета, звесткі аб замежных падданых, перапіска з НКУС РСФСР, прэзідыумам губвыканкама аб выдачы грамадзянам замежных пашпартоў, выдачы дазволу на ўезд з-за мяжы, аб парадку аптацыі замежнага грамадзянства, анкеты, пашпарты, пасведчанні бежанцаў, замежных падданых, грамадзян, якія ад'язджаюць за мяжу, заявы грамадзян, спісы супрацоўнікаў губернскіх і павятовых устаноў, замежных падданых.

*Адміністрацыйны аддзел Гомельскага губернскага выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, сялянскіх і*

*чырвонаармейскіх дэпутатаў, ф. 9, 85 с., 1923—1926 гг. (Гом).*

Цыркуляры ЦАУ, НКУС РСФСР і губадмаддзела, загады па губадмаддзелу; пратаколы губернскіх нарад; звесткі аб паступіўшых заявах на выдачу замежных пашпартоў; дакументы аб замежных падданых, прыняцці іншаземцамі грамадзянства СССР; перапіска з замежным пададдзелам НКУС РСФСР і міліцыяй губерні аб выдачы дазволу на ўезд у СССР і ад'езд за мяжу; аб рэпатрыянтах; справы грамадзян, якія ад'язджаюць за мяжу; аб аднаўленні ў правах грамадзянства; спісы асоб, якія зрабілі злачынства і адшукваюцца ДПУ; рэгістрацыйныя лісткі замежных падданых; распіскі грамадзян аб атрыманні замежных пашпартоў і пасведчанняў.

**Выканаўчыя камітэты павятовых Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў**

*Бачэйкаўскі, ф. 260, 2 с., 1918, 1923 гг. (В)*
*Быхаўскі, ф. 3, 6 с., 1920—1923 гг. (Маг)*
*Гомельскі, ф. 882, 17 с., 1923, 1925 гг. (Гом)*
*Гарадоцкі, ф. 145, 5 с., 1918—1923 гг. (В)*
*Дрысенскі, ф. 36, 5 с., 1922—1923 гг. (Пол)*
*Мазырскі, ф. 88, 6 с., 1923 г. (Маз)*
*Полацкі, ф. 51, 7 с., 1919—1922 гг. (Пол)*
*Рэчыцкі, ф. 29, 31 с., 1921—1926 гг. (Гом)*
*Рагачоўскі, ф. 1023, 2 с., 1922—1923 гг. (Гом)*
*Слуцкі, ф. 1842, 1 с., 1921 г. (Мн)*
*Суражскі, ф. 2319, 3 с., 1921 г. (В)*

Палажэнне, інструкцыі Галоўнага ўпраўлення прымусовых работ НКУС РСФСР аб арганізацыі бюро прымусовых работ без пазбаўлення волі пры аддзелах упраўлення павятовых выканкамаў, копія загаду асобага аддзела Заходняга фронту аб парадку прадстаўлення звестак аб ахвярах белага тэрору; цыркуляры НКУС, адміністрацыйнага аддзела Віцебскага губвыканкама, копіі і тэлеграмы аб затрыманні контррэвалюцыянераў і растратчыкаў, матэрыялы аб чыстцы апарату лясніцтва, рэзалюцыі аб звальненні з пасады палітычна ненадзейных грамадзян, імянныя спісы, анкеты супрацоўнікаў і звольненых на падставе прадпісання Савета ад 4 красавіка 1918 г. як служыўшых раней у паліцыі, афіцэраў і чыноўнікаў царскага рэжыму, якія былі на службе; акты абследаванняў грабяжоў узброенымі бандытамі Сцяпанавіцкага лясніцтва; звесткі аб бандытызме па Гарадоцкаму павету; кніга рэгістрацыі замежных грамадзян, якія пражываюць у Суражскім павеце.

Пратаколы валасных з'ездаў Саветаў Гомельскага павета,

пасяджэнняў прэзідыума валвыканкамаў, сельсаветаў, агульных сходаў грамадзян, спісы членаў і кандыдатаў валвыканкамаў, сельсаветаў, асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, заявы грамадзян аб аднаўленні іх у выбарчых правах.

Акты і пасведчанні грамадзян польскага, латвійскага і літоўскага падданства, часова выдадзеныя на жыхарства; звесткі аб паступленні даходаў; дэкрэт аб абавязковай рэгістрацыі былых памешчыкаў, капіталістаў і асоб, якія займалі адказныя пасады пры царскім рэжыме; анкетныя лісты і рэгістрацыя замежных падданых.

Справы па высяленню са Слуцкага павета ў Архангельскую губерню сем'яў бандытаў.

*Магілёўскі павятовы аддзел нацыянальных меншасцей, ф. 443, 1 с., 1921 г. (Маг)*

Перапіска яўрэйскага аддзела з Наркаматам нацыянальных меншасцей аб яўрэйскім насельніцтве, аб занятках, аб забеспячэнні іх працай, адпраўцы ў Амерыку да сваякоў.

*Аддзел кіравання Рэчыцкага павятовага выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, ф. 865, 11 с., 1921—1922 гг. (Гом)*

Пратаколы з'езда Саветаў і пасяджэнняў выканкамаў валасцей, спісы асоб, пазбаўленых выбарчых правоў.

**Выканаўчыя камітэты валасных Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў**

*Аршанскага павета*
*Высачанскі, ф. 73, 15 с., 1917—1922 гг. (В)*
*Бешанковіцкага павета*
*Станіславаўскі, ф. 183, 1 с., 1918—1919 гг. (В)*
*Бачэйкаўскага павета*
*Вялікадолецкі, ф. 84, 6 с., 1921—1923 гг. (Пол)*
*Ушацкі, ф. 102, 8 с., 1920—1923 гг. (Пол)*
*Барысаўскага павета*
*Смалявіцкі, ф. 35, 1 с., 1921 г. (Мн)*
*Віцебскага павета*
*Кузняцоўскі, ф. 24, 2 с., 1923 г. (В)*
*Курынскі, ф. 21, 1 с., 1922 г. (В)*
*Старасельскі, ф. 92, 13 с., 1917—1918 гг. (В)*
*Храпавіцкі, ф. 94. 1 с., 1921—1922 гг. (В)*
*Янавіцкі, ф. 27, 2 с., 1918 г. (В)*
*Гарадоцкага павета*
*Вышадскі, ф. 98, 1 с., 1920—1921 гг. (В)*
*Гомельскага павета*

*Веткаўскі, ф. 317, 36 с., 1921—1926 гг. (Гом)*
*Дудзіцкі, ф. 35, 1 с., 1918—1923 гг. (Гом)*
*Краснабудскі, ф. 43, 1 с., 1919—1921 гг. (Гом)*
*Маркавіцкі, ф. 44, 1 с., 1921 г. (Гом)*
*Насовіцкі, ф. 440, 15 с., 1919—1925 гг. (Гом)*
*Пакоцкі, ф. 501, 2 с., 1919—1923 гг. (Гом)*
*Рэчкаўскі, ф. 560, 3 с., 1920—1921 гг. (Гом)*
*Свяцілавіцкі, ф. 30, 29 с., 1923—1926 гг. (Гом)*
*Сталбунскі, ф. 571, 1 с., 1922 г. (Гом)*
*Уваравіцкі, ф. 503, 11 с., 1923, 1925—1926 гг. (Гом)*
*Целяшоўскі, ф. 36, 1 с., 1922 г. (Гом)*
*Чабатовіцкі, ф. 495, 1 с., 1919—1922 гг. (Гом)*
*Дрысенскага павета*
*Дзернавіцкі, ф. 65, 3 с., 1918—1922 гг. (Пол)*
*Замшанскі, ф. 66, 4 с., 1920—1921 гг. (Пол)*
*Зябкаўскі, ф. 67, 15 с., 1918—1923 гг. (Пол)*
*Ігналінскі, ф. 68, 3 с., 1919—1922 гг. (Пол)*
*Каменскі, ф. 69, 16 с., 1918—1919 гг. (Пол)*
*Кахановіцкі, ф. 70, 3 с., 1919—1920 гг. (Пол)*
*Сар'янскі, ф. 72, 2 с., 1920—1921 гг. (Пол)*
*Сушкаўскі, ф. 73, 1 с., 1921 г. (Пол)*
*Таболкаўскі, ф. 75, 1 с., 1920—1921 гг. (Пол)*
*Філіпаўскі, ф. 76, 2 с., 1921—1922 гг. (Пол)*
*Юхавіцкі, ф. 589, 1 с., 1922 г. (Пол)*
*Лепельскага павета*
*Капцэвіцкі, ф. 171, 1 с., 1923 г. (В)*
*Кубліцкі, ф. 95, 2 с., 1922—1923 гг. (Пол)*
*Начскі, ф. 97, 2 с., 1923 г. (Пол)*
*Цянінскі, ф. 76, 1 с., 1919 г. (В)*
*Мазырскага павета*
*Азарыцкі, ф. 142, 2 с., 1921—1923 гг. (Маз)*
*Жыткавіцкі, ф. 132, 10 с., 1921—1924 гг. (Маз)*
*Ляскавіцкі, ф. 103, 2 с., 1921 г. (Маз)*
*Слабодскі, ф. 91, 5 с., 1922—1924 гг. (Маз)*
*Тонежскі, ф. 305, 3 с., 1922—1924 гг. (Маз)*
*Полацкага павета*
*Аляксандраўскі, ф. 78, 1 с., 1921—1922 гг. (Пол)*
*Андрэеўскі, ф. 79, 5 с., 1921—1922 гг. (Пол)*
*Арцейкавіцкі, ф. 80, 10 с., 1918—1921 гг. (Пол)*
*Асвейскі, ф. 71, 4 с., 1921—1922 гг. (Пол)*
*Арэхаўскі, ф. 96, 4 с., 1921—1922 гг. (Пол)*

*Бачонскі, ф. 81, 1 с., 1921 г. (Пол)*
*Боркавіцкі, ф. 82, 3 с., 1923—1924 гг. (Пол)*
*Варонецкі, ф. 87, 1 с., 1922—1923 гг. (Пол)*
*Ветрынскі, ф. 85, 1 с., 1921 г. (Пол)*
*Гомельскі, ф. 88, 2 с., 1921—1922 гг. (Пол)*
*Домнікаўскі, ф. 89, 4 с., 1923 г. (Пол)*
*Клясціцкі, ф. 94, 13 с., 1918—1922 гг. (Пол)*
*Ленінскі, ф. 734, 8 с., 1922—1924 гг. (Пол)*
*Полатаўскі, ф. 83, 3 с., 1923—1924 гг. (Пол)*
*Сямёнаўскі, ф. 100, 3 с., 1923—1924 гг. (Пол)*
*Рэчыцкага павета*
*Аўцюцэвіцкі, ф. 98, 8 с., 1919—1923 гг. (Маз)*
*Васілевіцкі, ф. 66, 6 с., 1919—1926 гг. (Маз)*
*Дзеражыцкі, ф. 519, 1 с., 1922 г. (Гом)*
*Дудзіцкі, ф. 431, 6 с., 1920—1922 гг. (Маз)*
*Заспенскі, ф. 157, 1 с., 1922 г. (Гом)*
*Калінкавіцкі, ф. 96, 4 с., 1923—1924 гг. (Маз)*
*Лоеўскі, ф. 135, 4 с., 1920—1926 гг. (Гом)*
*Ровенска-Слабодскі, ф. 511, 2 с., 1922 г. (Гом)*
*Ручаеўскі, ф. 521, 1 с., 1921—1922 гг. (Гом)*
*Рэчыцкі, ф. 263, 2 с., 1923—1926 гг. (Гом)*
*Холмецкі, ф. 33, 8 с., 1919—1925 гг. (Гом)*
*Юрэвіцкі, ф. 77, 1 с., 1922—1923 гг. (Маз)*
*Рагачоўскага павета*
*Бычанскі, ф. 1070, 1 с., 1921—1923 гг. (Гом)*
*Жлобінскі, ф. 758, 4 с., 1923—1924 гг. (Гом)*
*Мяркулавіцкі, ф. 1001, 1 с., 1921—1922 гг. (Гом)*
*Сенненскага павета*
*Машканскі, ф. 93, 1 с., 1919 г. (В)*
*Слуцкага павета*
*Чапліцкі, ф. 90, 1 с., 1929—1930 гг. (Мн)*

Пастановы і выпіскі з пратаколаў пасяджэнняў павятовых выканкамаў, загады павятовых выканкамаў і павятовых камісарыятаў. Копіі загадаў па вайсковых часцях, загадаў губернскага рэўтрыбунала па абвінавачванню ў бандытызме.

Пратаколы валасных з'ездаў, пасяджэнняў валвыканкамаў, агульных сходаў грамадзян і прадстаўнікоў раённых Саветаў валасцей, агульных сходаў камітэтаў вясковай беднаты.

Пастановы СНК БССР аб выдзяленні кулацкіх гаспадарак і абкладанні іх падаткам. Пратаколы пасяджэнняў павятовай камісіі па чыстцы савецкага апарату; спісы асоб, пазбаўленых выбарчых

правоў.

Спісы, пасведчанні і карткі служачых валвыканкамаў, ведамасці аб складзе выканкамаў, справаздачныя ведамасці аб іх працы, прыхода-расходныя каштарысы.

Пастановы райваенсавета, загады павятовага выканкама і харчовага камітэта і перапіска з ім аб харчовым падатку, аб барацьбе з дэзерцірствам. Прыгаворы ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, спісы дэзерціраў, заявы грамадзян аб праявах бандытызму ў межах валасцей. Перапіска з асобым аддзелам Заходняга фронту па барацьбе са шпіянажам і контррэвалюцыйнымі выступленнямі; звесткі па ўліку судзімых грамадзян; журнал рэгістрацыі грамадзян, асуджаных за нелегальны пераход граніцы.

Заявы сялян аб надзяленні іх зямлёй; звесткі аб колькасці ворнай зямлі; дагаворы сялян аб захаванні царкоўнай маёмасці. Звесткі аб колькасці цэркваў, касцёлаў і малельных дамоў.

Цыркуляры аб уліку былых афіцэраў, спісы ваеннаабавязаных, былых ваеннаслужачых царскай арміі.

Акты абследавання сямейна-маёмаснага стану грамадзян; звесткі аб колькасці працаздольных грамадзян; спісы па ўліку насельніцтва з паказаннем колькасці зямлі, звесткі і акты камісіі па выяўленню ўтоенай грамадзянамі маёмасці ад абкладання падаткам; звесткі аб гандлярах, прамысловых саматужніках і рамесніках; акты вызначэння лішкаў хлеба ў насельніцтва; спісы заможных сялянскіх гаспадарак і памешчыкаў.

Звесткі аб італьянскіх падданых, якія пражываюць у Капцэвіцкай воласці Лепельскага павета; перапіска з судовымі органамі аб пошуку, арышце і судзімасці грамадзян; паведамленні аб дастаўцы характарыстык на падазроных асоб; справы аб прыёме на ўлік экспрапрыіраваных маёнткаў; аб барацьбе з контррэвалюцыяй і спекуляцыяй; аб асабовым складзе служачых валвыканкамаў; крымінальныя справы па абвінавачванню грамадзян у выступленнях супраць правапарадку, службовых злачынствах.

Матэрыялы па перавыбарах валвыканкамаў і сельсаветаў (пратаколы агульных сходаў грамадзян, наказы дэлегатам сельсаветаў, пратаколы пасяджэнняў павятовай, валасной і сельскіх выбарчых камісій).

**Выканаўчыя камітэты сельскіх Саветаў дэпутатаў працоўных**

*Гомельскага павета*

*Чысталужскі, ф. 201, 1 с., 1928 г. (Гом)*

*Рэчыцкага павета*

*Броненскі, ф. 1275, 1 с., 1925—1926 гг. (Гом)*
*Бязуеўскі, ф. 1662, 1 с., 1923—1924 гг. (Гом)*
*Горвальскі, ф. 338, 1 с., 1925 г. (Гом)*
*Рабускі, ф. 1492, 1 с., 1925—1926 гг. (Гом)*
*Унорыцкі, ф. 1657, 2 с., 1924—1926 гг. (Гом)*
*Веткаўскага раёна*
*Маланемкаўскі, ф. 496, 1 с., 1946 г. (Гом)*
*Свяцілавіцкі, ф. 585, 1 с., 1943 г. (Гом)*
*Хальчанскі, ф. 888, 2 с., 1924—1933 гг. (Гом)*
*Дрысенскага раёна*
*Бігосаўскі, ф. 154, 2 с., 1924—1932 гг. (Пол)*
*Бялькоўшчынскі, ф. 158, 1 с., 1924 г. (Пол)*
*Валынецкі, ф. 156, 7 с., 1925—1934 гг. (Пол)*
*Луначарскі, ф. 160, 1 с., 1924—1928 гг. (Пол)*
*Прудзінкаўскі, ф. 161, 3 с., 1925—1932 гг. (Пол)*
*Цястаўскі, ф. 165, 2 с., 1924—1927 гг. (Пол)*
*Ельскага раёна*
*Багуціцкі, ф. 311, 4 с., 1931 г. (Маз)*
*Санюкоўскі, ф. 1048, 1 с., 1931 г. (Маз)*
*Жыткавіцкага раёна*
*Людзяневіцкі, ф. 231, 2 с., 1924—1925 гг. (Маз)*
*Жлобінскага раёна*
*Лукаўскі, ф. 956, 1 с., 1934 г. (Гом)*
*Салонскі, ф. 815, 1 с., 1934 г. (Гом)*
*Журавіцкага раёна*
*Баханскі, ф. 425, 2 с., 1932—1933 гг. (Гом)*
*Курганскі, ф. 778, 1 с., 1930 г. (Гом)*
*Ракцянскі, ф. 870, 1 с., 1921—1922 гг. (Гом)*
*Хатаўнянскі, ф. 777, 2 с., 1926—1933 гг. (Гом)*
*Калінкавіцкага раёна*
*Ліпаўскі, ф. 226, 5 с., 1926—1928 гг. (Маз)*
*Кармянскага раёна*
*Барова-Будскі, ф. 771, 1 с., 1928—1929 гг. (Гом)*
*Руднянскі, ф. 469, 1 с., 1930 г. (Гом)*
*Лоеўскага раёна*
*Карпаўскі, ф. 614, 2 с., 1938—1941 гг. (Гом)*
*Ручаеўскі, ф. 204, 1 с., 1930 г. (Гом)*
*Мазырскага раёна*
*Баброўскі, ф. 48, 3 с., 1924—1926 гг. (Маз)*
*Насовіцкага раёна*
*Рог-Ілецкі, ф. 1658, 1 с., 1926—1927 гг. (Гом)*

*Асвейскага раёна*
*Кахановіцкі, ф. 168, 2 с., 1926—1931 гг. (Пол)*
*Рэчыцкага раёна*
*Гарошкаўскі, ф. 601, 1 с., 1927 г. (Гом)*
*Заспенскі, ф. 544, 1 с., 1923—1924 гг. (Гом)*
*Камсамольскі, ф. 1384, 1 с., 1930 г. (Гом)*
*Рагачоўскага раёна*
*Вішанскі, ф. 546, 3 с., 1926—1933 гг. (Гом)*
*Сіроцінскага раёна*
*Мішневіцкі, ф. 740, 2 с., 1931—1932 гг. (В)*
*Слуцкага раёна*
*Сяражскі, ф. 78, 2 с., 1930—1931 гг. (Мн)*
*Церахоўскага раёна*
*Перарастаўскі, ф. 773, 3 с., 1929—1933 гг. (Гом)*
*Тураўскага раёна*
*Верасніцкі, ф. 28, 1 с., 1924 г. (Маз)*
*Чашніцкага раёна*
*Дворацкі, ф. 1072, 1 с., 1931 г. (В)*
*Хойніцкага раёна*
*Забалоцкі, ф. 313, 11 с., 1929—1933 гг. (Маз)*

Інструкцыі ЦВК БССР аб перавыбарах Саветаў, пратаколы пасяджэнняў пленумаў сельсаветаў, раённых падатковых камісій, агульных сходаў грамадзян па перавыбарах сельсаветаў; спісы членаў і актывістаў сельсаветаў, непісьменных і малапісьменных; пратаколы агульных сходаў груп беднаты; спісы жыхароў па сёлах.

Распараджэнні райвыканкамаў аб правядзенні пасяўной кампаніі, звесткі аб ходзе нарыхтовак.

Імянныя спісы класава чужых элементаў, былых кулакоў в. Глухаўка Веткаўскага раёна, якія супрацоўнічалі з нямецка-фашысцкімі акупантамі.

Выпіскі з пратаколаў аб выяўленні кулацкіх гаспадарак, спісы ўладальнікаў гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў, служыцеляў рэлігійнага культу, асоб, пазбаўленых выбарчых правоў.

Перапіска з раённай пракуратурай па расследаванню крадзяжоў у калгасах.

**Выканаўчыя камітэты акруговых Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў**

*Гомельскі, ф. 156, 4 с., 1927, 1929—1930 гг. (Гом)*
*Мінскі, ф. 3, 2 с., 1929 г. (Мн)*
*Мазырскі, ф. 60, 62 с., 1924—1930 гг. (Маз)*

*3-га раёна, ф. 555, 3 с., 1919—1920 гг. (Пол)*

Спісы былых памешчыкаў павета і перапіска з начальнікамі раёнаў па вышуку крымінальна-злачынных элементаў, журнал рэгістрацыі паднаглядных асоб; перапіска па агляду зброі, па пытаннях устанаўлення грамадскага парадку.

*Полацкай павятовай*

*2-га раёна, ф. 222, 5 с., 1920—1923 гг. (Пол)*

*5-га раёна, ф. 14, 14 с., 1922—1924 гг. (Пол)*

Цыркуляры губвыканкама аб барацьбе зляснымі парушальнікамі, даклады аб дзейнасці і стане міліцыі; перапіска з павятовым упраўленнем міліцыі па вышуку крымінальных злачынцаў, планы палітычных і страявых заняткаў.

*Себежскай раённай*

*3-га раёна, ф. 17, 6 с., 1923—1924 гг. (Пол)*

Звесткі аб руху следчых спраў, дакладныя запіскі палітрука аб стане культурна-асветнай працы.

*Упраўленне Крупскай раённай Рабоча-сялянскай міліцыі, ф. 1068, 7 с., 1931 г. (Мн)*

*Упраўленне Ульскай Рабоча-сялянскай міліцыі 1-га раёна Полацкай акругі, ф. 51, 8 с., 1925 г. (В)*

Цыркуляры, акты і пратаколы допытаў арыштаваных; спісы асоб, якія адшукваюцца органамі крымінальнага вышуку.

Справы аб стане зброі і боепрыпасаў, якія знаходзяцца ў раёне, копіі пастаноў па скончаных дазнаннях, спіс асоб, якія маюць зброю без права на ўтрыманне, ведамасці на атрыманне абмундзіравання і амуніцыі; справы аб абвінавачванні грамадзян у сабатажы, шкодніцтве, аб выключэнні з калгаса.

*Упраўленне Рабоча-сялянскай міліцыі па Баранавіцкай вобласці, ф. 139, 25 с., 1939—1941 гг. (Бар)*

Перапіска з раённымі аддзяленнямі міліцыі па спецправерцы, вышуку грамадзян, аб палітмасавай рабоце, спісы асабовага складу УМУС, замежных асоб без грамадзянства, зняволеных, якія знаходзяцца пад следствам.

*Першае Баранавіцкае гарадское аддзяленне міліцыі, ф. 144, 3 с., 1940—1941 гг. (Бар)*

Даведкі грамадзян, пададзеныя ў раённае аддзяленне міліцыі для атрымання анкет, для выдачы пропускаў на права выезду і часовага пражывання.

*II асобная ваенізаваная пажарная каманда аддзела пажарнай аховы УМУС Віцебскай вобласці, ф. 2694, 5 с., 1954—1957 гг. (В)*

Планы, справаздачы аб рабоце, перапіска з УМУС па Віцебскай

вобласці аб кадрах, спісы радавога і сяржанцкага саставу.

**Турмы**

*Віцебская, ф. 2454, 9 с., 1937—1941 гг. (В)*

*Магілёўская, ф. 226, 122 с., 1924, 1935—1937, 1939 гг. (Маг)*

*Мінская, ф. 458, 3644 с., 1920—1926 гг. (Мн)*

*Полацкая, ф. 948, 2 с., 1937—1939 гг. (Пол)*

*Чэрвеньская, ф. 1365, 2 с., 1937—1939 гг. (Мн)*

Загады начальніка турмы г. Магілёва, акты праверкі пакамернага абследавання, звесткі аб зняволеных, кантрольныя адбіткі рук зняволеных, асабовыя справы зняволеных, справы па абвінавачванню грамадзян, спісы зняволеных.

*Віцебскі акруговы папраўчы дом, ф. 63, 1436 с., 1918—1930 гг. (В)*

Пратаколы пасяджэнняў размеркавальнай камісіі пры Віцебскім губернскім карным атрадзе, па прымяненню амністыі 6-га Усебеларускага надзвычайнага з'езда Саветаў, этапная кніга Віцебскага губернскага папраўчага дома, спісы зняволеных, справы па абвінавачванню, асабовыя справы, асабовыя карткі служачых папраўчага дома.

*Ігуменскі папраўчы дом грамадскіх прымусовых работ, ф. 459, 350 с., 1919—1922 гг. (Мн)*

Спісы зняволеных, нарады на грамадзян, якія знаходзяцца ў зняволенні.

*Мінскі канцэнтрацыйны лагер прымусовых работ НКУС БССР, ф. 961, 840 с., 1921—1922 гг. (Мн)*

Загады начальніка лагера, Інструкцыі НКУС аб лагеры прымусовых работ, аб нормах аплаты працы. Справы на зняволеных, спісы зняволеных, звесткі аб іх.

**Магілёўскія папраўча-прымусовыя калоніі**

*№ 7, ф. 227, 465 с., 1938—1941 гг. (Маг)*

*№ 14, ф. 228, 5 с., 1937—1941 гг. (Маг)*

Перапіска з Вярхоўным судом БССР і Магілёўскім абласным судом, пратаколы агульных сходаў, справаздачы, спісы, асабовыя справы зняволеных.

*Віцебскі дзіцячы прыёмнік-размеркавальнік УМУС БССР па Віцебскай вобласці, ф. 2425, 29 с., 1947—1955 гг. (В)*

Выпіска з палажэння да загаду МУС СССР ад 1948 г. аб пераліку звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну, планы мерапрыемстваў па паляпшэнню санітарнага становішча і ўтрымання аб'ектаў УМУС па Віцебскай вобласці і папярэджванню інфекцыйных кішэчных захворванняў, справаздача аб вучэбна-выхаваўчай рабоце

за 4-ы квартал 1949 г., справаздачы аб колькасці і фондзе заработнай платы, статсправаздачы і звесткі аб складзе і руху дзяцей і тлумачальныя запіскі да іх аб колькасці работнікаў Віцебскага дзіцячага прыёмніка, перапіска з МУС БССР аб абследаванні санітарна-эпідэмічнага стану дзіцячых калоній і прыёмнікаў, па папярэджванню паносу, узнікнення і распаўсюджвання сыпнога і зваротнага тыфу, аб дэзінфекцыі памяшканняў і бялізны выхаванцаў; уцёках, вышуку і затрыманні дзяцей, якія збеглі з дзіцячых прыёмнікаў, працаўладкаванні падлеткаў, спецпаведамленні Віцебскага дзіцячага прыёмніка аб уцёках дзяцей, нарады МУС БССР аб эвакуацыі дзяцей да бацькоў і ў працоўныя калоніі, спісы работнікаў, ваеннаабавязаных дзіцячага прыёмніка, спісы дзяцей, якія збеглі з дзіцячага прыёмніка.

## 3. УЗБРОЕНЫЯ СІЛЫ

*Полацкая 30-я рота часцей асобага прызначэння, ф. 872, 8 с., 1921—1922 гг. (Пол)*

Загады 30-й асобнай роты асобага прызначэння, спісы членаў і кандыдатаў РКП(б) і РКСМ.

*777-я рота часцей асобага прызначэння, ф. 875, 1 с., 1923 г. (Пол)*

Загады па часцях асобага прызначэння.

*Штаб мясцовай процівапаветранай абароны (МППА) Маладзечанскага аблвыканкама, ф. 940, 24 с., 1955—1960 гг. (Мал)*

Рашэнні Маладзечанскага аблвыканкама аб арганізацыі штабоў МППА пры райвыканкамах, стане ўсеагульнага навучання насельніцтва па процiатамнай абароне, выніках дзейнасці сістэмы МППА вобласці, стварэнні груп самаабароны ў арганізацыях і на прадпрыемствах, планы работы штабоў, акты аб выніках праверкі работы штабоў і службаў МППА раёнаў вобласці.

**Штабы МППА гарвыканкамаў**

*Баранавіцкага, ф. 692, 30 с., 1944—1956 гг. (Бар)*

*Магілёўскага, ф. 561, 31 с., 1950—1954 гг. (Маг)*

**Інспекцыі службы МППА ўпраўленняў МУС па абласцях**

*Баранавіцкай, ф. 283, 10 с., 1947, 1950—1953 гг. (Бар)*

*Пінскай, ф. 817, 9 с., 1950—1953 гг. (Пін)*

Пастановы савецкіх і партыйных органаў аб стане і развіцці сістэмы МППА, планы фінансавання мерапрыемстваў МППА і справаздачы аб іх выкананні, дакладныя запіскі і справаздачы аб стане МППА, акты праверак выканання мерапрыемстваў МППА.

*Аддзяленне МППА УМУС Полацкай вобласці, ф. 1245, 31 с.,*

*1950—1954 гг. (Пол)*

Планы работы і справаздачы аб іх выкананні, даклады аб палітыка-маральным стане, палітыка-выхаваўчай рабоце, перапіска па аператыўна-арганізацыйных пытаннях і баявой падрыхтоўцы.

**Ваенныя камісарыяты**

*Павятовыя*

*Дрысенскі, ф. 181, 9 с., 1919—1922 гг. (Пол)*

*Ігуменскі, ф. 545, 15 с., 1921 г. (Мн)*

*Полацкі, ф. 182, 5 с., 1918—1919 гг. (Пол)*

*Валасныя*

*Асвейскі, ф. 188, 1 с., 1923—1924 гг. (Пол)*

*Боркавіцкі, ф. 195, 3 с., 1923—1924 гг. (Пол)*

*Дзярновіцкі, ф. 183, 15 с., 1919—1922 гг. (Пол)*

*Ефрасінеўскі, ф. 199, 8 с., 1918—1920 гг. (Пол)*

*Зябкаўскі, ф. 184, 4 с., 1919—1921 гг. (Пол)*

*Ігналінскі, ф. 185, 4 с., 1919—1920 гг. (Пол)*

*Кахановіцкі, ф. 187, 15 с., 1918—1920 гг. (Пол)*

*Полатаўскі, ф. 205, 3 с., 1922—1924 гг. (Пол)*

*Сар'янскі, ф. 863, 3 с., 1921—1922 гг. (Пол)*

*Таболкаўскі, ф. 191, 4 с., 1922—1923 гг. (Пол)*

*Тураўлянскі, ф. 206, 5 с., 1918—1920 гг. (Пол)*

*Юсцініянаўскі, ф. 193, 2 с., 1921 г. (Пол)*

Загады, пратаколы пасяджэнняў, перапіска з павятовымі ваенкаматамі па ўліку і мабілізацыі ваеннаабавязаных і былых ваеннаслужачых царскай арміі, спісы былых унтэрафіцэраў, ваенна-абавязаных дэзерціраў, табель данясенняў і перапіска па барацьбе з дэзерцірствам; данясенні губваенкамату аб падаўленні контррэвалюцыйных выступленняў; аб фарміраванні воінскіх часцей; заявы грамадзян аб надзяленні іх зямлёй, аб водпуску лесу, акты аб падзеле маёмасці.

**Раённыя камісараты**

*Ветрынскі, ф. 1092, 16 с., 1948—1960 гг. (Пол)*

*Віцебскі, ф. 2636, 3 с., 1930—1932, 1935—1937 гг. (В)*

*Лепельскі, ф. 2637, 1 с., 1938 г. (В)*

*Полацкі, ф. 1178, 1 с., 1944—1947 гг. (Пол)*

*Расонскі, ф. 1796, 18 с., 1946—1963 гг. (Пол)*

Загады і выпіскі з загадаў райваенкаматаў, акты на знішчэнне дакументаў, спісы прызыўнікоў, імянныя спісы асабовага складу.

*Полацкі аб'яднаны гарадскі ваенны камісарыят, ф. 1179, 22 с., 1944—1958 гг. (Пол)*

Загады па ваенкамату, звесткі аб ваенна-эканамічным стане.

*Віцебскі гарадскі ваенны камісарыят, ф. 1682, 3 с., 1940 г. (В)*

Загады абласнога ваеннага камісарыята, пратаколы звужанага складу гарвыканкама, спісы асабовага складу.

## 4. ГРАМАДСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ

**Прафесіянальныя саюзы**

*Гомельскі губернскі савет прафесіянальных саюзаў (губпрафсавет), ф. 433, 3 с., 1921 г. (Гом)*

Справа аб сабатажы і контррэвалюцыйных выступленнях на прадпрыемствах, спісы рабочых і служачых прадпрыемстваў і ўстаноў на атрыманне харчовага пайка.

*Гомельскі губернскі аддзел прафесіянальнага саюза рабочых-гарбароў СССР, ф. 125, 1 с., 1926 г. (Гом)*

Спісы адказных работнікаў губаддзела.

*Полацкі абласны камітэт прафсаюза рабочых лясной і папяровай прамысловасці, ф. 2402, 1 с., 1949—1952 гг. (В)*

Перапіска з ЦК прафсаюза рабочых лесу і сплаву.

**Абласныя камітэты добраахвотных таварыстваў**

*садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту (ДТСААФ)*

*Баранавіцкі, ф. 586, 17 с., 1951—1953 гг. (Бар)*

*Маладзечанскі, ф. 949, 47 с., 1951—1960 гг. (Мал)*

*Пінскі, ф. 725, 24 с., 1951—1953 гг. (Пін)*

*Полацкі, ф. 710, 154 с., 1944—1954 гг. (Пол)*

*садзейнічання арміі (ДТСАРМ)*

*Баранавіцкі, ф. 669, 10 с., 1949—1951 гг. (Бар)*

*Маладзечанскі, ф. 878, 9 с., 1948—1951 гг. (Мал)*

*Пінскі, ф. 722, 46 с., 1948—1951 гг. (Пін)*

*садзейнічання авіяцыі (ДТСАВ)*

*Баранавіцкі, ф. 669, 10 с., 1949—1951 гг. (Бар)*

*Маладзечанскі, ф. 879, 3 с., 1949—1951 гг. (Мал)*

*Пінскі, ф. 723, 10 с., 1948—1951 гг. (Пін)*

*садзейнічання флоту (ДТСФЛОТ)*

*Пінскі, ф. 724, 9 с., 1949—1951 гг. (Пін)*

**Абласныя Саветы Таварыства садзейнічання авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву (Асаавіяхім)**

*Баранавіцкі, ф. 653, 19 с., 1945—1948 гг. (Бар)*

*Магілёўскі, ф. 958, 58 с., 1944—1948 гг. (Маг)*

*Маладзечанскі, ф. 877, 11 с., 1944—1948 гг. (Мал)*

*Пінскі, ф. 721, 31 с., 1944—1948 гг. (Пін)*

Загады, пастановы, указанні вышэйстаячых галіновых

органаў, тапаграфічныя карты з абазначэннем мінных палёў, звесткі аб іх размініраванні; аб прыцягненні да размініравання і збору трафейнай і айчыннай зброі арганізацый Асаавіяхіма; гадавыя заданні па падрыхтоўцы кадраў, аналізы лётных здарэнняў у аэраклубах; узнагародныя лісты.

Дакументы аб выніках падрыхтоўкі і правядзення прызываў у армію; аб садзейнічанні ў правядзенні работ па забеспячэнню захаванасці мастоў і іншых гідратэхнічных збудаванняў ад пашкоджання крыгаходам і паводкавымі водамі; аб парадку захоўвання і карыстання зброяй і боепрыпасамі; аб расследаванні няшчасных выпадкаў, разгортванні дадатковай сеткі школ ППА.

*Магілёўскі ваенна-марскі клуб ДТСФЛОТ, ф. 962, 6 с., 1949—1951 гг. (Маг)*

Загады начальніка клуба; справаздачы і звесткі па падрыхтоўцы кадраў у ваенна-марскім клубе; штатны расклад і данясенне клуба аб колькасці дапрызыўнікоў і ваеннаабавязаных, залічаных на навучальны перыяд; спісы пераменнага саставу, якія навучаўся ў клубе.

*Полацкі абласны камітэт Чырвонага Крыжа, ф. 738, 6 с., 1948—1953 гг. (Пол)*

Пастановы аблвыканкама, справаздачы па санітарна-ахоўнай працы.

## 5. ДРУК

### Выдавецкая справа

*Упраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў пры Баранавіцкім аблвыканкаме, ф. 199, 14 с., 1946—1954 гг. (Бар)*

Загады і ўказанні начальніка Упраўлення па пытаннях цэнзуры, справаздачы аб рабоце.

*Упраўленні па справах паліграфічнай прамысловасці, выдавецтваў і кніжнага гандлю пры аблвыканкамах*

*Пінскім, ф. 687, 1 с., 1951 г. (Пін)*

*Полацкім, ф. 741, 6 с., 1949—1952 гг. (Пол)*

Загады Белпаліграфвыдата пры СМ БССР, планы па працы і заработнай плаце.

*Аддзелы па ахове ваенных і дзяржаўных тайн у друку пры аблвыканкамах*

*Маладзечанскім, ф. 1691, 7 с., 1945—1959 гг. (Мал)*

*Пінскім, ф. 690, 28 с., 1946, 1948—1954 гг. (Пін)*

*Полацкім, ф. 750, 35 с., 1945—1954 гг. (Пол)*

Загады па Галоўнаму ўпраўленню па справах літаратуры і

выдавецтваў пры СНК БССР і начальніка ўпраўлення аб выніках праверак працы ўпраўлення, пратаколы вытворчых нарад, кнігі ўліку і размеркавання выданняў, тэкставыя зводкі выкрэсліванняў папярэдняй цэнзуры, справаздачы аб праробленай працы, асабовыя справы работнікаў упраўленняў.

## 6. НАРОДНАЯ ГАСПАДАРКА

### Праца. Сацыяльнае забеспячэнне

*Мазырская акруговая камера інспекцыі працы, ф. 130, 1 с., 1929—1930 гг. (Маз)*

Матэрыялы па абследаванню вядзення гаспадаркі і аховы працы ў калгасах і саўгасах акругі (пастановы Наркампрацы БССР, вывады па абследаванню, прапановы, спісы кулацкіх гаспадарак і інш.).

*Бюро па ўліку і размеркаванню рабочай сілы пры Пінскім аблвыканкаме, ф. 684, 3 с., 1944—1946 гг. (Пін)*

Пастановы і ўказанні СНК СССР, БССР і Пінскага аблвыканкама.

*Аддзел сацыяльнага забеспячэння Вілейскага гарвыканкама, ф. 238, 1 с., 1940 г. (Мал)*

Мабілізацыйны план і спісы работнікаў аддзела.

*Магілёўскі абласны аддзел сацыяльнага забеспячэння, ф. 824, 10 с., 1943—1945, 1951—1957 гг. (Маг)*

Загады, указанні і рашэнні Міністэрства сацыяльнага забеспячэння БССР і Магілёўскага аблвыканкама, пастановы ЦК ВКП(б), Магілёўскага абласнога камітэта КП(б)Б і аблвыканкама, акты прыёму-перадачы сакрэтных дакументаў.

### Арганізацыя і кіраванне народнай гаспадаркай

*Віцебскі губернскі савет народнай гаспадаркі, ф. 15, 204 с., 1917—1924 гг. (В)*

Цыркуляры Наркамата па замежных справах і абавязках іншаземцаў; апытальныя лісты і спісы служачых; спісы гандлёвых прадпрыемстваў і іх уладальнікаў г. Віцебска, спісы саматужнікаў і дробных прадпрыемстваў г. Віцебска; асабовыя справы.

*Гомельскі губернскі савет народнай гаспадаркі, ф. 71, 12 с., 1920—1926 гг. (Гом)*

Анкеты супрацоўнікаў саматужных, гарбарных прадпрыемстваў, асабовыя справы членаў Бунда, службовыя карткі супрацоўнікаў.

*Аддзел мясцовай паліўнай прамысловасці Полацкага аблвыканкама, ф. 746, 17 с., 1944—1953 гг. (Пол)*

Загады Міністэрства мясцовай паліўнай прамысловасці БССР.

*Аддзел мясцовай прамысловасці Полацкага аблвыканкама, ф. 795, 22 с., 1944—1953 гг. (Пол)*

Загады Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР.

*Магілёўскі абласны льняны трэст першаснай апрацоўкі лёну Галоўнага ўпраўлення заводаў першаснай апрацоўкі лёну і пянькі Міністэрства лёгкай прамысловасці БССР, ф. 801, 10 с., 1944—1952 гг. (Маг)*

Загады і ўказанні Народнага Камісарыята тэкстыльнай прамысловасці СССР і БССР, Галоўільнаводаў, пастановы Магілёўскага аблвыканкама і абкама КПБ, планы развіцця народнай гаспадаркі, акты аб уроне, які нанеслі нямецка-фашысцкія захопнікі льнозаводам і трэстам.

*Полацкі абласны аддзел харчовай прамысловасці, ф. 749, 10 с., 1951—1953 гг. (Пол)*

Загады Міністэрства харчовай прамысловасці БССР, Полацкага аблвыканкама, нормы выпрацоўкі, расцэнкі на харчовыя прадукты.

**Планаванне**

**Планавыя камісіі аблвыканкамаў**

*Бабруйскага, ф. 140, 93 с., 1945—1953 гг. (Баб)*

*Баранавіцкага, ф. 577, 3 с., 1948, 1952 гг. (Бар)*

*Полацкага, ф. 692, 61 с., 1945—1954 гг. (Пол)*

Планы аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі. Планы прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання, якія знаходзіліся на тэрыторыі Бабруйскай вобласці, спісы размяшчэння прамысловых прадпрыемстваў па гарадах і раёнах вобласці, эканамічныя паказчыкі прамысловасці, сельскай гаспадаркі; пашпарты арцеляў прамкааперацыі. Кнігі: "Краткий справочник рек и водоёмов БССР", "Местные энергетические ресурсы БССР и схема их использования".

*Магілёўская гарадская планавая камісія выканкама Магілёўскага гарсавета дэпутатаў працоўных, ф. 44, 4 с., 1944 г. (Маг)*

Пратаколы, інструкцыі і заключэнні камісіі па ўстанаўленню і расследаванню злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх памагатых, акты нанесенага ўрону. Матэрыял аб раяніраванні г. Магілёва 1946—1947 гг.

**Фінансы. Фінансаванне.**

**Фінансавыя аддзелы акрвыканкамаў**

*Бабруйскага, ф. 380, 2 с., 1928—1929 гг. (Баб)*

*Барысаўскага, ф. 298, 10 с., 1924—1927 гг. (Мн)*

*Віцебскага, ф. 449, 4 с., 1929—1930 гг. (В)*

Пастановы, цыркуляры і інструкцыі Наркамфіна БССР аб зборах, якія спаганяюцца органамі НКУС за выдачу замежных пашпартоў, дазволаў і віз на выезд і ўезд у СССР. Заявы грамадзян, якія ад'язджаюць за мяжу, аб выдачы ім даведак і нядоімкавых разлікаў. Справы па абкладанню падаходным падаткам замежных грамадзян. Звесткі аб кантрабандных здзелках у раёне Плешчаніцкай мытні. Дакументы аб рабоце камісіі па чыстцы апарату.

*Фінансавая інспекцыя Мінскага акрвыканкама, ф. 297, 1 с., 1924 г. (Мн)*

Заявы грамадзян, якія ад'язджаюць за мяжу, аб выдачы ім даведак і нядоімкавых разлікаў.

**Фінансавыя аддзелы павятовых выканкамаў**

*Мазырскі, ф. 93, 4 с., 1919—1924 гг. (Маз)*

*Слуцкі, ф. 1875, 3 с., 1918—1919 гг. (Мн)*

Пратаколы нарад прадстаўнікоў валвыканкамаў, пратаколы пасяджэнняў валасной і мясцовай камісіі па размеркаванню надзвычайнага падатку і спісы падаткаплацельшчыкаў, даведкі аб выплаце аднаразовага надзвычайнага падатку.

**Фінансавыя інспекцыі г. Гомеля**

*2-га ўчастка, ф. 1565, 3 с., 1923—1926 гг. (Гом)*

*3-га ўчастка, ф. 1566, 3 с., 1923—1925 гг. (Гом)*

Справы па абкладанню падаткамі.

**Фінансавыя аддзелы аблвыканкамаў**

*Бабруйскага, ф. 1099, 27 с., 1944—1953 гг. (Баб)*

*Баранавіцкага, ф. 584, 17 с., 1944—1952 гг. (Бар)*

*Беластоцкага, ф. 304, 1 с., 1940 г. (Гр)*

*Магілёўскага, ф. 346, 79 с., 1944—1981 гг. (Маг)*

*Маладзечанскага, ф. 407, 64 с., 1944—1958 гг. (Мал)*

*Пінскага, ф. 244, 110 с., 1940—1941, 1944—1954 гг. (Пін)*

*Полацкага, ф. 711, 90 с., 1944—1952 гг. (Пол)*

Загады, цыркуляры, указанні Наркамата фінансаў БССР і СССР; перапіска аб узмацненні кантролю за захаванасцю і расходаваннем дзяржаўных сродкаў, аб узмацненні барацьбы з растратамі і крадзяжамі, аб падатковым абкладанні служыцеляў рэлігійных культаў, аб канфіскацыі маёмасці выселеных сем'яў; планы фінансавання абаронных мерапрыемстваў; справаздачы і ведамасці па аказанню грашовай дапамогі сем'ям загінуўшых, рэпатрыіраваным савецкім грамадзянам; перапіска з Упраўленнем рабоча-сялянскай міліцыі Пінскай вобласці аб правілах выезду і часовага пражывання ў прыгранічнай паласе СССР, вопісы залатых і

сярэбраных рэчаў, канфіскаваных у прыватных асоб і нацыяналізаваных прадпрыемстваў.

**Фінансавыя аддзелы райвыканкамаў**

*Асвейскага, ф. 146, 7 с., 1930—1931 гг. (Пол)*

*Бягомльскага, ф. 309, 3 с., 1931—1933 гг. (Мн)*

*Валынецкага, ф. 125, 2 с., 1930—1931 гг. (Пол)*

*Лагойскага, ф. 314, 11 с., 1935 г. (Мн)*

*Плешчаніцкага, ф. 308, 2 с., 1932—1933 гг. (Мн)*

*Пухавіцкага, ф. 313, 3 с., 1933 г. (Мн)*

Пратаколы пасяджэнняў раённай падатковай камісіі, звесткі аб абкладанні кулацкіх гаспадарак; акты аб перадачы кулацкай маёмасці калгасам, план давядзення цвёрдага задання па пасеву кулацкім і заможным гаспадаркам.

**Фінансавыя аддзелы гарвыканкамаў**

*Беластоцкага, ф. 305, 1 с., 1941 г. (Гр)*

*Маладзечанскага, ф. 522, 11 с., 1947—1962 гг. (Мал)*

*Полацкага, ф. 668, 18 с., 1945—1958 гг. (Пол)*

Аб мабілізацыйнай гатоўнасці фінансавай сістэмы на выпадак вайны, перапіска аб дзяржаўных пазыках аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі, аб падатковым абкладанні.

*Магілёўская абласная кантора прамысловага банка Беларускай рэспубліканскай канторы прамысловага банка, ф. 796, 2 с., 1944—1945 гг. (Маг)*

Цыркулярныя пісьмы і паведамленні аб пастановах і распараджэннях вышэйшых урадавых органаў СССР.

*Полацкая абласная кантора сельгасбанка, ф. 748, 5 с., 1947—1953 гг. (Пол)*

Указанні сельгасбанка СССР аб парадку фінансавання лагераў-калоній МУС.

*Калінкавіцкае раённае агенцтва Мазырскага акруговага Упраўлення "Акрстрах", ф. 200, 1 с., 1929—1930 гг. (Маз)*

Спісы кулацкіх гаспадарак.

*Церахоўская чыгуначная раённая страхкаса, м. Церахоўка, ф. 1341, 4 с., 1928—1931 гг. (Гом)*

Асабовыя справы пенсіянераў.

**Статыстыка. Улік.**

*Статыстычнае ўпраўленне Бабруйскага акрвыканкама, ф. 1396, 33 с., 1947—1953 гг. (Баб)*

Указанні ЦСУ СССР аб распрацоўцы статыстычнай справаздачнасці, пастановы і распараджэнні Савета Міністраў СССР, справаздачы па прамысловасці, транспарту, аб палавым і ўзроставым

складзе сельскага насельніцтва.

**Абласныя статыстычныя ўпраўленні СУ БССР**

*Баранавіцкае, ф. 693, 23 с., 1940—1941, 1944—1953 гг. (Бар)*

*Маладзечанскае, ф. 1108, 38 с., 1944—1959 гг. (Мал)*

*Полацкае, ф. 1161, 15 с., 1944—1956 гг. (Пол)*

Загады, указанні, пастановы і інструкцыі ЦСУ СССР, статупраўлення БССР па пытаннях галіновай статыстыкі і сакрэтнага справаводства, асноўныя паказчыкі развіцця народнай гаспадаркі і культуры вобласці, браніравання рабочай сілы і ваеннаабавязаных за народнай гаспадаркай, статыстычныя звесткі і справаздачы аб паказчыках працы прамысловых прадпрыемстваў і электрастанцый, выніках сяўбы, перапісу насельніцтва і жывёлы, стане аўтатранспарту.

**Прамысловасць**

*Гомельскі ордэна Леніна шкляны завод імя М.В. Ламаносава Міністэрства прамысловасці будаўнічых матэрыялаў БССР, ф. 1863, 21 с., 1944—1951 гг. (Гом)*

Загады і дырэктыўныя ўказанні народнага камісара і Міністэрства прамысловасці будаўнічых матэрыялаў СССР, пастановы абкама і гаркама КП(б) Беларусі.

*Гомельская цэнтральная электрычная станцыя імя 5-й гадавіны Кастрычніка Гомельскага гарадскога камунальнага трэста, ф. 1288, 18 с., 1944—1951 гг. (Гом)*

Пастановы СНК, СМ БССР, ЦК КП(б)Б, загады начальніка Галоўэнерга БССР, рашэнні аблвыканкама, загады дырэктара Гомельскай электрастанцыі.

*Беларускі суднабудаўнічы трэст Галоўнага ўпраўлення верфяў драўлянага суднабудаўніцтва Міністэрства рачнога флоту СССР, ф. 970, 17 с., 1945—1949 гг. (Гом)*

Загады, распараджэнні, цыркуляры, інструкцыі і перапіска Міністэрства рачнога флоту і Галоўнага ўпраўлення верфяў, журнал выходных сакрэтных папер.

*Мінскі станкабудаўнічы завод імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, ф. 169, 11 с., 1935 г. (Мн)*

Пастановы, загады, цыркуляры ВСНГ СССР і БССР, Савета працы і абароны, перапіска з імі аб захаванні сакрэтнай дакументацыі, аб арганізацыі сакрэтных аддзелаў пры заводскіх камітэтах. Дырэктыўныя пісьмы Наркамата юстыцыі БССР аб высяленні з памяшканняў, аб стане мабілізацыйнага прамысловага фінансавага плана; выпіскі з пратаколаў пасяджэнняў Прэзідыума Мінскага гарсавета аб ходзе падрыхтоўкі да вучэння ППА, аб выніках

збору ваеннаабавязаных.

*Мінскі прыборабудаўнічы завод імя У.І. Леніна Міністэрства радыётэхнічнай прамысловасці СССР, ф. 160, 33 с., 1931—1935 гг. (Мн)*

Пастановы, загады, цыркуляры СНК СССР, БССР, ВСНГ БССР, Наркамата лясной прамысловасці, Мінскага гарадскога камітэта КП(б)Б і гарсавета аб уліку ў грамадзянскіх ведамствах баявых прыпасаў, аб браніраванні рабочай сілы, аб лесанарыхтоўках, захоўванні і ўпарадкаванні вучэбнай і баявой маёмасці.

*Магілёўскі завод № 511 імя Куйбышава, ф. 739, 129 с., 1944—1972 гг. (Маг)*

Загады Народнага Камісарыята тэкстыльнай прамысловасці СССР, Міністэрства хімічнай прамысловасці СССР і ўпраўлення хімічнай прамысловасці пры СМ БССР, загады па заводу № 511. Распараджэнні, пастановы, рашэнні і ўказанні Савета Міністраў БССР і Магілёўскага аблвыканкама, пералік зусім сакрэтных пытанняў па Міністэрству тэкстыльнай прамысловасці СССР, планы і справаздачы аб іх выкананні, акты праверак тэхнічнага стану абсталявання, акты праверкі стану ўліку і браніравання ваеннаабавязаных і спісы работнікаў завода для прадастаўлення адтэрміноўкі ад прызыву, акты прыёму-перадачы справаводства спецаддзела, праверкі стану ведамаснай аховы, стану, уліку і захавання сакрэтных дакументаў і дзяржаўнай тайны.

*Групавое аб'яднанне дзяржаўных папяровых фабрык Гомельскай губерні "Полесский бумтрест" Гомельскага губернскага Савета народнай гаспадаркі, ф. 97, 1 с., 1926—1927 гг. (Гом)*

Перапіска з гандлёвымі прадстаўніцтвамі СССР у замежных дзяржавах.

*Гомельскі гарадскі хлебакамбінат Беларускага дзяржаўнага трэста прамысловага хлебапячэння "Белпрамхлеб", ф. 694, 1 с., 1937 г. (Гом)*

Мабілізацыйны план.

*Магілёўскі камбінат будаўнічых матэрыялаў Міністэрства прамысловасці будаўнічых матэрыялаў БССР, ф. 911, 8 с., 1945—1952 гг. (Маг)*

Загады, указанні і распараджэнні Беларускага дзяржаўнага будаўніча-мантажнага трэста і Міністэрства прамысловасці будаўнічых матэрыялаў БССР, пастановы і рашэнні органаў Савецкай улады.

*Спецаддзел Магілёўскай швейнай фабрыкі імя Валадарскага, ф. 69, 4 с., 1934—1937 гг. (Маг)*

Пастановы Магілёўскага аблвыканкама, гарвыканкама, абкама і гаркама КПБ, перапіска з дзяржаўнымі ўстановамі горада.

*Палескі запалкавы трэст "Полспичтрест" Гомельскага губернскага савета народнай гаспадаркі, ф. 1, 1 с., 1925—1926 гг. (Гом)*

Перапіска з губадмаддзелам аб выдачы пашпартоў замежным інжынерам.

*Дзяржаўная запалкавая фабрыка "X Октябрь" трэста запалкавай прамысловасці "Белспичпром", г. Рэчыца, ф. 1268, 1 с., 1938 г. (Гом)*

Тытульны спіс і тлумачальная запіска па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва на запалкавай фабрыцы; спісы рабочых, выключаных з партыі.

## 7. БУДАЎНІЦТВА. АРХІТЭКТУРА

**Упраўленні па справах сельскага і калгаснага будаўніцтва пры аблвыканкамах**

*Пінскае, ф. 686, 5 с., 1946—1949 гг. (Пін)*

*Полацкае, ф. 691, 3 с., 1947—1952 гг. (Пол)*

Загады, указанні і распараджэнні Упраўлення па справах сельскага і калгаснага будаўніцтва пры СМ БССР па пытаннях будаўніцтва.

*Магілёўскае абласное аддзяленне Беларускага дзяржаўнага ўпраўлення праектавання грамадзянскага будаўніцтва, здымкі і планавання гарадоў, ф. 139, 346 с., 1932—1941 гг. (Маг)*

Генеральныя зводныя схемы, фотагенсхемы планавання г. Магілёва, планы г. Магілёва і прыгарадных зямель. Карта выкарыстоўвання зямель, акты аб здачы дакументаў праектна-каштарыснага аддзела.

*Віцебскі абласны трэст сельскага будаўніцтва Упраўлення па справах сельскага і калгаснага будаўніцтва пры Савеце Міністраў БССР, ф. 2480, 1 с., 1947—1948 гг. (В)*

Перапіска з прадпрыемствамі і арганізацыямі аб паляпшэнні харчовага забеспячэння будаўнікоў, аб забароне ўжывання этыліраванага бензіну для ўнутрыцэхавага транспарту і рухавікоў, пераацэнцы астаткаў будаўнічых матэрыялаў, аб паляпшэнні аховы мацярынства і дзяцінства.

*Віцебскі абласны будаўнічы трэст Міністэрства жыллёва-грамадзянскага будаўніцтва БССР, ф. 2481, 3 с., 1944—1945, 1951—1952 гг. (В)*

Загады, распараджэнні, дырэктыўныя ўказанні Наркамата

жылграмадзянбуда БССР і Галоўпрамбуда пры СМ БССР.

*Трэст № 8 Міністэрства гарадскога і сельскага будаўніцтва БССР, г. Віцебск, ф. 2878, 2 с., 1952—1955 гг. (В)*

Загады і дырэктыўныя ўказанні Міністэрства прамысловасці харчовых тавараў СССР, планы будаўніча-мантажных работ, каштарысна-фінансавыя справаздачы, тытульныя спісы.

*Будаўнічы трэст № 14 Міністэрства гарадскога і сельскага будаўніцтва БССР, г. Орша, ф. 4065, 5 с., 1950, 1953—1955 гг. (В)*

Загады і дырэктыўныя ўказанні Міністэрства жылграмадзянбуда БССР, праектнае заданне каналізацыі г. Оршы, генеральны план каналізацыі і тлумачальная запіска да яго.

*Пінскі абласны сельскагаспадарчы трэст Упраўлення па справах сельскага і калгаснага будаўніцтва пры Пінскім аблвыканкаме, ф. 179, 1 с., 1946—1948 гг. (Пін)*

Пастанова Савета Міністраў БССР аб мерах умацавання абласных сельскіх будаўнічых трэстаў; інструкцыі па вядзенню ўліку ваеннаслужачых.

*Будаўніцтва № 84 упраўлення аэрадромнага будаўніцтва Народнага камісарыята ўнутраных спраў БССР, г. Лунінец, ф. 119, 77 с., 1941 г. (Пін)*

Загады начальніка будаўніцтва па асабоваму складу, перапіска з начальнікамі УНКУС, установамі па пытаннях будаўніцтва; указанні, тэлеграмы па пытаннях будаўніцтва; разлік аб'ёму земляных работ, звесткі аб назве аб'ектаў, журнал тэхнічнага нівеліравання; планы будаўніча-мантажных работ, справаздачы аб выкананні планаў па будаўніцтву, каштарысна-фінансавыя разлікі па часовых збудаваннях, звесткі аб расходаванні гаручага; журнал уліку рабочай сілы, якая прыбыла з сельскіх мясцовасцей; накіраванні на працу, штатны расклад, звесткі аб працы асуджаных да папраўчых работ, судовыя штрафы на грамадзян; загады па асабоваму складу, ведамасці на выдачу заработнай платы рабочым і служачым; спіс гаспадарак, падлягаючых зносу ў сувязі з адыходам прысядзібнага ўчастка пад будаўніцтва № 84.

*Аддзел па справах архітэктуры Полацкага аблвыканкама, ф. 700, 6 с., 1947—1953 гг. (Пол)*

Агляд аб стане праектавання і забудовы г. Полацка, звесткі па ўліку ваеннаабавязаных.

## 8. КААПЕРАЦЫЯ

### Прамысловая кааперацыя

### Абласныя саветы прамысловай кааперацыі

*Баранавіцкі, ф. 699, 6 с., 1946—1953 гг. (Бар)*
*Полацкі, ф. 739, 30 с., 1946—1954 гг. (Пол)*

Загады начальніка ўпраўлення па пытаннях працаўладкавання, упарадкавання тэхнічнага нарміравання і заработнай платы, зніжэння нормаў расходу сыравіны па вытворчасці прамысловай прадукцыі, выніках выканання плана стварэння звышнарматыўных матэрыялаў і тавараў у сістэме; справаздачы аб руху каляровых металаў.

**Старшыя інспектары Галоўнага ўпраўлення па справах прамысловай і спажывецкай кааперацыі пры СМ СССР па абласцях**

*Гомельскай, ф. 1282, 3 с., 1947—1950 гг. (Гом)*
*Пінскай, ф. 192, 4 с., 1947—1949 гг. (Пін)*
*Полацкай, ф. 794, 5 с., 1947—1950 гг. (Пол)*

Загады, дырэктыўныя ўказанні, інструкцыі Галоўнага ўпраўлення па справах прамысловай і спажывецкай кааперацыі.

*Віцебскі абласны саюз дрэваапрацоўчай прамысловай кааперацыі "Лесдревпромсоюз", ф. 2218, 3 с., 1945, 1951—1952 гг. (В)*

Пастановы Віцебскага абкама і гаркама КП(б)Б, рашэнні Віцебскага аблвыканкама аб зацвярджэнні дзяржплана развіцця народнай гаспадаркі вобласці, аб выкананні вытворчага плана і плана капітальнага будаўніцтва.

*Віцебскі абласны саюз featuresнапрамысловай кааперацыі БССР, ф. 2767, 3 с., 1947—1952 гг. (В)*

Пастановы і рашэнні Віцебскага аблвыканкама аб зацвярджэнні дзяржплана развіцця народнай гаспадаркі вобласці, выніках выканання плана выпуску прадукцыі і капітальнага будаўніцтва, плана вытворчасці мэблі на 1947 г.

*Віцебскі міжабласны саюз кааперацыі інвалідаў Беларускага саюза кааперацыі інвалідаў, ф. 2771, 8 с., 1955—1958 гг. (В)*

Пастановы прэзідыума "Белкаапінсаюза" аб выкананні плана тавараабароту за 1948 г., рашэнні Віцебскага і Полацкага аблвыканкамаў аб зацвярджэнні плана развіцця народнай гаспадаркі, аб плане выпуску прадукцыі і мерах па ўпарадкаванню тэхнічнага нарміравання на прадпрыемствах кааперацыі інвалідаў і мясцовай прамысловасці вобласці.

*Віцебскі абласны саюз гарбарна-швейнай прамысловай кааперацыі Белпрамсавета, ф. 2769, 3 с., 1949—1953 гг. (В)*

Пастановы Віцебскага аблвыканкама аб зацвярджэнні плана развіцця народнай гаспадаркі вобласці на 1953 г., план выпуску валавой прадукцыі на 1949 г.

*Віцебскі абласны саюз торфапрамысловай кааперацыі Упраўлення прамысловай кааперацыі пры Савеце Міністраў БССР, ф. 2768, 2 с., 1945—1949 гг. (В).*

Планы здабычы торфу і вынікі яго выканання за 4 месяцы 1949 г.

*Магілёўскі абласны гарбарна-швейны прамысловы саюз, ф. 736, 9 с., 1945—1953 гг. (Маг)*

Загады Упраўлення прамкааперацыі пры Савеце Міністраў БССР, пастановы Белпрамсавета, пастановы і рашэнні аблвыканкама і бюро абкама КП(б)Б.

*Полацкі абласны харчовы прамысловы саюз, ф. 792, 3 с., 1941—1949 гг. (Пол)*

Загады і ўказанні Упраўлення прамысловай кааперацыі пры СМ БССР.

*Полацкі абласны лясны і дрэваапрацоўчы саюз, ф. 793, 1 с., 1949 г. (Пол)*

Планы выпуску таварнай і валавой прадукцыі.

*Полацкі аблспажыўсаюз, ф. 755, 33 с., 1947—1953 гг. (Пол)*

Пастановы Цэнтрасаюза і Белкаапсаюза, пратаколы пасяджэнняў звужанага праўлення аблспажыўсаюза, планы работы.

## 9. ТРАНСПАРТ

*Транспартны аддзел Брэст-Літоўскай чыгункі, ст. Баранавічы-цэнтральныя НКУС БССР, ф. 696, 1 с., 1940 г. (Бар)*

Крымінальная справа па абвінавачванню ў антысавецкай прапагандзе.

*Маладзечанскі абласны аддзел аўтатранспарту і шасэйных дарог, ф. 168, 4 с., 1957—1959 гг. (Мал)*

Загады начальніка Галоўнага ўпраўлення шасэйных дарог пры СМ БССР і выпіскі з рашэнняў Маладзечанскага аблвыканкама аб зацвярджэнні пералікаў мастоў і гідратэхнічных збудаванняў, падлягаючых ахове ад пашкоджання крыгаходам і паводкавымі водамі, падрыхтоўцы да пропуску крыгаходаў на рэках каля маставых пераходаў, забеспячэнні праязджальнасці дарог і інш.

**Начальнікі станцый Заходніх чыгунак**

*ст. Добруш, ф. 1696, 1 с., 1923 г. (Гом)*

*ст. Уза, ф. 1697, 1 с., 1925—1928 гг. (Гом)*

Загады і цыркуляры праўлення Заходніх чыгунак аб парадку перасылкі, вядзення і захавання сакрэтнай карэспандэнцыі.

*5-ы ўчастак службы цягі Заходніх чыгунак, ст. Жлобін, ф. 1703, 1 с., 1925—1928 гг. (Гом).*

Перапіска з аддзяленнем дарожна-транспартнага аддзела АДПУ аб арышце машыністаў ст. Жлобін; спісы служачых 5-га ўчастка, членаў і кандыдатаў ВКП(б), якія знаходзіліся на асобным уліку.

*6-ы ўчастак службы сувязі і электратэхнікі Заходніх чыгунак, ст. Жлобін, ф. 1694, 2 с., 1922—1925 гг. (Гом)*

Цыркуляры праўлення Заходніх чыгунак, перапіска з адміністрацыйным аддзелам праўлення аб парадку захоўвання, дастаўкі і перадачы шыфраваных тэлеграм.

## 10. СУВЯЗЬ

**Абласныя ўпраўленні сувязі**

*Баранавіцкае, ф. 572, 14 с., 1946—1953 гг. (Бар)*
*Гомельскае, ф. 2786, 36 с., 1943—1956 гг. (Гом)*
*Магілёўскае, ф. 818, 56 с., 1938—1940, 1943—1955 гг. (Маг)*
*Маладзечанскае, ф. 406, 72 с., 1940—1941 гг. (Мал)*
*Пінскае, ф. 539, 60 с., 1944—1953 гг. (Пін)*
*Полацкае, ф. 764, 66 с., 1944—1954 гг. (Пол)*

Загады і распараджэнні Наркаматаў, Міністэрстваў сувязі СССР, БССР, рашэнні аблвыканкамаў, начальнікаў абласных упраўленняў сувязі аб парадку выдачы і карыстання зброяй, аб узмацненні кантролю за працай апаратаў спецсувязі, аб апрацоўцы і захоўванні сакрэтных дакументаў, аб парадку змянення ліміту і анулявання падпіскі пры перамяшчэнні воінскіх часцей, працы прыёмна-размеркавальных пунктаў па абслугоўванню рэпатрыіраваных савецкіх грамадзян. Гадавыя справаздачы па абаронна-мабілізацыйнай рабоце ўпраўленняў і аддзелаў, акты абследавання падведамасных прадпрыемстваў.

*Баранавіцкі абласны аддзел спецсувязі, ф. 591, 40 с., 1944—1953 гг. (Бар)*

Загады начальніка аддзела па асноўнай дзейнасці, штатныя расклады, планы, справаздачы, дакладныя запіскі аб вытворча-фінансавай дзейнасці аддзела, падрыхтоўцы кадраў, акты праверак работы аддзела і прыёму раённых аддзелаў у эксплуатацыю.

*Пінскае абласное аддзяленне спецсувязі, ф. 682, 41 с., 1943—1953 гг. (Пін)*

Загады і дырэктыўныя ўказанні Міністэрства сувязі БССР, перапіска з Галоўным упраўленнем спецсувязі, штатныя расклады аддзялення, планы і справаздачы, акты праверак раённых пунктаў спецсувязі.

## 11. СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

**Зямельныя ўпраўленні выканаўчых камітэтаў губернскіх Саветаў**

*Віцебскае, ф. 14, 1 с., 1918 г. (В)*

*Гомельскае, ф. 13, 5 с., 1923—1926 гг. (Гом)*

Цыркуляры і перапіска з Віцебскай ЧК аб высяленні з маёнткаў і гарадоў Заходняй вобласці былых памешчыкаў, арандатараў і давераных; спісы памешчыкаў Полацкага павета; асабовыя справы членаў Бунда, справа па скарзе.

**Зямельныя ўпраўленні выканаўчых камітэтаў павятовых Саветаў**

*Гомельскае, ф. 375, 12 с., 1919—1926 гг. (Гом)*

*Рэчыцкае, ф. 12, 9 с., 1919—1924 гг. (Гом)*

Пратаколы пасяджэнняў пленумаў павятовай камісіі, справаздачы аб чыстцы асабовага складу; заявы і перапіска з арцелямі аб надзяленні іх ворнай зямлёй, сенажацямі, аказанні матэрыяльнай дапамогі, справы па іску.

*Зямельная камісія пры зямельным упраўленні Гомельскага павятовага выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, ф. 1686, 7 с., 1922—1925 гг. (Гом)*

Справы грамадзян па іску.

**Зямельныя аддзелы выканаўчых камітэтаў акруговых Саветаў**

*Віцебскі, ф. 71, 1 с., 1930 г. (В)*

*Мазырскі, ф. 75, 1 с., 1930 г. (Маз)*

Пратаколы пасяджэнняў камісіі па чыстцы апарату; пратаколы агульных сходаў грамадзян і спісы членаў калгаса "Светлая жизнь".

**Зямельныя аддзелы выканаўчых камітэтаў раённых Саветаў**

*Бягомльскі, ф. 201, 1 с., 1932 г. (Мн)*

*Дамброўскі, ф. 169, 3 с., 1940 г. (Гр)*

*Дрысенскі, ф. 130, 25 с., 1930—1934 гг. (Пол)*

*Жлобінскі, ф. 677, 14 с., 1936—1941 гг. (Гом)*

Загады Наркамзема БССР, абласнога зямельнага аддзела; загады і дырэктыўныя ўказанні Беластоцкага абласнога зямельнага аддзела аб мабілізацыі ў Чырвоную Армію; пратаколы агульных сходаў калгаснікаў, пратаколы пасяджэнняў камісіі па разгляду скаргаў; спісы старшынь калгасаў Жлобінскага раёна, мабілізацыйны каляндар; справа аб выключэнні з калгаса Бягомльскага раёна жонак кулакоў.

**Зямельныя камісіі выканаўчых камітэтаў**

*акруговая*

*Полацкая, ф. 106, 3 с., 1925—1927 гг. (Пол)*

Пратаколы пасяджэнняў акруговай зямельнай камісіі па высяленню былых памешчыкаў; спісы памешчыкаў, падлягаючых перасяленню.

*раённая Лёзненская, ф. 730, 1 с., 1930 г. (В)*

Пратаколы агульных сходаў грамадзян сельскіх Саветаў аб калектывізацыі і раскулачванні; вопісы канфіскаванай маёмасці; спісы кулакоў.

*валасныя*

*Боркавіцкая, ф. 644, 3 с., 1923 г. (Пол)*

*Вялікадолецкая, ф. 677, 1 с., 1922 г. (Пол)*

*Дрысенская, ф. 646, 6 с., 1923 г. (Пол)*

*Рагачоўская, ф. 1669, 1 с., 1924 г. (Гом)*

*Сямёнаўская, ф. 647, 3 с., 1923—1926 гг. (Пол)*

Заявы сялян аб надзяленні іх зямлёй, падзеле маёмасці; справа па іску.

**Аддзелы сельскай гаспадаркі райвыканкамаў**

*Быхаўскі, ф. 2824, 9 с., 1944—1953 гг. (Маг)*

*Дрыбінскі, ф. 1513, 1 с., 1947, 1950—1951, 1953 гг. (Маг)*

*Парыцкі, ф. 2762, 4 с., 1947—1949 гг. (Гом)*

Выпіскі з пастаноў СМ СССР, загады і інструкцыі Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР; планы зямель, перададзеных на вечнае карыстанне калгасам і планы ўнутрыгаспадарчага землеўпарадкавання калгасаў.

**Упраўленні сельскай гаспадаркі і нарыхтовак райвыканкамаў**

*Горацкае, ф. 1403, 12 с., 1945—1952, 1962, 1965—1966 гг. (Маг)*

*Расонскае, ф. 1196, 7 с., 1951—1952 гг. (Пол)*

*Ульскае, ф. 3780, 3 с., 1952—1953 гг. (В)*

Пастановы і рашэнні Ульскага райвыканкама аб веснавой сяўбе кок-сагызу, захворванні жывёлы яшчурам, накладанні каранціну; аб дзяржаўным плане сельгаснарыхтовак, планы размяшчэння пасеваў, звесткі аб палявых плошчах кок-сагызу; планы зямель, перададзеных у бестэрміновае карыстанне калгасам Горацкага і Расонскага раёнаў і планы ўнутрыгаспадарчага землеўпарадкавання калгасаў.

**Упраўленні сельскай гаспадаркі аблвыканкамаў**

*Бабруйскае, ф. 1107, 71 с., 1944—1953 гг. (Баб)*

*Баранавіцкае, ф. 595, 31 с., 1944—1953 гг. (Бар)*

*Гомельскае, ф. 1205, 140 с., 1944—1961 гг. (Гом)*

*Магілёўскае, ф. 339, 69 с., 1940—1970 гг. (Маг)*

*Маладзечанскае, ф. 550, 6 с., 1951—1952, 1955—1957 гг. (Мал)*
*Пінскае, ф. 249, 19 с., 1945—1950 гг. (Пін)*
*Полацкае, ф. 693, 67 с., 1945—1953 гг. (Пол)*

Загады, інструкцыі, распараджэнні Міністэрстваў сельскай гаспадаркі СССР і БССР, дзяржаўныя планы развіцця сельскай гаспадаркі, планы сельскагаспадарчых работ, ураддівасці; справаздачы па інфекцыйных захворваннях, справаздачы дзяржветінспекцыі; рашэнні Баранавіцкага і Маладзечанскага аблвыканкамаў аб выдзяленні саўгасамі і калгасамі коней у фонды "Лошадь Советской Армии" і "Обороне — повозка с упряжью", Міністэрству дзяржбяспекі СССР, для органаў міліцыі, пагранічных войск; аб плане пасяўных плошчаў каўчуканосаў і ўраддівасці збожжавых і тэхнічных культур у калгасах; спісы і схемы замініраваных плошчаў па раёнах Магілёўскай вобласці, планы і справаздачы па іх размініраванню; спецкарты праектнага задання па асушэнню балот і забалочаных зямель, звесткі аб плошчах цалкам загінуўшых сельскагаспадарчых культур па вобласці.

**Абласныя інспекцыі па вызначэнню ўраддівасці**

*Маладзечанская, ф. 420, 39 с., 1947—1954 гг. (Мал)*
*Мінская, ф. 1142, 43 с., 1947 г. (Мн)*

Матэрыялы праверак стану азімых пасеваў у калгасах, дакументы па ўліку пасяўных плошчаў і сартавых пасеваў.

**Міжраённыя дзяржаўныя інспекцыі па вызначэнню ўраддівасці**

*Бабруйская, ф. 1043, 28 с., 1947—1953 гг. (Баб)*
*Віцебская, ф. 2232, 92 с., 1947—1954 гг. (В)*
*Магілёўская, ф. 782, 36 с., 1947—1954 гг. (Маг)*
*Мінская, ф. 1142, 43 с., 1947 г. (Мн)*
*Пінская, ф. 693, 25 с., 1947—1953 гг. (Пін)*

Загады і ўказанні Галоўнай дзяржаўнай інспекцыі па вызначэнню ўраддівасці, планы развіцця сельскай гаспадаркі і ўраддівасці ў калгасах, справаздачы па праверцы стану азімых пасеваў, аб ураддівасці збожжавых, каласавых, крупяных, бабовых, тэхнічных культур і бульбы, дакументы па ўліку пасяўных плошчаў.

*Полацкі трэст жывёлагадоўчых саўгасаў, ф. 900, 9 с., 1947—1954 гг. (Пол)*

Рашэнні і пастановы Полацкага аблвыканкама, Галоўнага ўпраўлення жывёлагадоўчых саўгасаў.

*Савецкая гаспадарка (саўгас) "Асвея" Асвейскага раёна, ф. 313, 1 с., 1931—1932 гг. (Пол)*

Акт ацэнкі былых кулацкіх забудоў.

*Сельскагаспадарчая камуна "Маяк" Сар'янскага сельсавета Дрысенскага раёна, ф. 382, 2 с., 1930 г. (Пол)*

Звесткі аб зняцці ўраджаю з кулацкіх гаспадарак, акты прыёмкі маёмасці кулакоў.

**Сельскагаспадарчыя арцелі (калгасы)**

*"Ясная поляна" Жоўнінскага сельсавета Дрысенскага раёна, ф. 405, 1 с., 1933 г. (Пол)*

*імя Карла Маркса Кахановіцкага сельсавета Асвейскага раёна, ф. 406, 1 с., 1929—1930 гг. (Пол)*

*імя Сталіна Шнітаўскага сельсавета Расонскага раёна, ф. 412, 2 с., 1930—1931 гг. (Пол)*

Пратаколы агульных сходаў членаў калгасаў і пасяджэнняў праўлення, вопісы кулацкай маёмасці, перададзенай калгасу, акты абагуленай маёмасці, спісы ўзятых у кулакоў насення і жывёлы.

## 12. ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

**Абласныя ўпраўленні лясной гаспадаркі**

*Баранавіцкае, ф. 490, 7 с., 1948—1951 гг. (Бар)*
*Гомельскае, ф. 2813, 16 с., 1946—1952 гг. (Гом)*
*Магілёўскае, ф. 91, 15 с., 1946—1951 гг. (Маг)*
*Пінскае, ф. 212, 11 с., 1944—1949 гг. (Пін)*
*Полацкае, ф. 718, 33 с., 1948—1954 гг. (Пол)*

Загады і пастановы Міністэрства лясной гаспадаркі БССР, абласных упраўленняў; матэрыялы па адчужэнню дзяржлясфонду, вырубцы лесу пад будаўніцтва, справаздачы аб лясных пажарах; спіс аэрадромаў і пасадачных пляцовак Магілёўскай вобласці, падлягаючых перадачы народнай гаспадарцы, ведамасць плошчаў дзяржлясфонду, падлягаючых замацаванню за Міністэрствам Узброеных Сіл СССР, схематычныя карты лясгасаў і лясоў вобласці; статыстычныя звесткі па ўліку лясного фонду.

*Дзяржаўны лесанарыхтоўчы прамысловы трэст па Маладзечанскай вобласці "Вилейлеспром", ф. 92, 13 с., 1944—1948 гг. (Мал)*

Загады, пастановы народнага камісара і міністра лясной прамысловасці БССР, маладзечанскіх аблвыканкама і абкама партыі аб забеспячэнні дровамі прыфрантавых чыгунак, наборы рабочай сілы ў прамысловасць і будаўніцтва, размяшчэнні і працоўным выкарыстанні інтэрніраваных немцаў, парадку ўліку і ацэнкі трафейнага абсталявання, выпрацоўцы лесаматэрыялаў, мерапрыемствах па барацьбе з інфекцыйнымі захворваннямі.

*Пінскі лесанарыхтоўчы трэст "Пинлеспром", ф. 315, 12 с.,*

*1945—1950 гг. (Пін)*

Загады і распараджэнні Наркамлеса БССР, Міністэрства лясной прамысловасці БССР, кіраўніка трэста, пастановы Пінскага аблвыканкама.

*Віцебскі трэст лясной прамысловасці "Витлеспром", ф. 1983, 25 с., 1944—1951 гг. (В)*

Загады, распараджэнні Наркамата лясной прамысловасці БССР, трэста "Витлеспром", справаздача аб рабоце спецаддзела аб закладцы лесаматэрыялаў у дзяржаўны рэзерв, аб выкананні плана спецасартыменту.

**Лесапрамысловыя гаспадаркі (леспрамгасы)**

*Глыбоцкі, ф. 124, 5 с., 1963—1967 гг. (Гл)*

*Гродзенскі, ф. 460, 21 с., 1946, 1948—1949 гг. (Гр)*

*Суражскі, ф. 1984, 7 с., 1945—1951 гг. (В)*

Загады, дырэктывы, распараджэнні Наркамата, Міністэрства лясной і папяровай прамысловасці; перапіска з міністэрствамі, трэстам аб нарыхтоўцы, вывазе і сплаве лесу, аб закладцы дзяржаўных рэзерваў, аб адтэрміноўцы для ваеннаабавязаных.

**Лесахімічныя гаспадаркі (хімлясгасы)**

*Вілейскі, ф. 514, 16 с., 1944—1951 гг. (Мал)*

*Глыбоцкі, ф. 126, 2 с., 1948 г. (Гл)*

*Полацкі, ф. 941, 4 с., 1948—1950 гг. (Пол)*

Загады Міністэрства лясной і папяровай прамысловасці БССР, кіраўніка трэста "Беллесхимпром" аб арганізаваным наборы рабочай сілы на прадпрыемствы галіны, аб ацэнцы абсталявання і матэрыялаў асобых паставак, аб скарачэнні прастояў вагонаў пад пагрузкай і выгрузкай, аб выдзяленні выбуховага матэрыялу.

*Пінская лясная транспартная гаспадарка ("Лестрансгас") Беларускага транспартнага лясного трэста, ф. 185, 3 с., 1945—1949 гг. (Пін)*

Інфармацыя аб вытворча-гаспадарчай дзейнасці трэста, указанні па выкананню плана.

*Гродзенская сплаўная кантора Гродзенскага лесапрамысловага трэста, ф. 463, 16 с., 1947—1950 гг. (Гр)*

Пастановы Гродзенскага аблвыканкама аб забеспячэнні прадпрыемстваў вугальнай і горнаруднай прамысловасці лесам; справы па браніраванню рабочых і служачых.

*Магілёўская аэрафоталесаўпарадкавальная экспедыцыя, ф. 802, 3 с., 1949—1950 гг. (Маг)*

Ведамасці каардынат Цехцінскага лясніцтва, Бялыніцкага лясгаса, Чэрыкаўскага лясніцтва і лясгаса, Клімавіцкага лясніцтва

Касцюковіцкага лясгаса.

## 13. КАМУНАЛЬНАЯ ГАСПАДАРКА

**Абласныя аддзелы камунальнай гаспадаркі**

*Маладзечанскі, ф. 941, 7 с., 1954—1959 гг. (Мал)*
*Пінскі, ф. 218, 10 с., 1944—1952 гг. (Пін)*

Загады, указанні, распараджэнні Міністэрства камунальнай гаспадаркі БССР, перапіска з Маладзечанскім абласным штабам МППА аб баявой падрыхтоўцы асабовага складу аддзела, абсталяванні бомбасховішчаў, абеззаражванні тэрыторыі, планы вучэбна-баявой падрыхтоўкі асабовага складу фарміравання МППА; навучанне ваеннаабавязаных.

*Упраўленне камунальнай гаспадаркі Магілёўскага аблвыканкама, ф. 378, 39 с., 1944—1966 гг. (Маг)*

Загады, указанні, распараджэнні Міністэрства камунальнай гаспадаркі БССР, Галоўнага ўпраўлення камунальнай гаспадаркі пры Савеце Міністраў БССР і аблкамунгаса, пастановы і рашэнні аблвыканкама і абкама партыі. Звесткі і акты ўрону, нанесенага прадпрыемствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі вобласці; пералік пасад, якім даецца адтэрміноўка ад прызыву па мабілізацыі, весткі аб браніраванні; спісы партызан; планы фінансавання і справаздачы аб расходаванні сродкаў на МППА, пратаколы закрытых нарад аблкамунгаса.

## 14. ГАНДАЛЬ

**Аддзелы гандлю аблвыканкамаў**

*Віцебскага, ф. 1969, 19 с., 1940, 1944—1952 гг. (В)*
*Пінскага, ф. 689, 39 с., 1944—1953 гг. (Пін)*
*Полацкага, ф. 696, 35 с., 1945—1953 гг. (Пол)*

Загады наркаматаў і міністэрстваў гандлю СССР і БССР, планы рэалізацыі прамысловых і харчовых тавараў, асабовыя справы работнікаў аддзелаў, матэрыялы па ўліку і абслугоўванню ваеннаабавязаных.

*Магілёўская абласная гандлёвая арганізацыя Галоўнага ўпраўлення мясцовымі гандлёвымі арганізацыямі Міністэрства гандлю БССР, ф. 813, 43 с., 1945—1954 гг. (Маг)*

Загады, указанні і распараджэнні Міністэрства гандлю СССР, Галоўгандлю БССР і аблгандальаддзела, рашэнні аблвыканкама, перапіска з вышэйстаячымі арганізацыямі; даведка аб асобах, якія мелі судзімасць і былі ў палоне ў Германіі; спісы ваеннаабавязаных.

*Магілёўская абласная кантора Беларускага*

*гандальплодаагароднінатрэста, ф. 694, 44 с., 1944—1951 гг. (Маг)*

Рашэнні і пастановы Магілёўскага абкама КП(б)Б і аблвыканкама; загады, указанні і распараджэнні Белгандальплодаагароднінатрэста і Галоўгандальплодаагароднінатрэста; акты абследавання стану і захоўвання сакрэтных дакументаў; справаздачы аб браніраванні ваеннаабавязаных, пастаўцы прадукцыі асобаму спажыўцу, спісы ваеннаабавязаных.

*Пінскае аддзяленне Ваенфлотгандлю Чырванасцяжнай ордэна Ушакова ваеннай флатыліі, ф. 121, 13 с., 1944—1946 гг. (Пін)*

Перапіска з камандаваннем, аддзеламі флатыліі, Галоўваенфлотгандлем аб забеспячэнні харчовымі і прамысловымі таварамі часцей і караблёў, аб прысваенні воінскіх званняў.

*Упраўленне Заходняй мытнай акругі, ф. 899, 3 с., 1922—1923 гг. (Пол)*

Пратаколы пасяджэнняў камісіі па барацьбе з кантрабандай, кніга рэгістрацыі асоб, затрыманых з кантрабанднымі таварамі.

**Мытні**

*Бігосаўская, ф. 337, 1210 с., 1920—1937 гг. (Пол)*
*Заслаўская, ф. 617, 2 с., 1926—1928 гг. (Мн)*
*Мінская, ф. 616, 6 с., 1924—1926 гг. (Мн)*
*Негарэльская, ф. 614, 741 с., 1924—1939 гг. (Мн)*
*Радашковіцкая, ф. 615, 5 с., 1922—1925 гг. (Мн)*
*Фарынаўская, ф. 338, 1857 с., 1921—1928 гг. (Пол)*

Цыркуляры, інструкцыі і загады Наркамата знешняга гандлю СССР і Галоўнага мытнага ўпраўлення, начальніка Негарэльскай мытні. Перапіска з вышэйстаячымі арганізацыямі аб абкладанні пошлінай імпартных тавараў і грузаў, аб падпісцы на пазыку. Ведамасці на выдачу заработнай платы супрацоўнікам Негарэльскай мытні. Звесткі аб дыпламатах. Надглядныя дакументы пасажыраў, якія накіраваліся за мяжу.

Пратаколы затрымання асоб з кантрабанднымі таварамі, справаздачы і месячныя звесткі па барацьбе з кантрабандай; спісы кантрабандыстаў, вопісы канфіскаваных тавараў; справы на затрыманых з кантрабандным таварам.

*Полацкі ўчастковы мытны інспектар Заходняй мытнай акругі, ф. 582, 4 с., 1922—1924 гг. (Пол)*

Пратаколы пасяджэнняў адказных работнікаў Заходняй мытнай акругі, справаздачы аб дзейнасці мытні.

**Забеспячэнне, нарыхтоўкі, збыт.**

*Віцебскае абласное ўпраўленне Галоўнага ўпраўлення па*

*забеспячэнню нафтавымі прадуктамі народнай гаспадаркі (Галоўнафтазбыт) Міністэрства нафтавай прамысловасці СССР, ф. 2194, 19 с., 1944—1948 гг. (В)*

Загады і распараджэнні Дзяржзабеспячэння СССР, Галоўнафтазбыту пры Савеце Міністраў СССР, Віцебскага абласнога ўпраўлення Галоўнафтазбыту, балансы, звесткі аб размеркаванні нафтапрадуктаў дзяржрэзерву, акты на браніраванне і разбраніраванне, перамяшчэнне фондаў дзяржрэзерву, перапіска з падведамаснымі арганізацыямі, органамі МУС і дзяржбяспекі па забеспячэнню нафтапрадуктамі.

*Магілёўскае абласное ўпраўленне па забеспячэнню народнай гаспадаркі лесаматэрыяламі і дровамі пры СНК СССР, ф. 692, 11 с., 1944—1948 гг. (Маг)*

Пастановы Савета Міністраў СССР, аблвыканкама і бюро абкама КП(б)Б, загады Галоўнага ўпраўлення па забеспячэнню народнай гаспадаркі лесаматэрыяламі і дровамі пры СНК СССР, Беларускага рэспубліканскага ўпраўлення, рашэнні Магілёўскага абкама КП(б)Б і пералік звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.

**Упраўленні ўпаўнаважаных Міністэрства нарыхтовак СССР па абласцях**

*Баранавіцкай, ф. 475, 34 с., 1948—1953 гг. (Бар)*
*Віцебскай, ф. 1975, 39 с., 1944—1956 гг. (В)*
*Магілёўскай, ф. 884, 50 с., 1943—1956 гг. (Маг)*
*Пінскай, ф. 653, 35 с., 1944—1952 гг. (Пін)*
*Полацкай, ф. 1086, 20 с., 1946—1953 гг. (Пол)*

Загады, пастановы Наркамата нарыхтовак СССР, Упаўнаважанага Наркамата нарыхтовак па БССР, планы па нарыхтоўках збожжа і прадуктаў жывёлагадоўлі, зацверджаныя нормы паставак і здачы сельгаспрадуктаў, даведкі аб нарыхтоўках сельгаспрадуктаў, сыравіны, аб пасеве збожжавых.

*Магілёўскае абласное ўпраўленне хлебапрадуктаў, ф. 1014, 39 с., 1944—1960 гг. (Маг)*

Загады Міністэрства хлебапрадуктаў БССР, Беларускай канторы "Заготзерно", пастановы аблвыканкама і бюро абкама КП(б)Б, рашэнні і распараджэнні аблвыканкамаў, справаздачы аб руху хлебафуражных прадуктаў, праведзеных мерапрыемствах МППА, планы закупак збожжа, закладкі і размяшчэння часткі дзяржрэзерву хлебапрадуктаў і сена, прызначаных для мабілізацыйнага забеспячэння Савецкай Арміі.

**Абласныя кантрактацыйна-нарыхтоўчыя канторы "Главрасткаучук"**

*Брэсцкая, ф. 569, 27 с., 1952—1953 гг. (Бр)*
*Віцебская, ф. 2275, 3 с., 1952—1953 гг. (В)*
*Магілёўская, ф. 698, 14 с., 1951—1953 гг. (Маг)*
*Пінская, ф. 616, 6 с., 1951—1952 гг. (Пін)*
*Полацкая, ф. 664, 3 с., 1952 г. (Пол)*

Пастановы вышэйстаячых арганізацый, планы і справаздачы аб кантрактацыі каранёў кок-сагызу нарыхтоўчымі пунктамі, аграсправаздачы па правядзенню веснавой сяўбы, планавыя калькуляцыі на асартыменты, асабовыя справы рабочых і служачых.

*Полацкая абласная кантора "Главзаготзерно", ф. 770, 2 с., 1947—1952 гг. (Пол)*

Справаздачы аб наяўнасці і руху дзяржаўных харчовых рэзерваў.

**Абласныя канторы "Заготзерно"**
*Баранавіцкая, ф. 481, 6 с., 1948—1953 гг. (Бар)*
*Полацкая, ф. 759, 64 с., 1945—1953 гг. (Пол)*

Справаздачы аб нарыхтоўцы хлеба і руху хлебных рэсурсаў, наяўнасці і руху збожжа, якое закладзена ў дзяржрэзерв; сетка нарыхтоўчых пунктаў Баранавіцкай вобласці.

**Абласныя канторы "Заготсено"**
*Віцебская, ф. 2193, 36 с., 1944—1951 гг. (В)*
*Полацкая, ф. 758, 4 с., 1947—1952 гг. (Пол)*

Планы закладкі і захавання дзяржаўнага рэзерву сена, справаздачы і звесткі аб наяўнасці і руху сена, справы і акты аб закладцы і разбраніраванні дзяржфонду сена.

*Баранавіцкая абласная кантора па нарыхтоўцы жывёлагадоўчай сыравіны і пушніны "Заготживсырьё", ф. 472, 14 с., 1947—1953 гг. (Бар)*

Загады кіраўніка па асноўнай дзейнасці канторы, планы, статсправаздачы аб нарыхтоўках скурсыравіны і шэрсці.

*Віцебская абласная кантора па нарыхтоўцы жывёлы "Заготскот", ф. 2913, 1 с., 1948—1953 гг. (В)*

Загады Беларускай рэспубліканскай канторы "Белзаготскот", планы, даведкі аб нарыхтоўцы і здачы жывёлы.

*Віцебская абласная кантора па нарыхтоўцы, перапрацоўцы і збыту пладоў і агародніны "Облплодоовощ", ф. 2201, 5 с., 1947—1952 гг. (В)*

Звесткі аб ходзе паставак сельскагаспадарчай прадукцыі асобым спажыўцам, перапіска з партарганізацыямі, трэстам, разнарадкі на пастаўку сельскагаспадарчай прадукцыі воінскім часцям.

*Гомельская абласная кантрактацыйна-нарыхтоўчая кантора Галоўнага ўпраўлення рэгенератара гумавай прамысловасці "Главрегенератрезинпром" Міністэрства хімічнай прамысловасці СССР, ф. 1602, 54 с., 1949—1953 гг. (Гом)*

Загады міністра хімічнай прамысловасці, "Главросткаучук", рашэнні аблвыканкама, гадавыя бухгалтарскія справаздачы, аграсправаздачы, справаздачы і звесткі аб наяўнасці сартавога насення, ходзе кантрактацыі каранёў і насення кок-сагызу, асабовыя справы супрацоўнікаў.

*Гомельская міжабласная кантора Галоўнага ўпраўлення па адкорму жывёлы "Главскототкорм" Міністэрства мясной і малочнай прамысловасці СССР, ф. 1601, 38 с., 1949—1953 гг. (Гом)*

Загады міністра мясной і малочнай прамысловасці СССР, "Главскототкорма", Гомельскай канторы, перапіска з "Главскототкормом" аб браніраванні рабочай сілы, праверцы адказна-матэрыяльных асоб, вывазцы грузаў, закладцы жывёлы на ўлік Белтэрупраўлення.

*Мінская абласная кантора Беларускага трэста па нарыхтоўцы, перапрацоўцы і збыту плодаагародніны "Белторгплодоовощтрест", ф. 1534, 5 с., 1950, 1952 гг. (Мн)*

Інструкцыі Міністэрства гандлю СССР аб ахове харчовых прадуктаў ад уздзеяння баявых атрутных рэчываў. Звесткі аб ходзе пастаўкі бульбы і агародніны асобым спажыўцам і перапіска з імі па гэтых пытаннях.

*Магілёўская абласная кантора па нарыхтоўцы, захоўванню, рэалізацыі і збыту аб'ёмістага фуражу, ф. 1016, 11 с., 1944—1952 гг. (Маг)*

Загады Беларускай канторы "Заготзерно", пастановы і рашэнні аблвыканкама і абкама партыі, планы закладкі і захоўвання сена мабрэзерву, справаздачы аб выкананні сенапаставак.

*Магілёўскі абласны льняны трэст па нарыхтоўцы і першаснай апрацоўцы лёну, каноплі і паўднёва-лубяных культур, ф. 878, 13 с., 1945—1957 гг. (Маг)*

Пастановы Савета Міністраў СССР, Магілёўскага аблвыканкама і бюро абкама КПБ, загады і ўказанні Міністэрства нарыхтовак СССР, "Главзаготльнопрома", Магілёўскага аблвыканкама, Упаўмінгазу СССР, планы вытворчасці і капітальнага будаўніцтва.

*Полацкі абласны трэст "Белглавмаслопрома", ф. 762, 16 с., 1944—1951 гг. (Пол)*

Загады і ўказанні Міністэрства мясной і малочнай прамысловасці БССР па нарыхтоўцы і рэалізацыі малочнай

прадукцыі.

*Упаўнаважаны ў г. Брэсце Галоўнага ўпраўлення па збыту каменнавугальнага паліва, ф. 894, 25 с., 1948—1956 гг. (Бр)*

Планы і справаздачы па вуглепастаўках спажыўцам; перапіска па адгрузцы вугалю.

*Віцебская аптовая база Беларускага трэста кандытарскіх вырабаў "Белкандытар" Міністэрства харчовай прамысловасці БССР, ф. 2385, 5 с., 1946—1952 гг. (В)*

Загады Міністэрстваў харчовай прамысловасці СССР і БССР, рашэнні Беларускай рэспубліканскай базы і збытавой канторы "Главсахар", Віцебскага аблвыканкама, акты інвентарызацыі, разбраніроўкі.

*Віцебскае абласное аддзяленне Беларускага рэспубліканскага ўпраўлення па збыту прадукцыі лесанарыхтовак і дрэваапрацоўкі "Беллесосбыт" Міністэрства лясной прамысловасці СССР, ф. 2217, 18 с., 1944—1951 гг. (В)*

Загады і распараджэнні Галоўлесазбыту, Беллесазбыту, рашэнні Віцебскага абкама і гаркама КП(б)Б і аблвыканкама, справаздачы аб пастаўках драўніны па спецвыдатках, перапіска з МДБ і МУС, гарваенкаматам аб пастаўцы лесу.

## 15. НАРОДНАЯ АСВЕТА

**Павятовыя аддзелы народнай асветы**

*Дрысенскі, ф. 38, 2 с., 1919 г. (Пол)*

*Полацкі, ф. 54, 4 с., 1919—1923 гг. (Пол)*

Спісы школьных работнікаў, справаздачы аб працы камісіі па справах непаўналетніх злачынцаў; настольны рэестр камісіі аб непаўналетніх, якія абвінавачваюцца ў грамадска-небяспечнай дзейнасці.

**Аддзелы народнай асветы аблвыканкамаў**

*Баранавіцкі, ф. 162, 2 с., 1950—1951 гг. (Бар)*

*Маладзечанскі, ф. 565, 4 с., 1952—1959 гг. (Мал)*

*Пінскі, ф. 700, 22 с., 1944—1952 гг. (Пін)*

*Полацкі, ф. 704, 12 с., 1948—1954 гг. (Пол)*

Загады, дырэктыўныя ўказанні міністэрстваў адукацыі СССР, БССР, аблвыканкамаў аб праверках вучэбна-баявой падрыхтоўкі супрацоўнікаў і навучэнцаў сярэдніх школ і педвучылішчаў, аб выкарыстанні сродкаў на даабсталяванне сховішчаў з улікам проціатамнай абароны, аб забеспячэнні захаванасці дзяржаўнай тайны ў органах асветы, загада па аддзелах аб недахопах у працы школ вобласці, акты праверак стану выкладання ваенна-фізічнай

падрыхтоўкі.

**Аддзелы народнай асветы райвыканкамаў**

*Рагачоўскі, ф. 603, 1 с., 1924—1931 гг. (Гом)*

*Саколкаўскі, ф. 307, 3 с., 1940 г. (Гр)*

Пастановы ЦВК і СНК БССР аб ліквідацыі непісьменнасці, планы работы аддзела на выпадак вайны, спісы настаўнікаў, спісы асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, каштарысы на ўтрыманне ясляў і дзіцячых пляцовак.

*Магілёўскае абласное ўпраўленне працоўных рэзерваў, ф. 896, 39 с., 1944—1959 гг. (Маг)*

Загады ўпраўлення працоўных рэзерваў, пастановы і рашэнні Магілёўскага аблвыканкама і бюро абкама КП(б)Б; аператыўныя данясенні аб надзвычайных здарэннях; план падрыхтоўкі рабочых масавых прафесій, справаздача аб наяўнасці ваеннаабавязаных, наяўнасці і руху проціпажарных сродкаў і абсталявання ў рамесных вучылішчах і школах ФЗН.

**Дзяржаўныя настаўніцкія інстытуты**

*Аршанскі імя Я. Купалы, ф. 2429, 4 с., 1947—1951 гг. (В)*

*Баранавіцкі, ф. 637, 2 с., 1948, 1953—1954 гг. (Бар)*

*Маладзечанскі, ф. 551, 13 с., 1948—1951, 1953—1955 гг. (Мал)*

*Пінскі, ф. 260, 15 с., 1944—1954 гг. (Пін)*

Загады, пастановы вышэйстаячых арганізацый аб падборы кадраў, мерапрыемствах па грамадзянскай абароне, уліку ваеннаабавязаных запасу, ідэйна-выхаваўчай працы, перапіска з Беларускай ваеннай акругай аб ваеннай падрыхтоўцы і кантынгенце студэнтаў. Дакладная запіска дырэктара Баранавіцкага інстытута аб студэнтах-выпускніках 1948 г., якія былі ў час акупацыі членамі антысавецкай арганізацыі "Саюз беларускай моладзі"; рэфераты дысертацый на саісканне вучонай ступені кандыдата навук за 1953—1954 гг. (эканоміка-геаграфічныя характарыстыкі Брэсцкай, Гомельскай, Гродзенскай, Мінскай, Пінскай абласцей).

*Віцебскі педагагічны інстытут, ф. 204, 2 с., 1923—1924 гг. (В)*

Пратаколы камісіі па чыстцы апарату і студэнтаў; пасведчанні, спісы, даведкі студэнтаў, спіс выключаных камісіяй па чыстцы савецкага апарату за 1924 г.

*Віцебскі будаўнічы тэхнікум Міністэрства будаўніцтва БССР, ф. 2758, 7 с., 1948—1953 гг. (В)*

Загады па Віцебскаму будтэхнікуму; пералік пасад і кваліфікацый работнікаў, па якому ваеннаабавязаным запасу даецца адтэрміноўка па мабілізацыі; узоры пячатак і штампаў; перапіска з Міністэрствам будаўніцтва БССР па пытаннях ППА з дадаткам

вучэбна-метадычнага дапаможніка і праграмы.

## 16. АРХІВЫ

*Мазырскае акруговае аддзяленне Цэнтраархіва БССР, ф. 45, 5 с., 1927—1929 гг. (Маз)*

Перапіска з Цэнтраархівам БССР і дзяржустановамі акругі аб парадку прыему і здачы дакументаў у архіў, правілы і інструкцыі вядзення сакрэтнага справаводства і вопісы сакрэтных дакументаў, здадзеных у архіў.

**Архіўныя аддзелы ўпраўлення Міністэрства ўнутраных спраў БССР па абласцях**

*Бабруйскай, ф. 986, 171 с., 1944—1953 гг. (Баб)*
*Баранавіцкай, ф. 288, 77 с., 1940, 1944—1953 гг. (Бар)*
*Магілёўскай, ф. 817, 174 с., 1944—1950 гг. (Маг)*
*Маладзечанскай, ф. 605, 86 с., 1939—1941, 1944—1960 гг. (Мал)*
*Палескай, ф. 178, 41 с., 1944—1954 гг. (Маз)*
*Пінскай, ф. 633, 59 с., 1941, 1944—1954 гг. (Пін)*
*Полацкай, ф. 663, 58 с., 1945—1952 гг. (Пол)*

Загады, цыркуляры, распараджэнні, метадычныя ўказанні наркаматаў (міністэрстваў) унутраных спраў СССР, БССР, галоўархіваў СССР і БССР аб парадку прыёму, захоўвання і выдачы архіўных дакументаў, стане архіўнай справы, парадку захавання дакументаў кіраўнікоў партыі і ўрада, аб парадку адносін архіўных органаў з установамі, службовымі і прыватнымі асобамі замежных дзяржаў. Планы работы аддзелаў і справаздачы аб іх выкананні, пратаколы закрытых пасяджэнняў экспертна-праверачных камісій, перапіска аб выдачы дакументаў у часовае карыстанне. Арыенціроўка архіўнага аддзела Пінскай вобласці "О деятельности украинско-немецких националистов в западных областях Украинской ССР за период 1941—1944 гг.", акты ўрону, нанесенага нямецка-фашысцкімі захопнікамі дакументам дзяржаўных і ведамасных архіваў.

**Дзяржаўныя архівы абласцей**

*Бабруйскай, ф. 1000, 30 с., 1941—1954 гг. (Баб)*
*Баранавіцкай, ф. 617, 70 с., 1945—1953 гг. (Бар)*
*Палескай, ф. 532, 39 с., 1945—1953 гг. (Маз)*
*Полацкай, ф. 780, 26 с., 1946—1953 гг. (Пол)*

Агляды і ўказанні Архіўнага ўпраўлення МУС БССР, планы работы, справаздачныя даклады дзяржархіваў і аддзелаў сакрэтных

фондаў аб праведзенай рабоце, акты праверак працы дзяржархіваў, агляды дакументаў аддзела сакрэтных фондаў.

*Дзяржаўны архіў Пінскай вобласці, ф. 617, 137 с., 1940—1941, 1944—1967, 1969—1974 гг. (Пін)*

Даведкі-арыенціроўкі аб дзейнасці ўкраінска-нямецкіх нацыяналістаў у заходніх абласцях Украінскай ССР, аб воінскіх фарміраваннях, шпіёнскіх цэнтрах і іншых арганізацыях фашысцкай Германіі і буржуазнай Польшчы, аб нямецкім разведвальным органе Рускай вызваленчай арміі (РВА); спіс нямецкіх ваенных і нацысцкіх злачынцаў, якія пражываюць у ФРГ, дырэктыўныя ўказанні, загады, інструкцыі Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры СМ БССР, архіўнага аддзела, пратаколы вытворчых нарад супрацоўнікаў, пашпарт архіва, планы і справаздачы; даведка аб узнікненні, структуры і дзейнасці "Саюза беларускай моладзі", дакументы па аднаўленню дзяржаўных архіваў; акты ўрону, нанесенага нямецка-фашысцкімі захопнікамі архіву, акты праверак работы архіўных органаў, здачы-прыёму архіва пры змене кіраўнікоў, наяўнасці і стану спраў і вопісаў сакрэтных фондаў.

**Гарадскія дзяржаўныя архівы**

*Баранавіцкі, ф. 690, 18 с., 1954—1958 гг. (Бар)*

*Полацкі, ф. 1185, 11 с., 1954—1963 гг. (Пол)*

Наменклатуры сакрэтных спраў, акты аб рассакрэчванні дакументаў, узоры пячатак, штампаў.

**Філіялы абласных дзяржаўных архіваў**

*у г. Баранавічы, ф. 1211, 32 с., 1964—1982 гг. (Бар)*

*у г. Глыбокае, ф. 194, 22 с., 1967—1977 гг. (Гл)*

*у г. Маладзечна, ф. 2175, 22 с., 1968—1977 гг. (Мал)*

Загады, указанні, інструкцыі вышэйстаячых органаў аб стане і развіцці архіўнай справы, вядзенні сакрэтнага справаводства, аб выняцці з бібліятэк састарэлых кніг і забароненых выданняў; планы работы з сакрэтнымі дакументамі; справаздачы, агляды, дакладныя запіскі, перапіска з вышэйстаячымі органамі па пытаннях камплектавання архіваў, стварэнню НДА, правядзенню экспертызы каштоўнасці дакументаў, акты праверак працы дзяржархіваў.

## 17. КУЛЬТУРА. МАСТАЦТВА

**Упраўленні культуры аблвыканкамаў**

*Маладзечанскае, ф. 910, 4 с., 1958—1960 гг. (Мал)*

*Пінскае, ф. 680, 12 с., 1949—1953 гг. (Пін)*

Загады і ўказанні міністэрстваў культуры СССР і БССР, рашэнні аблвыканкамаў аб узмацненні аховы прадпрыемстваў

паліграфічнай прамысловасці, аб празмернасці ў выдаткаванні дзяржаўных сродкаў на правядзенне прыёмаў, аб заданнях па валавому збору ад кінасеткі, эканамічныя паказчыкі працы культасветустаноў БССР.

*Полацкае абласное ўпраўленне кінафікацыі, ф. 743, 6 с., 1948—1951 гг. (Пол)*

Загады Міністэрства кінематаграфіі БССР.

*Полацкі абласны аддзел па справах мастацтваў, ф. 740, 1 с., 1952 г. (Пол)*

Загады і інструкцыі па справах мастацтваў.

## 18. АХОВА ЗДАРОЎЯ

**Аддзелы аховы здароўя аблвыканкамаў**

*Бабруйскага, ф. 1160, 43 с., 1944—1952 гг. (Баб)*
*Баранавіцкага, ф. 583, 10 с., 1944—1952 гг. (Бар)*
*Магілёўскага, ф. 661, 35 с., 1947—1962 гг. (Маг)*
*Пінскага, ф. 364, 34 с., 1944—1951 гг. (Пін)*
*Полацкага, ф. 705, 34 с., 1944—1954 гг. (Пол)*

Загады міністэрстваў аховы здароўя СССР і БССР, загады па абласных аддзелах аховы здароўя, звесткі аб смяротнасці і нараджальнасці; наяўнасці памяшканняў пасля нямецкай акупацыі; кан'юнктурныя агляды аб мерапрыемствах па барацьбе з эпідэмічнымі захворваннямі насельніцтва, справаздачы па інфекцыйных захворваннях, спісы медыцынскіх работнікаў, загінуўшых у перыяд акупацыі, вывезеных і дабравольна паехаўшых у Германію ў перыяд акупацыі.

**Аддзелы аховы здароўя райвыканкамаў**

*Парыцкі, ф. 2761, 2 с., 1949 г. (Гом)*
*Полацкі, ф. 27, 5 с., 1949—1955 гг. (Пол)*

Распараджэнні і ўказанні СМ СССР, БССР, Міністэрства аховы здароўя БССР, абласных аддзелаў аховы здароўя, загады і ўказанні абласнога аддзела аховы здароўя па барацьбе з інфекцыйнымі захворваннямі.

*Спецчасць Магілёўскага гарадскога аддзела аховы здароўя, ф. 133, 12 с., 1948—1950 гг. (Маг)*

Загады і распараджэнні міністэрстваў аховы здароўя СССР і БССР, начальніка медслужбы МППА г. Магілёва, рашэнні Магілёўскага гарвыканкама, планы работы медслужбы па г. Магілёву і вобласці, акты праверкі стану медыка-санітарнай службы МППА г. Магілёва.

*Полацкая абласная бальніца, ф. 460, 3 с., 1948—1953 гг. (Пол)*

Штатны расклад, праграма і іншыя матэрыялы па стварэнню і

працы групы самаабароны МППА, індывідуальныя карткі заданняў бальніцы і палікінікі.

*Полацкая абласная санітарна-эпідэміялагічная станцыя, ф. 706, 19 с., 1950—1954 гг. (Пол)*

Распараджэнні Міністэрства аховы здароўя БССР, справаздачы і звесткі па інфекцыйна-эпідэмічных захворваннях.

### 19. ФІЗКУЛЬТУРА І СПОРТ

*Віцебскі абласны савет Усесаюзнага фізкультурна-спартыўнага ордэна Леніна таварыства "Динамо", ф. 4104, 7 с., 1967, 1969, 1971—1972 гг. (В)*

Пастановы Беларускага рэспубліканскага савета таварыства "Динамо" аб праектаванні і абсталяванні фабрыкі швейных спартыўных вырабаў у г. Наваполацку; перспектыўныя планы развіцця фізкультуры і спорту калектываў таварыства "Динамо"; зводныя планы і фінансавыя справаздачы; загады старшыні КДБ пры Савеце Міністраў СССР, МУС БССР аб выніках агляду-конкурсу на лепшую пастаноўку работы па фізкультуры і спорту ў органах і навучальных установах КДБ у 1968 г.

### 20. ПАЛІТЫКА ДЗЯРЖАВЫ Ў АДНОСІНАХ ДА РЭЛІГІІ І ЦАРКВЫ

**Упаўнаважаныя Саветаў па справах рускай праваслаўнай царквы пры СМ СССР па абласцях**

*Бабруйскай, ф. 1094, 17 с., 1947—1954 гг. (Баб)*
*Баранавіцкай, ф. 477, 2 с., 1945—1950 гг. (Бар)*
*Брэсцкай, ф. 1482, 15 с., 1944—1965 гг. (Бр)*
*Маладзечанскай, ф. 896, 49 с., 1946—1960 гг. (Мал)*
*Пінскай, ф. 679, 34 с., 1945—1954 гг. (Пін)*
*Полацкай, ф. 1221, 16 с., 1944—1954 гг. (Пол)*

Дырэктыўныя ўказанні Упаўнаважаных Саветаў па справах рускай праваслаўнай царквы пры СНК (СМ) СССР і БССР, па асноўнай дзейнасці цэркваў, інфармацыі аб палажэнні і рабоце рускай праваслаўнай царквы, Мінскай духоўнай семінарыі, Жыровіцкага манастыра; аб вызваленні ад адтэрміноўкі ад прызыву ў армію служыцеляў культаў і рэлігійных абшчын, аб парадку афармлення спраў, аб адкрыцці малельных дамоў; планы работы ўпаўнаважаных, справаздачы аб іх выкананні.

**Упаўнаважаныя Саветаў па справах рэлігійных культаў пры СМ СССР па абласцях**

*Бабруйскай, ф. 1129, 17 с., 1945—1953 гг. (Баб)*

*Гомельскай, ф. 1354, 51 с., 1944—1960 гг. (Гом)*
*Маладзечанскай, ф. 895, 34 с., 1945—1960 гг. (Мал)*
*Пінскай, ф. 236, 9 с., 1945—1954 гг. (Пін)*

Распараджэнні, цыркуляры, інструкцыйныя пісьмы і перапіска Саветаў па справах рэлігійных культаў пры СМ СССР, рэспубліканскіх упаўнаважаных па рэлігійных пытаннях, аб вывучэнні дзейнасці рэлігійных абшчын; часопіс "Братский вестник", журналы рэгістрацыі служыцеляў рэлігійных культаў Гомельскай вобласці; спісы дзеючых цэркваў і малельных дамоў.

## III.
## ДАКУМЕНТЫ ЎСТАНОЎ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД УВАХОДЖАННЯ Ў СКЛАД ПОЛЬШЧЫ (1919—1939 гг.)

**Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці**

**Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці**

**Філіял Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці ў г. Маладзечна**

У III частку даведніка ўвайшлі дакументы фондаў устаноў, якія існавалі ў Заходняй Беларусі ў час знаходжання яе ў складзе Польшчы (1919—1939 гг.). Яны захоўваюцца ў дзяржаўных архівах Брэсцкай, Гродзенскай абласцей, філіяле Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці ў г. Маладзечна і да 1988 г. знаходзіліся на закрытым захоўванні. Дакументы паказваюць работу польскіх устаноў па кіраванню далучанымі землямі, сацыяльны, народна-гаспадарчы бок жыцця Заходняй Беларусі з 1919 па 1939 гг.

Пры пабудове III часткі даведніка скарыстана тэматыка-галіновая схема даведніка "Государственные архивы Брестской, Гродненской областей, филиал Государственного архива Минской области в г. Молодечно" (Мінск, 1969). Дакументы размешчаны ў наступных раздзелах:

1. Мясцовыя органы дзяржаўнай улады і кіравання.
2. Пракуратура. Суд. Адвакатура.
3. Паліцыя. Турмы. Ваенныя ўстановы.
4. Гаспадарча-эканамічныя ўстановы, арганізацыі і прадпрыемствы.
5. Органы народнай асветы.
6. Органы сацыяльнага забеспячэння і страхавання.
7. Грамадскія арганізацыі.
8. Кааператыўныя арганізацыі.
9. Установы рэлігійных культаў.

Колькасць спраў, якія ўваходзяць у раздзелы, вельмі розная.

Асноўная частка такіх дакументаў прыпадае на ўстановы паліцыі, турмы і грамадскія арганізацыі. Дакументы грамадскіх арганізацый (раздзел 7) упершыню ўводзяцца ў навуковы абарот на агульных падставах.

Дзяржаўнымі архівамі праведзена і скончана вялікая праца па пераводу сакрэтных дакументаў на агульнае захоўванне па гісторыі Заходняй Беларусі ў перыяд знаходжання яе ў складзе Польшчы. Грыф сакрэтнасці зняты з 41416 спраў.

## 1. ФОНДЫ МЯСЦОВЫХ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАУНАЙ УЛАДЫ І КІРАВАННЯ

### Мясцовыя органы дзяржаўнай улады

#### Ваяводскія ўпраўленні

*Віленскае, ф. 438, 126 с., 1927—1939 гг. (Мал)*

Пастановы ваяводы аб арэндзе і продажы зямлі дзяржаўных маёнткаў, ахове і дазволе парубкі прыватных лясоў; заявы ваенных асаднікаў аб надзяленні іх зямлёй, справы аб надзяленні зямлёй асаднікаў і інш.

*Навагрудскае, ф. 551, 326 с., 1920—1939 гг. (Гр)*

Справы аб прыняцці польскага грамадзянства, перапіска па гэтаму пытанню; перапіска па пытаннях пазбаўлення польскага грамадзянства, выдачы замежных пашпартоў.

*Палескае, ф. 1, 4235 с., 1921—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры, рашэнні Міністэрства ўнутраных спраў, Палескага ваяводскага ўпраўлення аб прысваенні польскага грамадзянства, аб выдачы замежных пашпартоў; статуты, справаздачы аб дзейнасці грамадскіх і палітычных арганізацый; звесткі павятовых староставаў аб палітычным руху на тэрыторыі Палескага, Люблінскага ваяводстваў; заявы грамадзян і перапіска з павятовымі старостамі аб прысваенні польскага грамадзянства, аб прызыве ў армію іншаземцаў; спісы грамадзян Брэсцкага павета, выехаўшых за мяжу, маёмасць якіх перададзена пад апеку дзяржавы; паведамленні аб грамадзянах, якія падазраюцца ў дзейнасці супраць урада Польшчы.

#### Павятовыя староствы

*Беластоцкае ваяводства*

*Ваўкавыскае, ф. 90, 10 с., 1919—1921, 1927, 1932 гг. (Гр)*

*Гродзенскае, ф. 89, 3 с., 1920—1936 гг. (Гр)*

*Сувалкаўскае, ф. 208, 10 с., 1922—1938 гг. (Гр)*

Пратаколы пасяджэнняў польска-савецкай канфліктнай камісіі; заявы жыхароў аб выдачы даведак, якія пацвярджаюць польскае грамадзянства, спісы членаў таварыства клуб польскі

"Огниско", саюзаў "местных купцов", былых рускіх настаўнікаў і чыноўнікаў, пражываўшых на тэрыторыі Нясвіжскага павета, праўлення гарадской і гмінных рад Нясвіжскага павета, гуртка стральцоў, прадстаўленых да ўзнагароды, літоўскіх арганізацый на тэрыторыі Сувалкаўскага павета, асоб, якія мелі маёнткі ў Навагрудскім павеце. Заявы аб дапамозе рэзервістам; справы аб прыняцці польскага грамадзянства; справаздачы аб выкарыстанні зямлі ваеннымі асаднікамі, перапіска "Союза отставных офицеров" з павятовым старостам па пытанню сходу і выбараў у "Союз офицеров".

*Віленскае ваяводства*

*Ашмянскае, ф. 4, 119 с., 1919—1935 гг. (Мал)*

*Браслаўскае, ф. 436, 378 с., 1919—1932 гг. (Мал)*

*Вілейскае, ф. 3, 19 с., 1923—1939 гг. (Мал)*

*Дзісненскае, ф. 437, 1112 с., 1920—1937 гг. (Мал)*

*Пастаўскае, ф. 2, 82 с., 1921—1934 гг. (Мал)*

Цыркуляры, пастановы і загады Навагрудскага ваяводскага ўпраўлення, Генеральнага камісара ўсходніх зямель аб выбарах у гмінныя праўленні, узмацненні аховы дзяржаўнай граніцы, перапісу насельніцтва, надзяленні зямлёй ваенных асаднікаў, прысваенні ўласных прозвішчаў ваенным, тавараабароце ў Сярэдняй Літве, барацьбе з эпідэміямі, наглядзе за іншаземцамі і па іншых пытаннях. Матэрыялы аб продажы зямлі, надзяленні зямлёй асаднікаў, выняцці камуністычнай літаратуры; спробах грамадзян перайсці дзяржаўную граніцу. Справы па абвінавачванню грамадзян за нелегальны пераход дзяржаўнай граніцы, знаходжанне ў пагранічнай зоне, нелегальнае нашэнне агнястрэльнай зброі. Перапіска з органамі паліцыі, гміннымі праўленнямі аб наглядзе за грамадзянамі, атрыманні дазволу на нашэнне агнястрэльнай зброі, дыслакацыі органаў паліцыі, рэпатрыяцыі насельніцтва. Пратаколы допыту грамадзян і апытання сведак, альбом фотаздымкаў асоб, якія падазраюцца ў дзейнасці супраць урада Польшчы і інш.

*Навагрудскае ваяводства*

*Валожынскае, ф. 93, 7 с., 1922—1927 гг. (Мал)*[1]

*Навагрудскае, ф. 569, 9 с., 1920—1922, 1928—1929, 1937, 1939 гг. (Гр)***

*Нясвіжскае, ф. 541, 434 с., 1920—1936 гг. (Гр)*[2]

*Слонімскае, ф. 544, 10 с., 1922—1937 гг. (Гр)*[3]

---

[1] Гл. Анатацыю Віленскага ваяводства.

[2] Гл. Анатацыю Беластоцкага ваяводства

*Стаўбцоўскае, ф. 543, 10 с., 1924—1939 гг. (Гр)*[4]
*Шчучынскае, ф. 226, 2 с., 1933—1934 гг. (Гр)*[5]
*Палескае ваяводства*
*Брэсцкае, ф. 2, 2077 с., 1920—1939 гг. (Бр)*
*Драгічынскае, ф. 2004, 110 с., 1929—1939 гг. (Бр)*
*Кобрынскае, ф. 3, 141 с., 1920—1939 гг. (Бр)*
*Косаўскае, ф. 605, 5 с., 1924—1939 гг. (Бр)*
*Лунінецкае, ф. 2002, 791 с., 1921—1939 гг. (Бр)*
*Пінскае, ф. 2001, 2045 с., 1919—1939 гг. (Бр)*
*Пружанскае, ф. 4, 8 с., 1922—1939 гг. (Бр)*
*Столінскае, ф. 2003, 992 с., 1923—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры і кіруючыя ўказанні Міністэрства ўнутраных спраў, Палескага ваяводскага ўпраўлення аб правядзенні выбараў у Сейм і Сенат; перапіска з органамі паліцыі аб ахове дзяржаўнай граніцы; справаздачы і звесткі аб грамадска-палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў паветах; рапарты, данясенні і справаздачы паліцэйскіх органаў аб камуністычнай дзейнасці, крымінальных злачынствах. Спісы членаў грамадскіх арганізацый.

Перапіска Пружанскага староства з гміннымі праўленнямі, эміграцыйным сіндыкатам аб выдзяленні дапамогі тым, хто мае патрэбу, аб выездзе за мяжу; спісы насельніцтва Пружанскай гміны, пазбаўленага польскага грамадзянства.

Анкетныя даныя, заявы і перапіска з ваяводскім упраўленнем аб прызнанні польскага грамадзянства; справы аб рэгістрацыі іншаземцаў, спісы грамадзян, якія вярнуліся з-за мяжы, заявы аб выдачы замежных пашпартоў, прадаўжэнні тэрміну знаходжання ў паветах.

Карты Драгічынскага павета, дарог: спісы служачых, асабовыя справы.

**Начальнікі раёнаў паветаў**
*Віленскае ваяводства*
*Ашмянскі павет*
*1-га раёна, ф. 382, 10 с., 1919—1922 гг. (Мал)*
*2-га раёна, ф. 383, 2 с., 1922 г. (Мал)*
*3-га раёна, ф. 383, 4 с., 1921—1922 гг. (Мал)*
*4-га раёна, ф. 385, 1 с., 1920 г. (Мал)*
*Браслаўскі павет*

---

[3] Тамсама
[4] Тамсама
[5] Тамсама

*1-га раёна, ф. 463, 5 с., 1920—1922 гг. (Мал)*
*2-га раёна, ф. 464, 13 с., 1920—1924 гг. (Мал)*
*Дзісненскі павет*
*2-га раёна, ф. 466, 6 с., 1919—1921 гг. (Мал)*
*4-га раёна, ф. 468, 10 с., 1919—1921 гг. (Мал)*
*5-га раёна, ф. 469, 8 с., 1919—1921 гг. (Мал)*

Загады, цыркуляры, распараджэнні міністэрстваў унутраных спраў, фінансаў, грамадскіх работ і сельскай гаспадаркі, Упраўлення прыфрантавых і этапавых тэрыторый аб арганізацыі раёнаў павятовых старостваў, парадку выдачы дакументаў палонным, якія вярнуліся, і прапісцы замежных грамадзян, барацьбе са шпіянажам і антыпольскай агітацыяй, наглядзе за правядзеннем святкавання 1-га Мая, узмацненні кантролю за дзейнасцю грамадскіх арганізацый, выяўленні камуністычных арганізацый.

**Акруговыя выбарчыя камісіі па выбарах у Сейм Польскай Рэспублікі**

*Скліканне 1922 г.*
*№ 6, г. Гродна, ф. 59, 3 с., 1922 г. (Гр)*
*Скліканне 1928 г.*
*№ 6, г. Гродна, ф. 63, 1 с., 1928 г. (Гр)*
*Скліканне 1930 г.*
*№ 6, г. Гродна, ф. 66, 2 с., 1930 г. (Гр)*

Спісы кандыдатаў у дэпутаты Сейма; участковых выбарчых камісій.

**Мясцовыя органы кіравання**

**Гарадскія ўпраўленні**

*Беластоцкае ваяводства*
*Індурскае, ф. 47, 4 с., 1922, 1923, 1931 гг. (Гр)*
*Навагрудскае ваяводства*
*Нясвіжскае, ф. 564, 7 с., 1923—1928 гг. (Гр)*

Спісы рэпатрыянтаў; заявы грамадзян аб выдачы даведак, якія пацвярджаюць сацыяльнае становішча, аб выдачы замежных пашпартоў. Спіс солтысаў і іх намеснікаў гміны Бакшты.

*Палескае ваяводства*
*Брэсцкае, ф. 5, 20 с., 1920—1939 гг. (Бр)*

Распараджэнні Палескага ваяводскага ўпраўлення. Пратаколы пасяджэнняў камісіі па выбарах у гарадскую раду і спісы кандыдатаў у раду. Спісы грамадзян, якія выехалі за мяжу, уліковыя карткі на замежных падданых.

**Гмінныя праўленні**

*Беластоцкае ваяводства*

*Гродзенскі павет*
*Верцялішаўскае, ф. 57, 3 с., 1933 г. (Гр)*
*Віленскае ваяводства*
*Вілейскі павет*
*Ільянскае, ф. 49, 1 с., 1932—1937 гг. (Мал)*
*Куранецкае, ф. 50, 1 с., 1939 г. (Мал)*
*Навагрудскае ваяводства*
*Баранавіцкі павет*
*Навамышскае, ф. 671, 1 с., 1934 г. (Бр)*
*Нясвіжскі павет*
*Гавязнянскае, ф. 676, 2 с., 1932—1936 гг. (Гр)*
*Клецкае, ф. 557, 23 с., 1920, 1923, 1930, 1932 гг. (Гр)*
*Палескае ваяводства*
*Брэсцкі павет*
*Вярховіцкае, ф. 14, 4 с., 1935—1937 гг. (Бр)*
*Волгінскае, ф. 11, 1 с., 1921 г. (Бр)*
*Маларыцкае, ф. 10, 7 с., 1925—1935 гг. (Бр)*
*Драгічынскі павет*
*Янаўскае, ф. 2013, 1 с., 1922 г. (Бр)*
*Кобрынскі павет*
*Азяцкае, ф. 43, 2 с., 1933, 1938 гг. (Бр)*
*Кобрынскае, ф. 42, 1 с., 1934 г. (Бр)*
*Лунінецкі павет*
*Кругавіцкае, ф. 2175, 1 с., 1933—1934 гг. (Бр)*
*Ленінскае, ф. 2483, 3 с., 1933—1935 гг. (Бр)*
*Лунінецкае, ф. 2411, 1 с., 1933 г. (Бр)*
*Пагост-Загародскае, ф. 2020, 1 с., 1933—1938 гг. (Бр)*
*Парэцкае, ф. 2021, 2 с., 1931, 1936—1938 гг. (Бр)*
*Хатыніцкае, ф. 2420, 3 с., 1932—1933 гг. (Бр)*
*Пінскі павет*
*Жабчыцкае, ф. 2012, 1 с., 1930—1937 гг. (Бр)*
*Лемяшэвіцкае, ф. 2015, 1 с., 1937 г. (Бр)*
*Лагішынскае, ф. 2016, 1 с., 1928 г. (Бр)*
*Пінкавіцкае, ф. 2018, 1 с., 1926 г. (Бр)*
*Пружанскі павет*
*Лінаўскае, ф. 36, 4 с., 1925, 1926, 1928 гг. (Бр)*
*Малечскае, ф. 34, 3 с., 1939 г. (Бр)*
*Руднікаўскае, ф. 32, 3 с., 1932, 1934, 1935 гг. (Бр)*
*Сяхневіцкае, ф. 30, 1 с., 1934 г. (Бр)*
*Пружанскае, ф. 37, 10 с., 1927—1930, 1933, 1938 гг. (Бр)*
*Шэнеўскае, ф. 38, 1 с., 1923 г. (Бр)*

Спісы членаў і саветнікаў праўлення, членаў рады гміннага праўлення, членаў "Союза резервистов", асабовыя лісткі на іх, іншаземцаў, пражываючых у гмінах. Пратаколы выбарчай камісіі па выбарах солтысаў, надзяленні зямельнымі надзеламі ваенных асаднікаў. Перапіска са староствамі аб вызначэнні грамадзянства, вышуку грамадзян; заявы грамадзян аб выдачы пашпартоў і выяздзе ў Амерыку; анкеты на замежных грамадзян, на солтысаў і іх намеснікаў.

## 2. ПРАКУРАТУРА. СУД. АДВАКАТУРА

**Пракуратура**

*Пракурор Гродзенскага акруговага суда, ф. 93, 1 с., 1929—1939 гг. (Гр)*

*Пракуратура Пінскага акруговага суда, ф. 2042, 364 с., 1921—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры, загады, распараджэнні міністэрстваў юстыцыі, замежных спраў, пракуратуры; справаздачы аб дзейнасці суддзяў, пракурораў; справы па абвінавачванню грамадзян за ўдзел у дыверсійных групах, разведцы, пераходзе граніцы; асабовыя справы служачых.

*Брэсцкае іншагароднае аддзяленне пракуратуры, ф. 68, 71 с., 1927—1939 гг. (Бр)*

Загады павятовай камендатуры дзяржпаліцыі, пратаколы сходаў камендантаў, справаздачы і паведамленні павятовых старостваў аб агульна-палітычнай сітуацыі.

**Суды**

**Акруговыя**

*Гродзенскі, ф. 52, 22 с., 1927, 1934, 1935, 1937—1939 гг. (Гр)*

*Пінскі, ф. 2031, 773 с., 1919—1939 гг. (Бр)*

*Сувалкаўскі, ф. 348, 2 с., 1920 г. (Гр)*

Цыркуляры і распараджэнні Міністэрства юстыцыі аб арганізацыі і дыслакацыі судоў; справы па абвінавачванню грамадзян у камуністычнай дзейнасці, прыналежнасці да КПЗБ, нелегальным пераходзе граніцы і кантрабандзе; рэгістрацыі кааператураў і фірм; накладанні дысцыплінарных спагнанняў на судовых абаронцаў.

Пратаколы судовай камісіі і звесткі па разбору спраў аб нацыянальнай варожасці паміж польскім насельніцтвам.

Спісы асабовага складу судоў, асабовыя справы.

*Брэсцкі іншагародні аддзел Пінскага акруговага суда, ф. 69, 1 с., 1927 г. (Бр)*

Крымінальная справа па абвінавачванню ў садзейнічанні пераходу граніцы.

**Гарадскія**

*Беластоцкае ваяводства*

*Гродзенскі павет*

*Індурскі, ф. 54, 2 с., 1934, 1937 гг. (Гр)*

*Навагрудскае ваяводства*

*Лідскі павет*

*Нясвіжскі, ф. 542, 142 с., 1922—1939 гг. (Гр)*

Справы па абвінавачванню ў пераходзе польска-савецкай граніцы.

**Міравыя**

*Віленскае ваяводства*

*Браслаўскі павет*

*Трэцяя акруга, ф. 512, 12 с., 1920—1921 гг. (Мал)*

Пратаколы дазнанняў, допытаў, абвінаваўчыя заключэнні. Перапіска са следчымі органамі па расследаванню злачынстваў і судовыя справы па абвінавачванню грамадзян у незаконным пераходзе дзяржаўнай граніцы, абразе службовых асоб.

*Судовы следчы Пінскага акруговага суда, ф. 393, 2 с., 1928—1939 гг. (Бр)*

Справа па абвінавачванню Чапялюка (і іншых) у арганізацыі камуністычных груп у г. Брэсце.

**Канцылярыі адвакатаў**

*Казакіна, г. Пінск, ф. 2325, 3 с., 1937—1939 гг. (Бр)*

*Ракавецкага, г. Пінск, ф. 2308, 13 с., 1933—1939 гг. (Бр)*

Справы аб судовай абароне грамадзян, якія абвінавачваліся за палітычныя злачынствы, пераход граніцы.

## 3. ПАЛІЦЫЯ. ТУРМЫ. ВАЕННЫЯ ЎСТАНОВЫ

**Ваяводскія каменды дзяржаўнай паліцыі**

*Палеская ваяводская камендатура, г. Брэст, ф. 92, 710 с., 1919—1939 гг. (Бр)*

Загады камендантаў па асноўнай дзейнасці і па асабоваму складу. Інструкцыі аб проціпаветранай і проціхімічнай абароне. Пратаколы даносаў, следчыя справы на абвінавачаных у прыналежнасці да КПЗБ, КПЗУ і КСМЗБ, кнігі ўліку паліцэйскіх участкаў на тэрыторыі Польшчы. Характарыстыкі маральнай устойлівасці і палітычных поглядаў грамадзян. Праграмы навучання паліцэйскіх, асабовыя і дысцыплінарныя справы паліцэйскіх, матэрыялы дазнання на затрыманых за нелегальны пераход граніцы.

Спісы членаў КПЗБ і КПЗУ, інфармацыі аб іх дзейнасці.

*Навагрудская ваяводская каменда дзяржаўнай паліцыі, ф. 662, 1790 с., 1920, 1922—1930, 1935—1937 гг. (Гр)*

Спісы паліцэйскіх Навагрудскай ваяводскай каменды; інфармацыйныя бюлетэні; тэлефанаграмы і паведамленні аб смерці Польскага маршала Пілсудскага; спіс былых савецкіх служачых, якія пражывалі на тэрыторыі Нясвіжскага павета; асабовыя справы служачых паліцыі.

**Камісарыяты дзяржаўнай паліцыі**

*Камісарыят дзяржаўнай паліцыі Беластоцкага ваяводства, ф. 210, 1 с., 1936 г. (Гр)*

Спіс саюзаў, арганізацый і палітычных партый, якія знаходзіліся на тэрыторыі г. Сувалкі.

*Другі камісарыят дзяржаўнай паліцыі Беластоцкага ваяводства, г. Гродна, ф. 20, 3 с., 1928, 1933 гг. (Гр)*

Перапіска з Упраўленнем дзяржпаліцыі па расследаванню злачынства паліцэйскіх, аб мерах барацьбы з камуністычным рухам.

*Брэсцкі гарадскі камісарыят Палескай ваяводскай камендатуры дзяржаўнай паліцыі, ф. 96, 222 с., 1919—1939 гг. (Бр)*

Распараджэнні, інструкцыі вышэйстаячых органаў паліцыі і дзяржаўнай улады, пратаколы вобыскаў, допытаў; дакументы аб выдачы пашпартоў грамадзянам горада, вышукныя лісты; спісы і асабовыя справы паліцэйскіх; данясенні аб палітычных поглядах і маральнай устойлівасці грамадзян.

*Чыгуначны камісарыят дзяржаўнай паліцыі ў Стоўбцах, ф. 724, 3 с., 1923—1938 гг. (Гр)*

Бюлетэнь і ўказанні Стаўбцоўскага павятовага ўпраўлення аб вышуку асоб, якія скрываліся ад следчых органаў.

**Павятовыя каменды дзяржаўнай паліцыі**

*Беластоцкае ваяводства*

*Беластоцкая, ф. 321, 4 с., 1934—1939 гг. (Гр)*

*Ваўкавыская, ф. 18, 4 с., 1920—1935 гг. (Гр)*

*Гродзенская, ф. 17, 362 с., 1921—1922, 1924—1938 гг. (Гр)*

*Сакольская, ф. 386, 2 с., 1921—1932 гг. (Гр)*

*Сувалкаўская, ф. 209, 1 с., 1936 г. (Гр)*

*Ражанскі ўчастак Гродзенскага павета, ф. 279, 4 с., 1924 г. (Гр)*

*Віленскае ваяводства*

*Ашмянская, ф. 11, 53 с., 1921—1939 гг. (Мал)*

*Браслаўская, ф. 508, 7 с., 1921—1929 гг. (Мал)*

*Вілейская, ф. 10, 117 с., 1921—1939 гг. (Мал)*

*Дзісненская, ф. 509, 204 с., 1921—1939 гг. (Мал)*
*Маладзечанская, ф. 9, 113 с., 1927—1939 гг. (Мал)*
*Пастаўская, ф. 12, 14 с., 1926—1939 гг. (Мал)*
*Навагрудскае ваяводства*
*Баранавіцкая, ф. 702, 119 с., 1921—1939 гг. (Бр)*
*Валожынская, ф. 14, 44 с., 1921—1938 гг. (Мал)*
*Лідская, ф. 200, 18 с., 1920—1936 гг. (Гр)*
*Нясвіжская, ф. 679, 11 с., 1921—1938 гг. (Гр)*
*Навагрудская, ф. 663, 20 с., 1924—1938 гг. (Гр)*
*Слонімская, ф. 678, 6 с., 1921—1934 гг. (Гр)*
*Стаўбцоўская, ф. 664, 50 с., 1921—1939 гг. (Гр)*
*Палескае ваяводства*
*Брэсцкая, ф. 93, 3783 с., 1924—1939 гг. (Бр)*
*Драгічынская, ф. 2027, 557 с., 1920—1939 гг. (Бр)*
*Лунінецкая, ф. 2026, 1608 с., 1919—1939 гг. (Бр)*
*Кобрынская. ф. 95, 1101 с., 1919—1939 гг. (Бр)*
*Пінская, ф. 2025, 665 с., 1919—1939 гг. (Бр)*
*Пружанская, ф. 94, 1759 с., 1919—1939 гг. (Бр)*
*Столінская, ф. 2028, 544 с., 1921—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры, загады, указанні Міністэрства ўнутраных спраў, Галоўнай і ваяводскай камендатур, павятовых каменд аб барацьбе з дзейнасцю палітычных партый, разведвальнай дзейнасцю і нелегальным пераходам граніцы з СССР, аб устанаўленні грамадскага парадку.

Справаздачы, рапарты, данясенні павятовых камендатур, паліцэйскіх участкаў і вышэйстаячых органаў аб грамадска-палітычнай сітуацыі ў паветах, крымінальных злачынствах, стыхійных бедствах; пратаколы пасяджэнняў камендантаў участкаў. Матэрыялы аб дзейнасці КПЗБ, іншых палітычных партый і грамадскіх арганізацый, вышукныя лісты на палітычных дзеячаў; характарыстыкі аб маральнай устойлівасці і палітычнай надзейнасці грамадзян; спісы членаў праўлення і кіруючых работнікаў сельскіх камітэтаў "Беларускай сялянска-рабочай грамады".

Перапіска аб выдачы замежных пашпартоў, спісы грамадзян, выехаўшых з СССР у Польшчу (і назад), пасведчанні на права выязду. Рапарты аб здарэннях, спісы канфідэнтаў і інфарматараў паліцыі; службовыя дзённікі паліцэйскіх; перапіска па асабоваму складу каменд і пастарункаў.

**Каменды дзяржаўнай паліцыі пагранічнай аховы**
*Беластоцкае ваяводства*
*1-й роты Гродзенскай павятовай каменды, ф. 44, 9 с., 1924—*

*1926 гг. (Гр)*

*Навагрудскае ваяводства*

*м. Араны Лідскага павета, ф. 1197, 2 с., 1923—1925 гг. (Гр)*

Загады каменданта паліцыі Беластоцкага ваяводства аб руху кадраў, функцыі паліцыі; указанні пагранічнай інспекцыі і Лідскай павятовай каменды; перапіска аб ахове граніц, пратаколы праверак стану працы і пагранічных застаў, спісы паліцэйскіх. Перапіска з Упраўленнем дзяржпаліцыі аб барацьбе з камуністычным рухам.

**Пастарункі дзяржаўнай паліцыі**

*Ваўкавыскі павет*

*Вярэйкаўскі, ф. 86, 2 с., 1935—1936 гг. (Гр)*

*Ізабелінскі, ф. 82, 1 с., 1932 г. (Гр)*

*Крэмяніцкі, ф. 81, 1 с., 1929—1931 гг. (Гр)*

*Поразаўскі, ф. 80, 3 с., 1929—1931 гг. (Гр)*

*Пяскоўскі, ф. 85, 1 с., 1928—1929 гг. (Гр)*

*Гродзенскі павет*

*Азёрскі, ф. 39, 4 с., 1931, 1933 гг. (Гр)*

*Бярштоўскі, ф. 38, 1 с., 1928 г. (Гр)*

*Волпаўскі, ф. 35, 6 с., 1924—1926 гг. (Гр)*

*Верцялішкаўскі, ф. 34, 6 с., 1931, 1932, 1934, 1936, 1937 гг. (Гр)*

*Вялікабераставіцкі, ф. 27, 6 с., 1921—1937 гг. (Гр)*

*Вялікаэсмонтаўскі, ф. 32, 3 с., 1935—1936 гг. (Гр)*

*Галынкаўскі, ф. 23, 6 с., 1927, 1928, 1930—1932, 1935 гг. (Гр)*

*Гожаўскі, ф. 25, 14 с., 1921—1939 гг. (Гр)*

*Горліцкі, ф. 28, 4 с., 1920—1934 гг. (Гр)*

*Гродзенскі, ф. 22, 54 с., 1920, 1922—1934 гг. (Гр)*

*Дубненскі, ф. 31, 3 с., 1924, 1931—1933, 1936 гг. (Гр)*

*Жытомлеўскі, ф. 33, 3 с., 1921—1922, 1932—1933 гг. (Гр)*

*Індурскі, ф. 36, 1 с., 1922, 1928—1935 гг. (Гр)*

*Крынкаўскі, ф. 43, 192 с., 1921—1937 гг. (Гр)*

*Луненскі, ф. 37, 8 с., 1926, 1933—1935 гг. (Гр)*

*Малабераставіцкі, ф. 26, 4 с., 1926—1936 гг. (Гр)*

*Мастоўскі, ф. 29, 7 с., 1923—1934 гг. (Гр)*

*Парэцкі, ф. 30, 4 с., 1928, 1929, 1935, 1937 гг. (Гр)*

*Скідальскі, ф. 24, 7 с., 1921—1939 гг. (Гр)*

*Навагрудскі павет*

*Збойскі, ф. 1198, 2 с., 1920—1939 гг. (Гр)*

*Слонімскі павет*

*Мяжэвіцкі, ф. 1199, 1 с., 1927 г. (Гр)*

Інструкцыі і распараджэнні павятовага каменданта дзяржпаліцыі паліцэйскім участкам аб барацьбе з нелегальным

пераходам граніцы, мерах барацьбы з рэвалюцыйным рухам; перапіска з Упраўленнем дзяржпаліцыі аб вышуку асоб, якія падазраюцца ў шпіянажы на карысць Германіі; аб палітычным, камуністычным, нацыянальным рухах, барацьбе з рэвалюцыйным і забастовачным рухам. Пратаколы нарад камендантаў паліцэйскіх участкаў, абследаванняў працы паліцэйскіх участкаў, праверкі стану работы ўчасткаў паліцыі.

Спісы давераных асоб паліцыі і іх данясенні аб палітычнай дзейнасці членаў кампартыі, загады і ўказанні дзяржпаліцыі аб палітычных падзеях, рэвалюцыйным руху. Перапіска аб барацьбе з захворваннямі, якія з'явіліся ў павеце.

**Пастарункі жандармерыі корпуса пагранічнай аховы**

*пры Гродзенскай брыгадзе, ф. 390, 1 с., 1932—1935 гг. (Гр)*

*пры батальёне "Падсвілле" дывізіёна жандармерыі, ф. 517, 1 с., 1935 г. (Мал)*

*Кобрынскі вайсковы, ф. 357, 331 с., 1924—1939 гг. (Бр)*

*пры батальёне "Клецк" брыгады "Навагрудак", ф. 1193, 1 с., 1934—1937 гг. (Гр)*

*пры Сейненскім батальёне, ф. 387, 1 с., 1935 г. (Гр)*

*пры батальёне "Сноў" брыгады "Навагрудак", ф. 1195, 3 с., 1932—1936 гг. (Гр)*

*пры батальёне "Стоўбцы" брыгады "Навагрудак", ф. 1194, 1 с., 1932—1936 гг. (Гр)*

*пры Сувалкаўскім батальёне, ф. 388, 1 с., 1933—1935 гг. (Гр)*

*Полк "Вілейка", ф. 5, 272 с., 1924—1939 гг. (Мал)*

*Брыгада "Палессе" в. Лахва, ф. 2029, 292 с., 1922—1939 гг. (Бр)*

Загады, указанні, інструкцыі міністэрстваў ваенных спраў, унутраных спраў Польшчы. Карпусы пагранаховы, камандзіра палка аб барацьбе з разведвальнай дзейнасцю на карысць замежных дзяржаў, рабоце разведчыкаў і агентаў. Склад савецкай пагранаховы, афіцэраў, салдат. Данясенні жандараў аб здарэннях у воінскіх часцях.

**Турмы, канцлагеры**

*Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер, ф. 98, 2918 с., 1934—1939 гг. (Бр)*

Пастановы следчых суддзяў, прадстаўленні ваявод аб заключэнні грамадзян у канцлагер, спісы зняволеных, уліковыя справы зняволеных; спісы служачых канцлагера.

*Баранавіцкая следчая турма, ф. 1030, 2 с., 1932—1936 гг. (Бр)*

Справы зняволеных, асуджаных за шпіянаж.

*Ваўкавыская следча-карная турма Міністэрства юстыцыі, ф.*

*391, 1 с., 1922—1938 гг. (Гр)*

Асабовая справа паліцэйскага.

*Гродзенская следча-карная турма, ф. 55, 261 с., 1920, 1922—1931, 1933—1938 гг. (Гр)*

Загады па асабоваму складу, спісы служачых турмы, перапіска аб арганізацыі школы для дзяцей наглядчыкаў.

*Нясвіжская турма Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы, ф. 1176, 111 с., 1926—1927, 1932—1939 гг. (Гр)*

Спісы зняволеных і справы па абвінавачванню ў нелегальным пераходзе граніцы, па распаўсюджванню камуністычнай прапаганды.

*Пінская крымінальна-следчая турма другога класа, ф. 2043, 728 с., 1919—1939 гг. (Бр)*

Загады начальніка турмы, справаздачы аб наяўнасці асабовага складу, анкеты, спісы, асабовыя справы служачых, асабовыя рахункі і ведамасці на выдачу зарплаты, справы аб накладанні дысцыплінарных спагнанняў, асабовыя справы зняволеных за палітычныя злачынствы.

*Столінская крымінальна-следчая турма трэцяга класа, ф. 2044, 31 с., 1926—1939 гг. (Бр)*

Правілы ўнутранага турэмнага рэжыму для зняволеных. Матэрыялы службовых расследаванняў, асабовыя справы, паслужныя спісы служачых турмы. Асабовыя справы зняволеных за палітычныя злачынствы.

**Павятовыя турмы**

*Ашмянская, ф. 111, 47 с., 1919—1933 гг. (Мал)*

*Вілейская, ф. 47, 3 с., 1925—1939 гг. (Мал)*

*Драгічынская перасыльная III класа, ф. 2266, 2 с., 1927 г. (Бр)*

Дзённыя загады камісара Ашмянскага павета аб увядзенні формы для служачых грамадзянскіх устаноў; асабовыя справы зняволеных, асуджаных за нелегальны пераход дзяржаўнай граніцы, нелегальнае знаходжанне ў пагранічнай паласе і ўзначаленне тайнай эміграцыі. Дакументы аб руху асабовага складу, паслужны спіс работнікаў Драгічынскай турмы.

*Гродзенскі аддзел Арганізацыі былых палітычных зняволеных, ф. 114, 2 с., 1933—1939 гг. (Гр)*

Аўтабіяграфіі і ўспаміны членаў Польскай Партыі Сацыялістаў (ППС) г. Гродна.

**Ваенныя ўстановы**

*Беластоцкае акруговае ўпраўленне "Саюза польскай арганізацыі вайсковай" (ПАВ), ф. 1087, 3 с., 1930—1939 гг. (Гр)*

Спісы ППС, ПАВ і кандыдатаў у дэпутаты Гродзенскага

магістрата, уліковыя карткі членаў арганізацыі ПАВ.

*Камандаванне 9 акруговага корпуса Міністэрства ваенных спраў, г. Брэст, ф. 67, 4774 с., 1922—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры, інструкцыі, распараджэнні Міністэрства ўнутраных спраў аб арганізацыі фізічнай падрыхтоўкі і ваеннага навучання, арганізацыі летніх лагераў, аб правядзенні заняткаў па проціпаветранай абароне; загады Міністэрства ваенных спраў, камендантаў Брэсцкага гарнізона аб камплектаванні павятовых каменд папаўнення, змяненнях у штатах ваеннаслужачых, прызыве ваеннаабавязаных; справаздачы воінскіх часцей аб правядзенні лесанасаджэнняў, справаздачы ваявод аб грамадска-палітычнай сітуацыі ў ваяводстве; данясенні тайных агентаў аб палітычным настроі насельніцтва; паведамленні аб грамадзянах, якія падазраюцца ў камуністычнай дзейнасці; пратаколы допытаў грамадзян, затрыманых пры пераходзе граніцы, звесткі аб рускім манархічным руху ў Заходняй Беларусі; характарыстыкі маральнай устойлівасці і палітычных поглядаў грамадзян.

*Камандаванне 3-й ваеннай акругі Міністэрства ўнутраных спраў, г. Гродна, ф. 183, 2 с., 1921—1929 гг. (Гр)*

Асабовая справа капітана Янюрха Караля; асабовая справа рабіна Гарбера Самуіла.

*Каманда 4-й акругі Польскай ваеннай арганізацыі, ф. 25, 1 с., 1918 г. (Мал)*

Загады каменданта акругі і дапаўненні да інструкцыі аб дзейнасці членаў ваеннай арганізацыі.

*Восемдзесят чацвёрты полк пяхоты "Полесских стрелков", ф. 2301, 68 с., 1920—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры, указанні Міністэрства ваенных спраў, пратаколы сходаў, статыстычныя звесткі аб грашовым зборы, спіс вольнанаёмнага складу, карты ваенна-тэхнічнага характару.

**Камендатуры**

*Косава-Палеская павятовая камендатура фізічнага выхавання і ваеннай падрыхтоўкі, ф. 451, 11 с., 1937—1938 гг. (Бр)*

Планы работы, перапіска па пытаннях дзейнасці камітэта, спісы членаў гурткоў і камітэта.

*Лунінецкая павятовая камендатура папаўнення арміі, ф. 2080, 7 с., 1921—1937 гг. (Бр)*

Загады, распараджэнні Міністэрства ваенных спраў, акруговага штаба корпуса № 9, спісы і заявы ваеннаабавязаных і афіцэраў.

*Пінская павятовая камендатура папаўнення арміі, ф. 2079,*

*164 с., 1920—1939 гг. (Бр)*

Спісы афіцэраў, прызыўнікоў, асабовыя справы ваеннаабавязаных.

*Саколкаўская павятовая камендатура ваеннага навучання Дзяржаўнага ўпраўлення фізічнага выхавання і ваеннага навучання, ф. 315, 1 с., 1938—1939 гг. (Гр)*

Спісы афіцэраў і падафіцэраў стралковага палка; спісы юнакоў, узятых на ўлік прызыўной камісіяй; перапіска аб асабовым складзе.

**Камендатуры ваенных гарнізонаў**

*Віленскага, ф. 381, 1 с., 1936—1937 гг. (Мал)*

*Маладзечанскага, ф. 367, 1 с., 1928—1930 гг. (Мал)*

Загады камендантаў гарнізонаў па асабоваму складу і арганізацыйна-адміністрацыйных пытаннях.

**Камітэты ваеннага навучання і фізічнага выхавання**

*Драгічынскі, ф. 2269, 41 с., 1929—1939 гг. (Бр)*

*Лунінецкі, ф. 2270, 9 с., 1934—1938 гг. (Бр)*

*Пінскі, ф. 2268, 61 с., 1927—1933 гг. (Бр)*

*Столінскі, ф. 2271, 16 с., 1928—1939 гг. (Бр)*

Указанні, інструкцыі ваенных камітэтаў, пратаколы сходаў і пасяджэнняў членаў камітэта, спісы членаў камітэта.

*Палескі ваяводскі, ф. 109, 10 с., 1928—1939 гг. (Бр)*

Распараджэнні Міністэрства ваенных спраў па арганізацыйных і гаспадарчых пытаннях. Статут камітэта; пратаколы сходаў, планы работы.

*Цэнтр навучання рэзерву пяхоты ў Ружанах, ф. 363, 484 с., 1923—1939 гг. (Бр)*

Распараджэнні Міністэрства ваенных спраў аб парадку падрыхтоўкі ваеннаслужачых запасу. Загады каменданта цэнтра. Асабовыя справы служачых цэнтра, спісы па асабоваму складу.

*Вілейская павятовая каманда ваеннага прыстасавання, ф. 26, 20 с., 1928—1939 гг. (Мал)*

Загады, інструкцыі, цыркуляры міністэрстваў узброеных сіл, унутраных спраў, камандавання саюзнага польскага харцарства аб рэалізацыі бюджэту, парадку правядзення інвентарызацыі, аб уліку заняткаў кавалерыстаў па ваеннай падрыхтоўцы і прадастаўленні ім ільгот; аб арганізацыі фізкультурна-спартыўных жаночых курсаў, гурткоў харцарства пры школах і гімназіях.

*Сёмы польскі вольна-казацкі аддзел Алжырскай казацкай станіцы, ф. 2503, 24 с., 1931—1937 гг. (Бр)*

Указанні Алжырскай казацкай станіцы, справы аб дзейнасці

казацкіх аддзелаў, статут станіцы, перапіска з Французскім казацкім аддзелам.

## 4. ГАСПАДАРЧА-ЭКАНАМІЧНЫЯ ЎСТАНОВЫ, АРГАНІЗАЦЫІ І ПРАДПРЫЕМСТВЫ

### Зямельныя ўстановы

#### Акруговыя зямельныя ўпраўленні

*Віленскае, ф. 439, 341 с., 1920—1935 гг. (Мал)*

Цыркуляры, інструкцыі Савета Міністраў Польшчы і Міністэрства земляробства аб надзяленні зямлёй ваенных асаднікаў; пастановы зямельнага ўпраўлення аб назначэнні пазыкі ваенным асаднікам; спісы маёнткаў і іх уладальнікаў, ваенных асаднікаў. Пратаколы пасяджэнняў павятовых надаўчых[6] камітэтаў і зямельных камітэтаў, звесткі аб колькасці зямлі ў сялян, справы аб адтэрміноўцы ад аплаты за землекарыстанне, аб прызнанні права ўласнасці на зямлю, надзяленні зямлёй ваенных асаднікаў і інш.

*Навагрудскае, ф. 550, 11 с., 1922, 1928, 1930, 1931, 1933 гг. (Гр)*

Распараджэнні акруговага зямельнага ўпраўлення; заявы ваенных асаднікаў аб выдачы пазыкі; спіс ваенных асаднікаў; выпіскі з цыркуляра Міністэрства ваенных спраў аб манеўрах рэзервістаў.

#### Павятовыя зямельныя ўпраўленні

*Віленскае ваяводства*

*Ашмянскае, ф. 265, 13 с., 1920—1933 гг. (Мал)*
*Браслаўскае, ф. 440, 3 с., 1924—1933 гг. (Мал)*
*Вілейскае, ф. 262, 2 с., 1925—1933 гг. (Мал)*
*Віленска-Ашмянскае, ф. 296, 2 с., 1925—1927 гг. (Мал)*
*Дзісненскае, ф. 441, 29 с., 1921—1933 гг. (Мал)*
*Маладзечанскае, ф. 264, 3 с., 1925—1928 гг. (Мал)*
*Пастаўскае, ф. 263, 3 с., 1922—1931 гг. (Мал)*

Цыркуляры, інструкцыі і распараджэнні Віленскага акруговага зямельнага ўпраўлення аб правядзенні зямельнай рэформы ў дзяржаўных маёнтках, землеўладкаванні асаднікаў; рашэнні маёмасных пытанняў насельніцтва; пратаколы пасяджэнняў павятовых надаўчых камітэтаў. Справы аб надзяленні зямлёй асаднікаў і размеркаванні паміж імі дзяржаўных фальваркаў; спісы ваенных асаднікаў, дзяржаўных маёнткаў і інш.

*Навагрудскае ваяводства*

*Нясвіжскае, ф. 571, 1 с., 1921 г. (Гр)*

*Палескае ваяводства*

---

[6] Надаўчыя камітэты — камітэты па размеркаванню зямлі.

*Пінскае, ф. 2134, (ААФ № 372), 3 с., 1922, 1924, 1930—1931 гг. (Бр)*

*Столінскае, ф. 2214, (ААФ № 372), 8 с., 1928—1933 гг. (Бр)*

Спісы і заявы асаднікаў, спісы маёнткаў, звесткі аб выдачы пазык для арганізацыі калоній, асабовыя справы.

**Павятовыя камітэты па надзяленню зямлёй**

*Віленскае ваяводства*

*Вілейскі, ф. 267, 20 с., 1921—1933 гг. (Мал)*

*Дзісненскі, ф. 472, 4 с., 1921—1931 гг. (Мал)*

*Пастаўскі, ф. 266, 7 с., 1921—1933 гг. (Мал)*

Цыркуляры Дзісненскага павятовага камітэта і яго перапіска з Дзісненскім павятовым зямельным упраўленнем аб надзяленні зямлёй ваенных асаднікаў і аказанні ім матэрыяльнай дапамогі. Справы аб перадачы дзяржаве зямель, маёнткаў і сядзіб, надзяленні зямлёй ваенных асаднікаў. Спісы асаднікаў.

*Навагрудскае ваяводства*

*Нясвіжскі, ф. 558, 7 с., 1923—1932 гг. (Гр)*

Перапіска з зямельным камісарам аб надзяленні зямлёй, акты па надзяленню зямлёй ваенных асаднікаў.

*Палескае ваяводства*

*Лунінецкі, ф. 2509 (ААФ № 372), 1 с., 1923—1930 гг. (Бр)*

*Пінскі, ф. 2508 (ААФ № 372), 8 с., 1921—1933 гг. (Бр)*

Пратаколы пасяджэнняў камітэта.

**Установы лесааховы. Надлясніцтвы.**

*Беластоцкае ваяводства*

*Гродзенскае, ф. 49, 1 с., 1932—1934 гг. (Гр)*

*Краснапольскае, ф. 51, 2 с., 1921—1939 гг. (Гр)*

Перапіска з дырэкцыяй дзяржаўных лясоў аб следстве лесніка Гедройца Фелікса (і іншыя аналагічныя); перапіска леснікоў, якія з'яўляліся членамі арганізацыі "Военного обучения".

*Палескае ваяводства*

*Пінскае, ф. 2064, 7 с., 1934—1939 гг. (Бр)*

Дакументы аб дзейнасці гурткоў "Семья лесника", "Военного обучения лесников".

**Будаўнічыя арганізацыі**

*Пінскае павятовае бюро па аднаўленню гаспадарак, знішчаных ці пашкоджаных у час ваенных дзеянняў (1914—1920 гг.), ф. 2428, 1 с., 1922—1923 гг. (Бр)*

Імянныя спісы асаднікаў.

*Упраўленне па будаўніцтву памяшканняў для корпуса пагранічнай аховы, г. Столін, ф. 2320, 7 с., 1926 г. (Бр)*

Планы польска-савецкай граніцы.

**Фінансавыя ўстановы**

*Пінскае аддзяленне Дзяржаўнага зямельнага банка, ф. 2071, 1 с., 1934 г. (Бр)*

Імянныя спісы ваенных асаднікаў Драгічынскага павета.

## 5. ОРГАНЫ НАРОДНАЙ АСВЕТЫ

*Папячыцельства Брэсцкай школьнай акругі, ф. 59, 86 с., 1921—1939 гг. (Бр)*

Даклад аб адміністрацыйным праве ў Польшчы. Справы аб арганізацыі і дзейнасці дзяржаўных рамесна-прафесійных навучальных устаноў, настаўніцкіх семінарый і курсаў, аб стварэнні ў школах спартыўна-ваенных арганізацый, спісы іх членаў. Спіс грамадскіх арганізацый і саюзаў Польшчы, створаных у школах.

## 6. ОРГАНЫ САЦЫЯЛЬНАГА ЗАБЕСПЯЧЭННЯ І СТРАХАВАННЯ

*Брэсцкае акруговае аддзяленне Цэнтральнага "Эмиграционного синдиката", ф. 377, 6 с., 1928—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры "Эмиграционного синдиката", распараджэнні Міністэрства сацыяльнага забеспячэння аб умовах выезду грамадзян у Амерыку; заявы грамадзян аб выдачы ім замежных пашпартоў.

## 7. ГРАМАДСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ (Польская сацыялістычная партыя, прафсаюзы, саюзы, суполкі, таварыствы і інш.)

**Партыі**

*Брэсцкі павятовы камітэт Польскай сацыялістычнай партыі, ф. 388, 4 с., 1930—1936 гг. (Бр)*

Цыркуляры выканаўчага камітэта Польскай сацыялістычнай партыі, справаздачы Брэсцкага камітэта, перапіска з Брэсцкім павятовым старостам аб дазволе сходаў, мітынгаў.

*Палескі акруговы камітэт Польскай сацыялістычнай партыі, ф. 2374, 2 с., 1927—1930 гг. (Бр)*

Цыркуляры, інструкцыі Польскай сацыялістычнай партыі.

*Гродзенскі павятовы аддзел Беластоцкай акругі партыі "Обоз зъедночения народового", ф. 142, 27 с., 1937—1939 гг. (Гр)*

Пратаколы сходаў членаў абласнога Савета, агляд эканамічнага і палітычнага стану вёсак і паселішчаў, перапіска з арганізацыямі аб членстве ў партыі.

**Прафсаюзы**

*Мясцовая арганізацыя прафсаюза чыгунаных рабочых*

*Польшчы ў г. Ваўкавыску, ф. 1288, 5 с., 1936—1939 гг. (Гр)*

Указанні Галоўнага ўпраўлення прафсаюзаў чыгуначнікаў Польшчы аб тэматыцы гутарак і дакладаў выступленняў у дні святкавання 1-га Мая 1937 г.; даклады Адама Прухніна "Революция 1905 г.", "Легионы и завоевание независимости". Зборнік вершаў і апавяданняў Эдварда Шыманскага, прысвечаных 20-годдзю прафсаюза чыгуначнікаў. Брашура "Задачи руководителей железнодорожных профсоюзных организаций" за 1939 г.

**"Лагеря национального соединения" і "народного объединения"**

*Пінскі павятовы аддзел "Лагеря национального объединения", ф. 2262, 2 с., 1938—1939 гг. (Бр)*

Дакументы аб дзейнасці аб'яднання.

*Палеская акруга "Лагеря национального объединения", ф. 116, 22 с., 1937—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры, распараджэнні аддзела прапаганды, праграма дзейнасці партыі "Лагеря национального объединения" (ОЗН), пратаколы сходаў, пасяджэнняў, спісы членаў партыі.

*Павятовыя "Лагеря народного соединения"*

*Вілейскі, ф. 43, 1 с., 1937 г. (Мал)*

*Маладзечанскі, ф. 40, 1 с., 1937—1939 гг. (Мал)*

Пратаколы сходаў і пастаноў членаў "Союза стрельцов", "Союза противовоздушной и химической обороны", "Отдела Польского Красного Креста" і іншых арганізацый аб злучэнні іх у "Лагерь народного соединения". Дырэктыўныя ўказанні акруговага лагера павятовым і гмінным лагерам аб аказанні дапамогі ўбогім і сіротам, правядзенні сходаў, складанні справаздач аб рабоце і інш.

*Гмінныя аддзелы "Лагеря народного соединения"*

*Вілейскага павета, ф. 42, 1 с., 1938—1939 гг. (Мал)*

*Маладзечанскага павета, ф. 41, 1 с., 1938—1939 гг. (Мал)*

Пратаколы сходаў членаў лагера і перапіска з павятовымі лагерамі і гміннымі ўпраўленнямі аб падрыхтоўцы да выбараў Рады "Лагеря народного соединения", аб выдачы значкоў для членаў лагера і аб правядзенні святкавання імянін правадыра Рыдз-Сміглы.

**Таварыствы і іх гурткі**

*Брэсцкі аддзел Рускага дабрачыннага таварыства ў Польшчы, ф. 114, 66 с., 1924—1939 гг. (Бр)*

Статут Рускага дабрачыннага таварыства. Пратаколы пасяджэнняў праўлення Брэсцкага аддзела. Спісы настаўнікаў рускай школы ў Брэсце; падпісныя лісты ахвяраванняў на карысць навучальных устаноў Рускага дабрачыннага таварыства. Перапіска з

іншымі арганізацыямі па пытаннях культурна-асветніцкай дзейнасці, аб дзейнасці камітэта па стварэнню Рускага дома.

*Украінскі грамадскі камітэт на Палессі, ф. 242, 1 с., 1927—1928 гг. (Бр)*

Справа аб арганізацыі і дзейнасці камітэта.

*Палескае акруговае ўпраўленне таварыства "Морская и колониальная лига", ф. 391, 12 с., 1932—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры Галоўнага ўпраўлення лігі, статут, справаздачы, інфармацыйныя бюлетэні лігі, спісы членаў Брэсцкага аддзела лігі.

*Брэсцкі аддзел Рускага таварыства моладзі ў Польшчы, ф. 115, 1 с., 1935—1936 гг. (Бр)*

Перапіска з праўленнем Рускага таварыства моладзі г. Варшавы па арганізацыйных пытаннях.

**Таварыства "Развития восточных земель"**

*Вілейскае павятовае ўпраўленне, ф. 39, 3 с., 1936—1939 гг. (Мал)*

*Пінскі павятовы гурток, ф. 2264, 5 с., 1920—1938 гг. (Бр)*

Статуты, цыркуляры, інструкцыі Варшаўскага галоўнага ўпраўлення, перапіска з ім і павятовым староствам па наладжванню працы ў школах, аказанню дапамогі дзецям-сіротам і дзецям беднякоў, малазямельным і беззямельным сялянам. Пратаколы сходаў членаў гуртка, фінансава-гаспадарчыя планы, спісы членаў Пінскага гуртка.

**Таварыства "Полицейская семья"**

*Брэсцкае акруговае ўпраўленне, ф. 390, 4 с., 1929—1939 гг. (Бр)*

*Павятовыя гурткі*

*Гродзенскі Беластоцкага акруговага ўпраўлення, ф. 106, 35 с., 1929—1938 гг. (Гр)*

*Драгічынскі, ф. 2272, 7 с., 1932—1939 гг. (Бр)*

*Лунінецкі, ф. 2261, 2 с., 1934, 1939 гг. (Бр)*

*Пінскі, ф. 2070, 21 с., 1929—1939 гг. (Бр)*

*Столінскі, ф. 2258, 1 с., 1935 г. (Бр)*

Статуты таварыства, пратаколы пасяджэнняў камітэтаў, справаздачы аб дзейнасці. Распараджэнні і інструкцыі Варшаўскага галоўнага ўпраўлення аб дапамозе беспрацоўным; спісы членаў гурткоў.

**Праўленні гурткоў таварыства "Семья чиновника"**

*Лунінецкага, ф. 2263, 3 с., 1934—1939 гг. (Бр)*

*Пінскага, ф. 2129, 9 с., 1929—1939 гг. (Бр)*

*Пінскага таварыства дзяржаўных чыноўнікаў, ф. 2267, 7 с., 1927—1933 гг. (Бр)*

Статуты таварыства, дакументы аб дзейнасці, пратаколы пасяджэнняў праўленняў і сходаў членаў гурткоў.

**Саюзы, іх гурткі і аддзелы**

*Вілейская павятовая каменда федэрацыі польскіх "Союза защитников Родины" і "Союза резервистов", ф. 28, 5 с., 1937—1939 гг. (Мал)*

Загады і ўказанні Галоўнай і павятовай каменд федэрацыі аб правядзенні заняткаў па ваеннай падрыхтоўцы сярод солтысаў і рэзервістаў, аб рабоце інфарматараў; дакументы аб парадку выдачы патрабаванняў на праезд па чыгунцы, накладанні спагнанняў і заахвочванні рэзервістаў.

*"Союз резервистов"*

*Брэсцкае акруговае ўпраўленне "Союза резервистов", ф. 365, 42 с., 1933—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры Галоўнага і акруговага ўпраўленняў "Союза резервистов", справаздачы аб дзейнасці аддзелаў, пратаколы агульных сходаў, спісы членаў "Союза резервистов".

*Павятовыя ўпраўленні*

*Віленскае ваяводства*

*Вілейскае, ф. 30, 3 с., 1930—1939 гг. (Мал)*

*Маладзечанскае, ф. 29, 1 с., 1937 г. (Мал)*

Пратаколы сходаў членаў саюза. Спіс членаў упраўлення федэрацыі саюзаў, заяўкі на зброю для гуртка рэзервістаў.

*Палескае ваяводства*

*Драгічынскае, ф. 2253, 34 с., 1927—1939 гг. (Бр)*

*Лунінецкае, ф. 2254, 23 с., 1933—1939 гг. (Бр)*

*Пінскае, ф. 2089, 122 с., 1931—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры, указанні, загады ўпраўлення "Союза резервистов", камендантаў гурткоў; статут Драгічынскага саюза; пратаколы пасяджэнняў праўлення, справаздачы аб дзейнасці гурткоў.

Вучэбныя праграмы заняткаў, анкеты і спісы членаў саюза.

*Гурткі*

*"Союз резервистов"*

*Даўгінаўскага гміннага праўлення Вілейскага павета, ф. 31, 2 с., 1931 г. (Мал)*

*Куранецкага гміннага праўлення Вілейскага павета, ф. 32, 8 с., 1930—1939 гг. (Мал)*

*Лебедзеўскага гміннага праўлення Маладзечанскага павета, ф. 33, 5 с., 1936—1939 гг. (Мал)*

*Мядзельскага гміннага праўлення Пастаўскага павета, ф. 94, 2 с., 1931 г. (Мал)*

Дакументы аб парадку прыняцця грамадзян у члены саюза, арганізацыі правядзення курсаў рэзервістаў, навучанні членаў саюза, выдачы дазволаў членам саюза на жаніцьбу.

*"Союз стрельцов"*

*Брэсцкае акруговае ўпраўленне "Союза стрельцов", ф. 364, 194 с., 1927—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры, распараджэнні Галоўнага і акруговага ўпраўленняў "Союза стрельцов". Статут саюза. Пратаколы сходаў, паведамленні аб дзейнасці саюза. Спісы членаў саюза.

*Павятовыя ўпраўленні*

*Віленскае ваяводства*

*Вілейскае, ф. 35, 4 с., 1931—1939 гг. (Мал)*

*Маладзечанскае, ф. 37, 1 с., 1930—1931 гг. (Мал)*

*Палескае ваяводства*

*Драгічынскае, ф. 2256, 55 с., 1928—1939 гг. (Бр)*

*Лунінецкае, ф. 2259, 24 с., 1928—1939 гг. (Бр)*

*Пінскае, ф. 2257, 6 с., 1932—1938 гг. (Бр)*

Цыркуляры, загады, інструкцыі Галоўнага ўпраўлення "Союза стрельцов". Статуты, дакументы аб дзейнасці саюза; спісы членаў саюза.

*Упраўленне Ваўкавыскага аб'яднанага аддзела Ваўкавыскай павятовай каменды "Союза стрельцов", ф. 120, 2 с., 1924 г. (Гр)*

Загады і інструкцыі каменды "Союза стрельцов" Гродзенскай акругі і Ваўкавыскай павятовай каменды аб арганізацыі працы, пратаколы агульных сходаў і пасяджэнняў упраўлення.

*Гмінныя праўленні*

*Красненскае Маладзечанскага павета, ф. 36, 1 с., 1935—1937 гг. (Мал)*

*Войстамскае Вілейскага павета, ф. 38, 1 с., 1933—1938 гг. (Мал)*

Указанні ўпраўлення павятовай каменды гмінным упраўленням і перапіска з павятовым саюзам аб працы стральцоў і ўпарадкаванні бібліятэк.

*Скідальскі гмінны аддзел Гродзенскай павятовай каменды "Союза стрельцов", ф. 121, 1 с., 1930 г. (Гр)*

Загады Гродзенскай павятовай каменды "Союза стрельцов" аб арганізацыі працы.

**Упраўленні, гурткі саюзаў ваеннага накірунку.**

*Беластоцкае акруговае ўпраўленне "Союза бывших добровольцев польской армии", ф. 122, 3 с., 1935—1938 гг. (Гр)*

Дэкларацыі асоб, якія ўступілі ў "Союз бывших добровольцев

польской армии", спісы членаў Саюза, перапіска з Варшаўскім галоўным упраўленнем аб арганізацыі аддзяленняў.

*Падляска-Палескае акруговае ўпраўленне "Союза польских легионеров", ф. 397, 66 с., 1923—1938 гг. (Бр)*

Пратаколы агульных сходаў членаў саюза. Статут саюза легіянераў, справаздачы аб працы саюза, спісы членаў саюза.

*Пінскі павятовы аддзел польскіх легіянераў, ф. 2255, 16 с., 1929—1937 гг. (Бр)*

Цыркуляры, загады Галоўнага ўпраўлення саюза легіянераў, статуты саюза, справаздачы аб дзейнасці, пратаколы сходаў членаў гурткоў, справы аб руху асабовага складу.

*Пінскае павятовае камандаванне федэрацыі польскіх саюзаў абаронцаў айчыны і "Союза резервистов", ф. 2090, 15 с., 1930—1939 гг. (Бр)*

Статуты саюза, пратаколы пасяджэнняў, справаздачы аб дзейнасці, спісы членаў федэрацыі і саюза.

**Павятовыя гурткі "Союза офицеров резерва" Польшчы**

*Драгічынскі, ф. 2384, 1 с., 1927 г. (Бр)*

*Лунінецкі, ф. 2386, 1 с., 1935—1939 гг. (Бр)*

*Пінскі, ф. 2380, 19 с., 1927—1939 гг. (Бр)*

Указанні, паведамленні Упраўлення "Союза резервистов", пратаколы з'ездаў, сходаў членаў гурткоў. Вучэбныя праграмы, планы, спісы членаў саюза.

*Брэсцкі гурток ваеннай падрыхтоўкі чыгуначнікаў, ф. 268, 7 с., 1931, 1933—1937 гг. (Бр)*

Справаздачы аб дзейнасці гуртка, спісы членаў гуртка.

**Саюз процілаветранай і процііхімічнай абароны (ЛОПП)**

*Саюз процііхімічнай і паветранай абароны Палескай ваяводскай акругі, ф. 105, 41 с., 1931—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры Галоўнага ўпраўлення ЛОПП, пратаколы пасяджэнняў агульных сходаў, справаздачы аб дзейнасці Палескай ваяводскай акругі, спісы членаў ЛОПП.

*Пінскі павятовы ўчастак лігі проціпаветранай і процііхімічнай абароны, ф. 2081, 108 с., 1927—1939 гг. (Бр)*

Статут лігі, пратаколы сходаў, справаздачы аб дзейнасці, спісы гурткоў.

**Арганізацыі бой-скаўтаў**

*Гродзенская гарадская акруга старшых бой-скаўтаў "Гуфца" г. Гродна Союза бой-скаўтаў Польшчы, ф. 125, 7 с., 1932—1938 гг. (Гр)*

Інструкцыя Беластоцкага аддзела бой-скаўтаў аб арганізацыі маладзежных атрадаў. Статут, журнал рэгістрацыі членаў. Спісы

членаў, заявы асоб, жадаючых уступіць у гурток.

*Каменда "Гуфца" бой-скаўтаў "Гродна" па г. Гродна і Гродзенскаму павету Беластоцкай харонгві, ф. 124, 1 с., 1938 г. (Гр)*

Загады каменды Гродзенскага атрада бой-скаўтаў па арганізацыйных пытаннях.

*Каменда Гродзенскага павятовага "Гуфца" бой-скаўтаў Беластоцкай харонгві Саюза бой-скаўтаў Польшчы, ф. 123, 1 с., 1937—1938 гг. (Гр)*

Перапіска з Беластоцкай камендай "Союза польских бой-скаутов" па арганізацыйных пытаннях.

*Брэсцкі аддзел Саюза бой-скаўтаў, ф. 389, 13 с., 1922—1937 гг. (Бр)*

Дырэктыўныя ўказанні вышэйстаячых устаноў "Союза польского харцерства" (СПХ), рапарты камендантаў аб стане дружын "СПХ", пасведчанні членаў "СПХ".

**Саюзы, гурткі, клубы розных арганізацый**

*Камендатура Драгічынскай акругі "Легион молодых" союза "Труда" Польшчы, ф. 2162, 1 с., 1934—1939 гг. (Бр)*

Анкеты членаў легіёна.

*Вілейскі павятовы "Союз колонизаторов", ф. 34, 2 с., 1926—1939 гг. (Мал)*

Указанні Цэнтральнага "Союза колонизаторов" аб парадку выплаты членскіх узносаў і спісы членаў саюза.

*Пінскі павятовы "Союз осадников", ф. 2088, 24 с., 1921—1937 гг. (Бр)*

Статут "Союза осадников", пратаколы сходаў асаднікаў, справаздачы аб дзейнасці саюза.

*Глыбоцкае павятовае ўпраўленне "Союза молодёжи" Віленскага ваяводства, ф. 510, 2 с., 1937—1938 гг. (Мал)*

Анкета і заявы асоб, якія ўступілі ў члены саюза; спісы членаў саюза.

*Палескі ваяводскі "Саюз сельскай моладзі", ф. 382, 4 с., 1934—1938 гг. (Бр)*

Цыркуляры, планы работы, справаздачы аб дзейнасці. Спісы членаў Саюза.

*Вілейскі павятовы "Союз деревенской молодёжи", ф. 27, 8 с., 1936—1939 гг. (Мал)*

Пратаколы сходаў і планы работы гурткоў вясковай моладзі пры гмінных праўленнях, дакументы, якія раскрываюць пытанні арганізацыйна-асветніцкай працы.

*Баранавіцкі павятовы саюз "Молодая деревня", ф. 1050, 1 с.,*

*1934—1938 гг. (Бр)*

Пратаколы агульных сходаў членаў павятовага саюза.

*Палескі акруговы аддзел арганізацыі рабочай моладзі, ф. 386, 4 с., 1937—1939 гг. (Бр)*

Цыркуляры, інструкцыі Галоўнага ўпраўлення, статут арганізацыі.

*Саюз жанчын грамадзянскай працы ў Камянец-Літоўску, ф. 356, 1 с., 1936—1938 гг. (Бр)*

Справа аб арганізацыі і дзейнасці саюза.

*Пінскі павятовы гурток "Семья лесника", ф. 2265, 3 с., 1930—1939 гг. (Бр)*

Дакументы аб дзейнасці гуртка, справаздачы аб выдаткаванні бюджэтных сродкаў.

*Палескі акруговы аддзел Саюза пажарных ахоўнікаў, ф. 106, 35 с., 1931—1938 гг. (Бр)*

Цыркуляры і распараджэнні Галоўнага праўлення Саюза пажарнай аховы; статуты, справаздачы саюзаў і таварыстваў пажарнай аховы.

*Гродзенскі паліцэйскі спартыўны клуб "Лехец", ф. 107, 2 с., 1929, 1931 гг. (Гр)*

Пратакол аб арганізацыі Гродзенскай спартыўнай акругі, рахункі фірмы і прыватных асоб, прадстаўленыя клубу для аплаты.

*Пінскі павятовы паліцэйскі спартыўны клуб, ф. 2069, 20 с., 1926—1939 гг. (Бр)*

Статуты клуба, пратаколы сходаў, дакументы аб працы клуба.

## 8. КААПЕРАТЫЎНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ

**Праўленні кааператываў**

*9-га кадравага абознага дывізіёна ў г. Брэсце, ф. 483, 10 с., 1923—1937 гг. (Бр)*

*4-га танкавага дывізіёна ў г. Брэсце, ф. 484, 4 с., 1931—1937 гг. (Бр)*

*9-га сапёрнага палка ў г. Брэсце, ф. 485, 8 с., 1925—1935 гг. (Бр)*

*9-га адміністрацыйнага батальёна ў г. Брэсце, ф. 487, 7 с., 1925—1930 гг. (Бр)*

*кааператыўна-жыллёвага таварыства "Офицерская колония", ф. 477, 1 с., 1926—1927 гг. (Бр)*

Пратаколы сходаў і пасяджэнняў членаў кааператываў, справаздачы аб яго дзейнасці, спісы членаў кааператываў.

## 9. УСТАНОВЫ РЭЛІГІЙНЫХ КУЛЬТАЎ

*Навукова-выдавецкі праваслаўны інстытут г. Гродна, ф. 92, 21 с., 1938—1939 гг. (Гр)*

Даклады і выступленні святароў пры адкрыцці Дома палякаў праваслаўнага веравызнання.

*Праўленне Гродзенскай яўрэйскай рэлігійнай абшчыны, ф. 56, 9 с., 1925—1927, 1930, 1937, 1939 гг. (Гр)*

Дакументы па выбарах старшыні Савета яўрэйскай абшчыны, перапіска з яўрэйскімі арганізацыямі ў Амерыцы, матэрыялы аб зверствах польскага войска ў перыяд польска-савецкай вайны 1920 г. над яўрэйскім насельніцтвам.

*Вілейскі павятовы аддзел "Женского католического общества", ф. 44, 2 с., 1933—1938 гг. (Мал)*

Спісы членаў каталіцкай суполкі ў павеце.

# IV. КАЛЕКЦЫЯ ДАКУМЕНТАЎ АДДЗЕЛА РУКАПІСАЎ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ ІМЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА ў г. ВІЛЬНІ

**Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь**

*Калекцыя дакументаў аддзела рукапісаў Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў г. Вільні, ф. 3, 330 с., 1835—1942 гг. (БДАМЛМ)*

Калекцыя змяшчае дакументы беларускіх дзеячаў, выдавецтваў, рэдакцый часопісаў і газет, саюзаў, камітэтаў і таварыстваў: творчыя і біяграфічныя дакументы, перапіску, загады, пратаколы, статуты, рэзалюцыі і інш. Сабрана Луцкевічам Іванам Іванавічам (1881—1919 гг.) — беларускім археолагам, этнографам і грамадскім дзеячам. Паступіла ў БДАМЛМ у 1961 г. з Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Літоўскай ССР.

Матэрыялы беларускіх палітычных партый, калектываў, саюзаў, таварыстваў: Беларускага таварыства па аказанню дапамогі пацярпеўшым ад вайны (1913—1925 гг.), Беларускага клуба ў г. Вільні (1916—1924 гг.), Магілёўскага беларускага камітэта (1917—1918 гг.), Беларускага цэнтральнага саюза нацыянальных грамадскіх арганізацый (1917—1918 гг.) — статуты, перапіска з акупацыйнымі ўладамі, пратаколы пасяджэнняў, спісы членаў, фінансавыя дакументы; Беларускай сацыялістычнай грамады (1906, 1917 гг.), Беларускай сялянска-рабочай грамады, Беларускай сялянскай грамады ў г. Вільні (1923 г.), Беларускай грамады ў г. Коўна (1917—1918 гг.) — статут, перапіска, прашэнні, заявы, пратэсты, рэзалюцыя канферэнцыі, пратакол III з'езда; Беларускай партыі сацыялістаў-

рэвалюцыянераў (1918—1924 гг.), Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (1918 г.) — праграмы, пратаколы з'езда, прашэнні.

Дакументы Беларускай народнай рэспублікі (1918 г.) — законапраект аб народным сакратарыяце; Міністэрства беларускіх спраў пры Літоўскім буржуазным урадзе (1918—1921 гг.), Цэнтральнай Беларускай Віленскай і Гродзенскай рады (1919 г.), Беларускага камітэта ў Варшаве (1919—1923 гг.), Беларускай вайсковай камісіі — пратаколы пасяджэнняў, заявы, перапіска, спісы членаў рады.

Матэрыялы па выбарах беларускіх паслоў у Польскі буржуазны сейм (1922, 1927 гг.) — статут пасольскага клуба ў Сейме і Сенаце Польшчы, спісы кандыдатаў, стварэння выбарчай камісіі; стэнаграмы прамоў дэлегатаў народаў Расіі на Усерасійскай дэмакратычнай нарадзе (1917 г.); законы Народнага савета Латвіі аб арганізацыі школ нацыянальных меншасцей і аб асветніцкіх установах Латвіі (1919 г.); матэрыялы IV Кангрэса міжнародных дэмакратычных сіл за мір (Лондан, 1924 г.).

Матэрыялы беларускіх культурна-асветных арганізацый: Беларускага музея імя І. Луцкевіча (1932—1935 гг.) — перапіска, спісы ўкладчыкаў, пратаколы пасяджэнняў; Беларускага навуковага таварыства ў г. Вільні (1927—1942 гг.), Віленскага народнага універсітэта імя А. Міцкевіча (1915—1916 гг.), Саюза культурна-нацыянальнага адраджэння беларускага народа ў г. Вільні (1918 г.) — статуты, пратаколы пасяджэнняў, перапіска; Таварыства беларускай школы (1923—1929 гг.) — пратаколы, перапіска, спісы дэлегатаў 1-га з'езда настаўнікаў; Беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Прасвета" (1926—1930 гг.) — мемарандумы аб адкрыцці беларускіх школ; Таварыства беларусазнаўства пры Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя (1931—1934 гг.), Беларускага культурна-асветнага таварыства ў г. Коўна (1932—1933 гг.) — статуты, пратаколы, перапіска, аб'явы, інфармацыя аб дзейнасці беларускіх арганізацый у Літве.

Матэрыялы беларускіх выдавецтваў, часопісаў і газет: Беларускіх выдавецкіх таварystваў у Вільні (1913—1926 гг.), "Загляне сонца і ў наша аконца" (1906—1914 гг.), "Мінчук" у г. Мінску (1906—1909 гг.), выдавецтва "Наша хата" (1908—1909 гг.) — статуты, спісы кніг, пратаколы, перапіска, дагаворы; рэдакцый газет "Беларуская крыніца" (1926—1934 гг.), "Беларуская ніва" (1924—1927 гг.), "Беларускі звон" (1932 г.), "Гоман" (1917 г.), "Наперад" (1929—1930 гг.), "Народны звон" (1926—1928 гг.), "Наша ніва" (1906—1915 гг., 1920—1921 гг.), "Новае жыццё" (1923 г.), "Саха" (1923 г.), "Студэнцкая

думка" (1920 г.), "Шлях моладзі" (1937—1938 гг.) — матэрыялы для апублікавання, пісьмы аўтараў, чытачоў, перапіска з польскімі ўладамі, фінансавыя дакументы; рэдакцыі часопісаў "Беларускі летапіс" (1939 г.), "Беларускі студэнт" (1920, 1924 гг.), "Крывіч" (1921—1924 гг.), "Маланка" (1926—1929 гг.), "Наша жыццё" (1926 г.), "Новы шлях" (№ 6, 1936 г.), "Саха" (1912—1913 гг.) — матэрыялы для апублікавання, пісьмы, перапіска з польскімі ўладамі, адрасы замежных падпісчыкаў і інш.

Матэрыялы беларускіх палітычных дзеячаў, дзеячаў культуры, пісьменнікаў: З. Бядулі — вершы (1920—1921 гг.); М. Васілька — вершы (1937 г.); К. Вясёлага — "Ні розумам сцяміў, а сэрцам" — п'еса (1927 г.); А.А. Грыневіча — запісная кніжка, перапіска, фінансавыя (1910—1923 гг.); Л.І. Дубяйкоўскага — матэрыялы да біяграфіі, аб ім, фота і інш. (1903—1934 гг.); К. Душ-Душэўскага — нарысы, артыкулы, нататкі, даклады, пісьмы, матэрыялы да біяграфіі і інш. (1918—1935 гг.); П.Я. Жаўрыда — матэрыялы да біяграфіі (1895—1923 гг.); Ю.П. Крэвера — матэрыялы да біяграфіі (1906—1940 гг.); П.А. Крачэўскага — пісьмо прэзідэнту Лігі Нацый Э. Эрыа (1924 г.); Я. Коласа — "Дзіцячая чытанка" — (1917 г.); пісьмы В.Ю. Ластоўскаму (1910—1920 гг.); справа Віленскай судовай палаты па абвінавачванню К.М. Міцкевіча (Я. Коласа) і групы настаўнікаў, у тым ліку І.М. Фёдарава (Я. Маўра), ва ўдзеле ў нелегальным настаўніцкім з'ездзе ў Мікалаеўшчыне — (1906 г.); В.Ю. Ластоўскага — перапіска з дзеячамі беларускага руху і арганізацыямі (1916, 1922—1927 гг.), выступленні на V Асамблеі Лігі Нацый (1924 г.), матэрыялы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі з яго ўдзелам, запіскі ад Ц. Гартнага, Я. Коласа (1926 г.); братоў І.І. і А.І. Луцкевічаў — перапіска з арганізацыямі і грамадскімі дзеячамі: З. Бядулем, С.А. Рак-Міхайлоўскім, А. Смолічам, з прафесарам Р. Абіхтам і інш. (1909—1938 гг.), матэрыялы да біяграфіі І.І. Луцкевіча, асабістыя, фінансавыя, таварыскага суда і інш. (1909—1914 гг.), А.І. Луцкевіча — рукапісы. Нарысы, артыкулы, нататкі, выступленні, даклады, успаміны (1917—1937 гг.) і інш., матэрыялы трацейскага суда: А.І. Луцкевіч, В. Самойла, А. Трапко супраць Р. Астроўскага (1934—1935 гг.) і інш.; А.А. Новік "Жменя асенніх думак" — зборнік вершаў (1937 г.); А. Парука — асабістыя дакументы (1919—1923 гг.); А. Смоліча — перапіска, матэрыялы да біяграфіі (1918—1922 гг.); Д.М. Сабалеўскага "Материалы по вопросу государственного, правового, судебного устройства Белоруссии", "Проекты организации автономного и республиканского устройства Белоруссии" — даклады (1917 г.), А. Станкевіча — перапіска (1924—1937 гг.), даклад (1935—

1936 гг.); Б.А. Тарашкевіча — артыкул, даклад і перапіска з арганізацыямі і прыватнымі асобамі, візітныя карткі, асабістыя дакументы і інш. (1910—1931 гг.); А. Цёткі (А.С. Пашкевіч-Кайрыс) — пасведчанні, заліковая кніжка, характарыстыка, праграма для збору матэрыялу аб батлейках Беларусі і інш. (1901—1912 гг.); А. Трапко — навуковыя працы па фізіцы, перапіска (1912 г.); графіні П. Тышкевіч — перапіска з Ю.І. Крашэўскім аб выданні кнігі К.П. Тышкевіча (1869—1875 гг.); В.І. Хлябцэвіча "Промежуточная ступень между белорусами и малоросами" — этнаграфічны нарыс — друк. выд. (1915 г.); А. Цвікевіча — перапіска, інтэрв'ю і інш. (1919—1925 гг.).

Стэнаграма прамоў дэлегатаў народаў Расіі на Усерасійскай дэмакратычнай нарадзе (1917 г.), законы Народнага савета Латвіі аб арганізацыі школ нацыянальных меншасцей і аб асветных установах Латвіі (1919 г.), матэрыялы IV кангрэса міжнародных дэмакратычных сіл за мір (Лондан, 1924 г.), статут таварыства ў г. Вільні (Б/д), бюлетэні ўкраінскага прэс-бюро ў Польшчы (1920 г.) і ў Чэхаславакіі (1924—1925 гг.), групавыя фота ўдзельнікаў украінскай капэлы ў г. Празе (20-я гады).

**ЗМЕСТ**

Камп'ютэрны набор і друкаванне на рызографе БелНДЦДАС.
Адказныя за выпуск Г.Ф. Алейнік і Г.Д. Гарбачоў.
Тыраж 100 экз.
220030, г. Мінск, вул. Кірава, 43.